28 чэрвеня 2019 | № 24 (635)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Які курс уральскага франка?**

**стар. 20**



# Расія вяртаецца ў ПАРЭ
# Час на Беларусь?



Алесь КІРКЕВІЧ

**Расіі вярнулі права голасу ў Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы, якога краіна была пазбаўленая пасля падзеяў 2014 года. Для Крамля гэта вялізны прарыў у плане згортвання санкцый, для Еўропы — чарговая спроба дыялогу з краінай, якую яшчэ нядаўна нібыта лічылі агрэсарам...**

Для неабазнанай у нюансах міжнароднай палітыкі публікі, ПАРЭ, як і сама Рада Еўропы (РЕ), — усяго толькі абрэвіятуры еўрапейскіх структур з цмяным наборам функцый. Калі коратка, то Рада Еўропы была створаная ў 1949 годзе як міжнародная структура, закліканая займацца пытаннямі дэмакратыі і абароны правоў чалавека. У Парламенцкую асамблею пры ёй уваходзяць парламентарыі краінаў-удзельніц. Да 2014 года там была і Расія, але яе выключылі праз анексію Крыму і спрыянне баевікам на ўсходзе Украіны.

Што ж змянілася за пяць гадоў, і чаму Расіі вяртаюць у ПАРЭ права голасу? Сімвалічна, дарэчы, што гэта адбываецца на тле нядаўняй публікацыі вынікаў расследавання пра збіты на Данбасе ў 2014-м «Боінг»: адказнымі былі прызнаныя грамадзяне РФ, сярод якіх і сумнавядомы Ігар «Стралкоў» Гіркін. Рамантычная версія, назавем яе так, зводзіцца да таго, што ўдзел у ПАРЭ патрэбны найперш грамадзянам Расіі, правы якіх парушае дзяржава. Маўляў, такім чынам яны змогуць звяртацца ў Суд па правах чалавека.

Прагматычная версія тычыцца грошай і спробы дыялогу. Па-першае, Расія як удзельніца раней плаціла штогод каля 30 мільёнаў долараў на патрэбы Рады Еўропы (каля 10% агульнага бюджэту структуры). Па-другое, Еўропе патрэбны канал перамоваў і супрацы з мэтай палепшэння стасункаў з Крамлём. Калі з грашыма і перамоўным каналам усё банальна і зразумела, дык са зваротамі грамадзянаў і абаронай іх правоў справа даволі заблытаная: паводле экспертаў, рашэнні Еўрапейскага суда ніякім чынам не ўплываюць на агульны прававы клімат у Расіі, як і ў Турцыі, дарэчы. Канстытуцыйны суд РФ усё адно можа перагледзець і скасаваць тыя рашэнні.

Паводле ўкраінскіх аналітыкаў, практычныя наступствы вяртання Расіі ў ПАРЭ невялікія. Ну, хай сабе дэпутат Жырыноўскі выступіць з еўрапейскай трыбуны і нагаворыць прапагандысцкіх штампаў. Што гэта глабальна зменіць? А вось стратэгічныя наступствы — блізкія да катастрофы. Бо Еўропа, як выявілася, пасля гісторыі з малазійскім «Боінгам», пасля «навічка» ў Солсберы, пасля Крыму і Данбасу, так нічому і не навучылася, але працягвае шукаць дыялог з Крамлём. Цікава таксама, што супраць вяртання Расіі ў РЕ галасавалі ўкраінцы, палякі, шведы, балты і брытанцы. Як бачым, гэта прадстаўнікі краінаў, якія адчуваюць «подых імперыі» зусім блізка ад сваіх межаў.

Усё гэта выглядае як канец «постялцінскай» Еўропы, якая пасля Другой сусветнай вайны стваралася на каштоўнасным падмурку і намагалася больш ніколі не дапусціць рэваншу аўтарытарных рэжымаў. Атрымліваецца, што ўсе дэкляраваныя каштоўнасці — усяго толькі прыгожая рамка, аздоба для прагматычных эканамічных ды палітычных інтарэсаў.




Дык можа прыйшоў час, калі на тое пайшло, і Беларусі патрапіць у Раду Еўропы?

> **Усё гэта выглядае як канец Еўропы, якая ствараласа на каштоўнасным падмурку**

Калі памятаеце, прадстаўнікоў нашай краіны ў ПАРЭ не чакаюць праз практыку смяротнага пакарання ў Беларусі (апошнія прысуды, дарэчы, былі выкананыя перад пачаткам Еўрапейскіх гульняў), а таксама праз сітуацыю з несвабоднымі выбарамі. Дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў зараз запрашаюць у асобныя еўрапейскія краіны, але сам орган на Захадзе дагэтуль не лічыцца легітымным.

З аднаго боку, кейс Беларусі выглядае вельмі падобным да расійскага. З іншага — не. Па-першае, застацца за бортам Рады Еўропы, у якую ўжо нават Расію вярнулі, нават неяк сорамна. Быццам гэта ў нас «Боінгі» збіваюць ды «навічок» па ўсім свеце супрацоўнікаў спецслужбаў дасылаюць разліваць. Па-другое, ёсць яшчэ і «метафізічны» фактар — мяжа Еўропы павінна праходзіць акурат недзе паміж Оршай і Смаленскам, а не губляцца на бязмежных прасторах Еўразіі. Калі ж Расія вяртаецца ў ПАРЭ, а Беларусь не, мы зноўку выяўляемся нейкай «чорнай дзірой» на мапе Еўропы. Крыўдна.

Кажуць, зрэшты, што для афіцыйнага Мінску верагодная саступка з боку Еўропы была б фактарам, які канчаткова легалізуе айчынны аўтарытарызм. І смяротнае пакаранне застанецца, і выбары па традыцыйным сцэнары, і «творчыя эксперыменты» сілавікоў... Рэжым і сістэма кіравання наўпрост канчаткова закансервуюцца ў сваім сённяшнім выглядзе, а які-небудзь чарговы сенатар зможа агучваць свае рэфлексіі пра «асаблівы шлях» ды «попыт на дыктатуру» ўжо з еўрапейскай трыбуны.

Можа, яно і так. Можа, Беларусь яшчэ і не гатовая ў плане правоў чалавека, выбараў, стандартаў судовай і пенітэнцыярнай сістэмы. Але мы бачым на свае вочы, што ўсё гэта, па вялікім рахунку, не цікава і прадстаўнікам Еўропы. Калі б Беларусь была сур'ёзным гульцом у рэгіёне, нам бы даравалі і гэта, і звыш гэтага. Размова ж пра грошы і ўплывы, а не пра прыгожыя філасофскія абстракцыі. А грошай і ўплываў мы пакуль акурат не маем, таму, мяркую, Расія зможа сабе дазволіць і чарговы «Боінг», і чарговых палонных украінскіх маракоў, і яшчэ шмат чаго. Беларусь жа пакуль, падабаецца нам ці не, пачакае ў калідоры ля зачыненых дзвярэй.

# ДАІ здала ў архіў справу збітага машынай абаронцы Курапатаў

**Абаронца Курапатаў Дзяніс Урбановіч рыхтуе скаргу ў пракуратуру і заяву ў суд на ДАІ Мінскай вобласці.**

Актывіст не згодны з тым, што ДАІ спыніла справу супраць кіроўцы, які збіў яго на аўтамабілі каля рэстарацыі «Поедем поедим».

Інцыдэнт адбыўся ў лютым 2019 года. Урбановіч удзельнічаў у пікетаванні рэстарацыі, калі туды на сваім аўта прыехаў музыка Анатоль Лабанок.

Паводле Лабанка, ён паспрабаваў аб'ехаць пікет, але Урбановіч кінуўся пад колы. Актывіст з гэтым не згодны і кажа, што Лабанок свядома паехаў на людзей.

Ад падзення пасля наезду аўтамабіля ў Урбановіча пашкодзіліся плячо і шыя, лекары наклалі яму гіпс. Першыя дні актывіст правёў у ложку, а ўсяго насіў гіпс 12 дзён. Пасля ДТЗ супрацоўнікі ДАІ склалі пратакол на Лабанка, была заведзена адміністрацыйная справа.

Больш як праз месяц пасля ДТЗ Дзяніс Урбановіч азнаёміўся са справай і не пабачыў там медыцынскіх даведак аб сваіх цялесных пашкоджаннях. Актывіст настаяў на правядзенні медыцынскай экспертызы. Яго накіравалі ў Бараўлянскі аддзел Камітэту судовых экспертыз. Аднак пра выніікі Урбановічу не паведамілі і ў пачатку чэрвеня выклікалі ў Мінскае абласное ДАІ для азнаямлення са справай.

«Спачатку сустрэўся з супрацоўнікам Дзмітрыем Юкацем, які займаўся маёй справай. Той здзівіўся, чаго я прыйшоў. Тады я напісаў заяву на азнаямленне са справай. Доўга хадзіў з маёй заявай, дайшлі да намесніка начальніка абласнога ДАІ Родчанкава. Той яшчэ гадзіну разбіраўся, кудысьці тэлефанаваў, як раптам сказаў, што, паколькі ў мяне няма цялесных пашкоджанняў, справу яшчэ месяц таму спынілі і адправілі ў архіў. І дадаў, што мне па пошце нібыта высылалі паведамленне, хоць я нічога не атрымліваў».

Урбановіч напісаў новую заяву, каб вярнулі справу з архіва і каб ён мог азнаёміцца з вынікамі экспертызы.

«Як гэта — няма пашкоджанняў? Амаль два тыдні быў у гіпсе, спачатку ўвогуле рухацца не мог — і няма пашкоджанняў? Буду далей разбірацца і скардзіцца», — сказаў Дзяніс Урбановіч.

**Паводле svaboda.org**

# Суд аштрафаваў «за арганізацыю выставы невядомага мастака»

**Віцяблянін Дзяніс правёў 6 траўня ў прыватным памяшканні мастацкую выставу. А праз месяц суд Першамайскага раёна Віцебску аштрафаваў яго як арганізатара несанкцыянаванага масавага мерапрыемства на 30 базавых велічынь.**

Імпрэза праходзіла на тэрыторыі былой віцебскай фабрыкі «КІМ», якая даўно збанкрутавала, а яе памяшканні выкупленыя прыватнікамі, паведамляе «Віцебская Вясна». У адным з іх і была зладжаная выстава «Катарсіс». На ёй экспанавалася 25 працаў маладога мастака з Брэста Dima Wesko. Уваход на вечарыну ў стылі «постындустрыяльнага аўдыё-візуальнага авангарду» быў вольны.

Дзяніс расказвае, што каля 23.00 у памяшканне зайшлі міліцыянты і запыталіся, ці ёсць дазвол на правядзенне мерапрыемства.

«Мы ў адказ: на што дазвол? На тое, што мы тут проста адпачываем?..» — распавядае Дзяніс. Ён сцвярджае, што імпрэза сапраўды праходзіла на прыватнай тэрыторыі і што з гаспадаром памяшкання было дамоўлена аб яе правядзенні.

Даведаўшыся, што арганізатарам вечарынкі быў Дзяніс, міліцыя перапісала ягоныя пашпартныя дадзеныя і з'ехала, забраўшы з сабой пецярых непаўналетніх, каб праверыць іх на ўтрыманне алкаголю ў крыві (усе аказаліся цвярозымі).

Недзе праз месяц, 2 чэрвеня, маёр міліцыі Сяргей Козік выклікаў Дзяніса ў аддзяленне і склаў на яго пратакол за правапарушэнне, прадугледжанае часткай 2 артыкулу 23.34 КаАП РБ. Паводле пратаколу, Дзяніс парушыў закон «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» тым, што «арганізаваў і правёў іншае масавае мерапрыемства — культурнае мерапрыемства, выставу карцін невядомага мастака ў складскім памяшканні» (ч. 2 арт. 23.34).

Суд Першамайскага раёна прызнаў віцябляніна вінаватым і пакараў штрафам у памеры 30 базавых велічынь.

**Паводле spring96.org**

# Чаго краіне не хапае?

Кірыл ІВАНОЎ

**На балі выпускнікоў ВНУ Лукашэнка акрамя віншаванняў зрабіў некалькі заяваў, некаторыя з якіх маглі выклікаць ва ўчорашніх студэнтаў заканамернае здзіўленне.**

Вось некалькі прыкладаў. Кіраўнік заклікаў выпускнікоў «асабліва асцярожна ставіцца да прыродных рэсурсаў». Як паведамляе прэс-служба правадыра, ён сказаў: «Нам трэба ператварыць гэты кавалак зямлі, імя якому Беларусь, у самае зручнае і камфортнае месца для жыцця не толькі вашага, але і вашых дзяцей, унукаў. Давайце зробім так, каб не было хаця б горш, чым цяпер. Не ў тым плане, што будзем багацей, будуць ва ўсіх аўтамабілі, электрамабілі самага высокага класа і гэтак далей. Не ў гэтым справа. Нам трэба захаваць утульную, камфартабельную для жыцця краіну. Вось гэта галоўнае. Усё астатняе — справа нажыўная. Мы не павінны загубіць тую прыроду, якую мы атрымалі ад Госпада, таму што яе аднавіць ці купіць будзе немагчыма, гэта не аўтамабіль».

Як тут не ўзгадаць свежыя скандалы, звязаныя з акумулятарным заводам у Брэсце, Светлагорскім цэлюлозна-кардонавым камбінатам і іншымі прадпрыемствамі, якія выклікаюць пытанні ў эколагаў і тых беларусаў, якім «пашчасціла» жыць побач.

Усе гэтыя заводы і камбінаты з'явіліся ў краіне дзякуючы намаганням уладаў, якія ігнаруюць, як правіла, інтарэсы мясцовых жыхароў да апошняга. І вось адказваць за захаванне «ўтульнай для жыцця краіны» прапануецца тым, хто толькі атрымаў дыплом.

Або вось яшчэ адкрыццё — Лукашэнка распавёў, што вышэйшую адукацыю ў Беларусі атрымліваюць і замежныя студэнты, якія прадстаўляюць больш чым сто краін. «І попыт каласальны. Мы не можам нават прыняць за вялікія грошы ўсіх, хто хоча, таму што няма дзе іх пасяліць, не хапае інтэрнатаў і не хапае вучэбна-лабараторных карпусоў, класаў, будынкаў, аўдыторый», — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

Пра недахоп інтэрнатаў беларускія студэнты ведаюць не па чутках. Шмат каму з іх давялося ў гэтым годзе пацясніцца дзеля гасцей Еўрапейскіх гульняў, часова перасяліцца ў менш камфортныя ўмовы. Аднак на гэтыя самыя гульні было выдаткавана 260 мільёнаў долараў.

Цікава, колькі на тыя грошы можна было пабудаваць інтэрнатаў і абсталяваць лабараторый і аўдыторый? А калі сюды ж дадаць выдаткі на новы будынак Вярхоўнага Суда і гомельскую прыбіральню, якая праславілася сваёй цаной?

**Gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

# Гродзенец паставіў палатку перад адміністрацыяй раёна і сабраўся там жыць

**Аляксандр Лаўрэнцьеў з Аб'яднанай грамадзянскай партыі правёў сімвалічную акцыю: паставіў палатку перад будынкам Адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Гродна. Так ён хацеў прыцягнуць увагу да праблемы недахопу жылля і вялікіх чэргаў на яго. Праз гадзіну кіраўнік адміністрацыі Алег Бялінскі выйшаў і прапанаваў яшчэ раз абмеркаваць яго заяву, піша hrodna.life.**

— Я тут хутка буду жыць, таму што дома ў мяне ўжо жыць няма дзе. У мяне 34,5 квадратных метры жылля, на якіх пражывае пяць чалавек. Цяпер у мяне малодшая дачка пойдзе ў школу, і мне пісьмовы стол толькі да столі прыбіваць, каб яна магла займацца. З адміністрацыі мне прыходзяць толькі адмовы (на арэнднае жыллё. — Рэд.). Я прапаную выдаваць усім такія палаткі — эканомна, даступна, можна жыць. На крайні выпадак, у летні перыяд перакантавацца, — кажа Аляксандр. Ён упэўнены, што такая праблема ў 30% насельніцтва краіны.

— Зараз у Беларусі праходзяць ІІ Еўрапейскія гульні, на якія выдаткавана каля 100 мільёнаў долараў. З разлікаў па цэнах «Гроднажылбуда» — 500 долараў за квадратны метр — гэта 3000 кватэр сярэдняй плошчай 60 квадратных метраў.

Аляксандр па прафесіі кухар-кандытар. У яго ёсць жонка і двое дзяцей — дачка пяці гадоў і сын трох гадоў. Яны жывуць з мамай Аляксандра. Пяць чалавек дзеляць 34,5 квадрата. Аляксандр баіцца, што сацыяльныя службы могуць убачыць умовы, у якіх жывуць дзеці, і ў сям'і з'явяцца праблемы. Да таго ж, з-за адсутнасці асабістай прасторы ў сям'і ўжо пачаліся канфлікты.

Аляксандр стаіць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў з лістапада 2013 года. Ён хоча атрымаць арэнднае жыллё. Прэтэндуе на кватэры менш за 60 квадратных метраў, каб застацца ў чарзе і пацягнуць фінансава. Пакуль на ўсе заявы адказвалі адмовай. Улады прапануюць уладкавацца на дзяржпрадпрыемства з інтэрнатам, але з заробкам каля 300 рублёў. Аляксандр звяртаўся нават у прэзідэнцкую камісію — на кожнага чальца сям'і не хапае пражытачнага мінімуму. Там адправілі ў гарвыканкам, ад якога пакуль няма адказу.

Аляксандр ужо беспрацоўны. Да гэтага працаваў у ТАА «Архіфуд». Кажа, плацілі яму каля 650 рублёў. Са святочнымі днямі атрымлівалася больш. Акрамя асноўнай працы, падпрацоўваў на будоўлі. Жонка працуе кухарам. Абодва атрымаць жыллё ад месца працы не могуць.

— Гэта жэст чалавека, які проста не бачыць выйсця. Перад тым, як выставіць палатку, мы зайшлі ў адміністрацыю і пацікавіліся, ці можна атрымаць жыллё. Там склалі некалькі паперак, далі распісацца — чакайце, спадзявайцеся, — каментуе Мікалай Салянік, аднапартыец Аляксандра.

Праз 10 хвілін пасля таго, як Аляксандр паставіў палатку, прыйшлі супрацоўнікі Дэпартамента аховы, якіх выклікалі ў адміністрацыі. Яны перапісалі асабістыя дадзеныя Аляксандра Лаўрэнцьева і Мікалая Саляніка. Але парушэнняў у дзеяннях актывістаў не ўбачылі.

Таксама прыйшоў участковы і міліцыянт. Яны зноў праверылі дакументы.

Праз гадзіну з адміністрацыі выйшаў яе кіраўнік Алег Бялінскі. Ён папрасіў прыбраць палатку, каб «не знішчаць газон». І прапанаваў разгледзець магчымыя варыянты жылля.

Аляксандр прапанаваў напісаць заяву на трохпакаёвую кватэру з частковымі выгодамі ў аднапавярховым шматкватэрным доме 1969 года. Умовы можна палепшыць самім і ўсталяваць выгоды дома. Часам на такія кватэры наогул няма заяў, так што шанцы атрымаць жыллё высокія.

Аляксандр паглядзеў кватэру, але ў сям'і няма грошай, каб прывесці яе ў парадак. Яны разглядаюць іншыя варыянты.

Алег Бялінскі кажа, што яго дапамога не звязаная з тым, што Аляксандр правёў такую акцыю. Ён заўсёды гатовы да канструктыўнага дыялогу. Напрыклад, па серадах у яго час прыёму.

— На чарзе ў адміністрацыі стаіць больш за 15 800 чалавек. Гэта грамадзяне, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Яна пастаянна змяншаецца: два гады таму было больш за 18000. У 2011 годзе было 28000, — распавядае Алег Бялінскі.

Некаторыя людзі стаяць у спісе з 1979-га года. Іх больш за 1000 чалавек. Праўда, ім ужо прапаноўвалі будаўніцтва, але яны па розных прычынах адмаўляліся. Паводле закону, зняць з уліку гэтых людзей не могуць.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Цягнік, стой! Раз-два!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Відаць, нашы чыноўнікі разлічваюць, што ў час летніх адпачынкаў прасцей працягнуць праз парламент непапулярныя законы. Такія, як, напрыклад, так званы «закон Раўкова» — новыя правілы прызыву ў войска. Маўляў, ваенкаматы істотна недабіраюць прызыўнікоў з-за нядобрасумленных «ухілістаў», якім немагчыма ўручыць позву. І Мінабароны пайшло па звыклым шляху «закручвання гаек».**



Фота www.pidsumky.com.ua

Галоўныя навіны закона: адтэрміноўка для атрымання адукацыі будзе прадстаўляцца толькі адзін раз. То-бок, калі маладзён адвучыўся ў ВНУ, то перад магістратурай ён павінен будзе адслужыць у арміі. Калі малады чалавек адвучыўся ў каледжы або іншай установе сярэдняй спецыяльнай адукацыі, то перад паступленнем у ВНУ ён павінен будзе адслужыць у арміі.

«Ухілістам» не трэба будзе ўручаць позву асабіста: дастатковым будзе факт адпраўкі позвы прызыўніку, а калі ён яе па нейкіх прычынах не атрымаў, — гэта яго праблемы.

Адсутнасць законных падстаў для непраходжання службы ў войску прывядзе да таго, што чалавека ўнясуць у спіс невыязных з Беларусі. Тых, хто не служыў, не маючы на гэта падстаў, будзе забаронена браць на працу на дзяржаўную службу, у Следчы камітэт, МНС, КДК і міліцыю.

Таксама прадугледжаны змены ў Кодэкс аб адукацыі. Прапануецца дазволіць выпускнікам, якім трэба адпрацаваць па размеркаванні, замяніць размеркаванне службай па кантракце «не менш тэрміну абавязковай працы». У гэтым выпадку ім не трэба будзе кампенсаваць грошы, выдаткаваныя на навучанне.

Новаўвядзенні не закрануць тых, каму да моманту ўступлення закона ў сілу споўніцца 27 гадоў. Але калі на момант увода дакумента ў дзеянне малады чалавек ужо атрымаў адну адтэрміноўку ад войска для атрымання/працягу адукацыі, то права на другую адтэрміноўку ў яго ўжо не будзе.

Гэтыя драконаўскія захады выклікалі шок у спецыялістаў. Вайсковы эксперт Аляксандр Алесін лічыць такія ініцыятывы «катастрофай». Па-першае, знізіцца ўзровень адукаванасці моладзі — не факт, што пасля войска чалавек, які хацеў пайсці ў аспірантуру/магістратуру, працягне свой шлях. Па-другое, забарона прымаць «не служылых» у органы дзяржкіравання падарве тыя самыя органы дзяржкіравання: чыноўнікаў у нас значна больш, чым увесь склад войска. Па-трэцяе, наўрад ці чалавек, які пайшоў у войска «з-пад бізуна», стане нармальным вайсковым спецыялістам.

Толькі за суткі пад петыцыяй з патрабаваннем да парламента адхіліць гэты законапраект падпісаліся 10 тысяч (!) чалавек. Падпісалася б, можа быць, і больш, але «закон Раўкова» паспрабавалі працягнуць тэрмінова: шырока вядома пра яго стала 24 чэрвеня, а ўжо 26 чэрвеня парламент разглядаў і прыняў дакумент у першым чытанні.

Што тут можна сказаць? Каб маладзёны ішлі ў войска, трэба не толькі нармальнае патрыятычнае выхаванне (якім, дарэчы, павінны займацца не ў войску, а ў тых самых навучальных установах, у якія будучыя прызыўнікі проста не трапяць). Патрэбнае нармальнае войска, у якім была б немагчымая «справа Коржыча». Патрэбная нармальная адказнасць, каб сваякі ў выпадку «справы Коржыча» ці «справы Арцёма Басцюка» (ён таксама, паводле меркавання родных, быў забіты ў вайсковай часці ў Барысаве) былі ўпэўненыя, што злачынцы панеслі патрэбную кару, каб забойства не ператваралася ў «нестатутныя адносіны».

Карацей, найперш трэба навесці парадак у самім войску, каб людзі не баяліся туды ісці. А справы, кшталту «справы Коржыча», выклікаюць у бацькоў маладзёнаў толькі адну эмоцыю: «Не пушчу свайго ў войска!» І тут ужо нават не толькі ад маладзёна «ўхіленне» залежыць...

Дарэчы, наконт «парадку». «Рука руку мые» ў нас не толькі ў арміі. Намеснік генпракурора Беларусі Аляксей Стук паведаміў, што пракуратура «не выявіла» незаконных дзеянняў міліцыянтаў у час масавай «праверкі» прадстаўнікоў цыганскай дыяспары ў Магілёўскай вобласці. Нагадаем, у траўні засіліўся супрацоўнік ДАІ Патаповіч, але перад гэтым даслаў паведамленне, што яго выкралі цыгане. Міліцыя вельмі жорстка «прашарсціла» ўсю дыяспару. На дзеянні супрацоўнікаў МУС наракаў нават Лукашэнка, а кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Качанава вымушаная была паехаць да цыганаў і там публічна прасіць прабачэння.

Дык вось, па меркаванні Стука, «у супрацоўнікаў міліцыі былі ўсе падставы такім чынам масава правяраць прадстаўнікоў цыганскай дыяспары». Пракуратура выявіла «нязначныя працэсуальныя парушэнні з боку супрацоўнікаў міліцыі, якія пасля ліквідавалі». «Акрамя таго, ніводнай заявы (з нагоды дзеянняў міліцыі) ад асоб цыганскай нацыянальнасці не паступіла», — сказаў Стук.

Цікава, за што тады выбачалася Качанава і на што наракаў Лукашэнка? Ці, паводле меркавання намесніка генпракурора, Аляксандр Рыгоравіч павінен узяць свае словы назад? І як быць з Качанавай, якая паабяцала цыганам, што «ўсе скаргі будуць разгледжаныя», а Стук, як ён кажа, ніводнай не бачыў?

І дагэтуль у нас працягваецца «баданне» з уладамі наконт сумнавядомага антынаркатычнага 328-га артыкулу Крымінальнага кодэкса. Яго «змякчэнне» не задаволіла грамадскасць. Зараз да гэтага змагання, падаецца, падключаецца ААН, і яе структура — Сусветная арганізацыя аховы здароўя.

Прынамсі, каардынатар праграм па інфекцыйных захворваннях краінавага офіса СААЗ у Беларусі Вячаслаў Гранько распавёў, што, паводле дадзеных апошніх даследаванняў, на аднаго «адкрытага» спажыўца ін'екцыйных наркотыкаў прыходзіцца пяць «схаваных». А не лечацца беларусы ад наркazaлежнасці, бо баяцца патрапіць у поле зроку УУС.

Сістэма ААН у Беларусі ў красавіку накіравала ліст у парламент, дзе выказала занепакоенасць жорсткай крыміналізацыяй ужывання наркотыкаў і прапанавала альтэрнатыўныя варыянты. Напрыклад, у Эстоніі чалавек, што трапіўся на наркотыках, выбірае, лячыцца яму або ісці ў турму.

Можа, дэпутатам варта прыслухацца да грамадства і ААН?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Павел Шаройка

**Украінскі журналіст, асуджаны ў Беларусі за шпіянаж на восем гадоў пазбаўлення волі, падаў прашэнне аб памілаванні.**



Як паведаміў на прэс-канферэнцыі намеснік генеральнага пракурора Беларусі Аляксей Стук, цяпер гэта прашэнне разглядае Камісія па памілаванні. Стук адзначыў, што «канчатковае рашэнне адкладзена да наступлення пэўных умоваў», не патлумачыўшы, пра якія ўмовы ідзе гаворка.

Пра затрыманне Шаройкі стала вядома 20 лістапада 2017 года. Тады ў КДБ, заявілі, што, быццам каардынацыю шпіёнскай дзейнасці ажыццяўляў супрацоўнік Галоўнага ўпраўлення разведкі Мінабароны Украіны Ігар Скварцоў, які працаваў пад прыкрыццём пасады саветніка пасольства Украіны ў Мінску. Скварцоў быў высланы з Беларусі.

19 лютага 2018 года Вярхоўны суд Беларусі прысудзіў Шаройку да васьмі гадоў пазбаўлення волі за шпіянаж. У Камітэце дзяржбяспекі Беларусі заявілі, што Шаройка стварыў агентурную сетку з грамадзян Беларусі, якія за ўзнагароджанне збіралі для яго дадзеныя разведвальнага характару.

Раней у КДБ не выключалі, што Шаройку могуць памілаваць.

## Рыгор Кастусёў

**Партыя БНФ амаль вырашыла свае фінансавыя праблемы шляхам краўдфандынгу і збіраецца ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах.**



Як распавёў «Беларускаму партызану» старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў, па стане на пачатак лета партыя сабрала больш за 30 тысяч беларускіх рублёў ахвяраванняў. Зараз пытанне фінансавання офіса стаіць не так востра, хаця па-ранейшаму актуальнае. «Запазычанасцяў за камунальныя плацяжы ў нас няма, і не стаіць пытанне пра тое, што заўтра мы можам апынуцца на вуліцы», — сказаў Кастусёў.

У бліжэйшую суботу, 29 чэрвеня, адбудзецца сойм партыі, адно з пытанняў якога — падрыхтоўка пазачарговага з'езда па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Пры гэтым, як адзначыў лідар Партыі БНФ, «ні для каго не сакрэт, што спісы дэпутатаў складаюцца загадзя. Думаю, і ў гэты раз мы ў тыя спісы не трапім».

Паводле яго слоў, партыя пойдзе на парламенцкія выбары, «каб заявіць, што мы ёсць». «Мы павінны паказаць не толькі беларусам, але і ўсяму свету, як у нашай краіне праходзяць выбары. Безумоўна, уладзе будзе прасцей, калі ў выбарчай кампаніі не будуць удзельнічаць апазіцыйныя кандыдаты. Тады можна паказаць карцінку, што выбары прайшлі ідэальна, па стандартах. Але на самай справе свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі няма», — сказаў ён.

Сам Кастусёў таксама мае намер балатавацца ў дэпутаты.

## Аркадзь Іваноўскі



**У аўторак, 24 чэрвеня, загінуў беларускі музыка Аркадзь Іваноўскі, апошні гітарыст мулявінскіх «Песняроў». Па непацверджаных звестках, ён патануў.**

Пра гэта паведамляе форум прыхільнікаў «Песняроў». «Сумная навіна прыйшла ад Аляксандра Папроцкага з Мінска (перадаў Алег Аверын). Апошні гітарыст «Песняроў» да распаду Аркадзь Іваноўскі патануў. Падрабязнасці пакуль невядомыя», — напісаў адміністратар форуму Алег Верашчагін.

Аркадзь Іваноўскі скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут і Мінскі інстытут культуры, з 1982 года працаваў у эстрадных калектывах, у тым ліку ў гурту «Тоніка», ансамблі песні і танца Узброеных Сіл Беларусі. У ансамблі Уладзіміра Мулявіна «Песняры» Аркадзь Іваноўскі выступаў з 1996 года. Калі ў «Песнярах» адбыўся раскол, гітарыст не далучыўся да новага ансамбля «Беларускія песняры» і застаўся ў калектыве Мулявіна. Гітарыст таксама супрацоўнічаў з Беларускім дзяржаўным аркестрам Міхаіла Фінберга. З 2004 года Іваноўскі працаваў на кафедры мастацкай творчасці і прадзюсарства ў Мінскім інстытуце сучасных ведаў імя Шырокава і займаўся джазавымі праектамі.

У жніўні Іваноўскаму споўнілася б 60 гадоў.

Сяргей ПУЛЬША

# Канстытуцыйны суд: перамогі і паразы

**Пасля публікацыі ў №22 НЧ артыкула Аляксандра Кур'яновіча «Час Суда, або Хто стаяў на варце Канстытуцыі», у рэдакцыю звярнуўся былы суддзя Канстытуцыйнага Суда Міхаіл Пастухоў. Ён адзначыў, што яму было цікава чытаць матэрыял Кур'яновіча як непасрэднаму ўдзельніку падзей, бо некаторых нюансаў ён нават не ведаў. Аднак у нечым з гісторыкам Міхаіл Пастухоў не згодны: з пэўнымі тэзамі Кур'яновіча ён хацеў бы паспрачацца і некаторыя моманты ўдакладніць.**




Фота www.newsbel.by

### Хто працаваў над законапраектам?

Найперш размова пра працу над законапраектам аб Канстытуцыйным Судзе. Сапраўды, бацькам-заснавальнікам, хросным бацькам, як піша Кур'яновіч, быў Дзмітрый Булахаў, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета 12 склікання па заканадаўстве. Але ў якасці «суаўтараў» законапраекта Кур'яновіч называе Аляксандра Вашкевіча, Міхаіла Чудакова, самога Пастухова, Віктара Камянкова і Алену Дзягілеву. «Чудакоў і Камянкоў наогул не мелі дачынення да гэтага законапраекта. Камянкоў быў адным з аўтараў-распрацоўшчыкаў канцэпцыі судова-прававой рэформы, што была прынятая раней, у красавіку 1992 года», — кажа Пастухоў.

Алена Дзягілева на той час працавала ў сакратарыяце Вярхоўнага Савета і была тэхнічным работнікам, дапамагала ў пэўных тэхнічных момантах, але ў распрацоўцы законапраекта не ўдзельнічала.

«Аляксандр Вашкевіч па просьбе Булахава падрыхтаваў «рыбу» дакумента, напрацоўкі ў сферы канстытуцыйнага заканадаўства, але над праектам закона аб Канстытуцыйным Судзе ўвесь час працавалі мы з Дзмітрыем Булахавым. Булахаў удзельнічаў у гэтым не толькі як старшыня камісіі па заканадаўстве, але і як зацікаўлены юрыст, які — гэта я магу сказаць дакладна — марыў і спадзяваўся сам папрацаваць у КС. На жаль, не атрымалася, хоць ён і зрабіў для гэтага шэраг захадаў», — адзначае Пастухоў.

### Закон і парламент

Метамарфозы, звязаныя з праходжаннем законапраекта ў парламенце, для Пастухова былі надзвычай цікавымі, бо гэтым займаўся Дзмітрый Булахаў, а сам Пастухоў не вельмі цікавіўся тым працэсам.

Аднак былы суддзя КС аспрэчвае тэзіс Кур'яновіча, што Канстытуцыйны Суд ад пачатку не збіраўся разглядаць скаргі грамадзян на парушэнне іх канстытуцыйных правоў і свабодаў. «Як распрацоўшчык дакумента адзначу, што мы надрэнна вывучылі заканадаўства еўрапейскіх краін і іх палажэнні аб канстытуцыйных судах. І мы лічылі, што суд — на тое і суд, каб разглядаць скаргі грамадзян. Аднак на адной з сустрэчаў Булахаў сказаў: ад гэтай нормы трэба часова адмовіцца. Шэраг дэпутатаў настойліва раілі яму не ўключаць яе ў закон, бо тады Канстытуцыйны Суд стане бюро даведак, што будзе разглядаць толькі скаргі грамадзян. Маўляў, спачатку трэба вызначыць кампетэнцыю, звязаную з праверкай актаў на канстытуцыйнасць па ініцыятыве ўпаўнаважаных суб'ектаў», — распавядае Пастухоў.

Гэта была слушная заўвага, і асабіста Пастухоў на палажэнні пра разгляд скаргаў грамадзян не настойваў, маркуючы, што яно будзе ўключанае ў закон пазней. Але «пазней» не атрымалася — і КС і сёння не ўпаўнаважаны разглядаць скаргі грамадзян на парушэнні іх канстытуцыйных правоў.

### Першы склад суда

Па словах былога суддзі КС, Кур'яновіч прыводзіць у артыкуле цікавыя дэталі выбараў першага складу суда. Аднак «для гісторыі» заўважае: сярод прэтэндэнтаў у суддзі КС сапраўды быў Віктар Ганчар, але ён уваходзіў у «доўгі спіс» кандыдатур.

Першапачаткова на пасаду суддзяў было каля 40 прэтэндэнтаў. Асноўным сітам па зацвярджэнні кандыдатур у суддзі быў прэзідыум Вярхоўнага Савета. Менавіта прэзідыум вызначыў спіс з 10 кандыдатур, якія ён лічыў найбольш прыдатнымі для такой працы. Цікава, што ў гэтым спісе не было і самога Міхаіла Пастухова! «Мяне выключылі на той падставе, што «малады яшчэ» — на момант галасавання мне ледзь споўнілася 36 гадоў», — пасміхаецца Міхаіл Іванавіч.

Але Булахаў настаяў, каб Пастухова ў спіс вярнулі: па-першае, як распрацоўшчыка законапраекта, па-другое — як самага маладога на той час доктара юрыдычных навук.

«Кур'яновіч піша, што суддзяў было 10, але нас было 11. 11-м быў я — па патрабаванні Булахава. З гэтага спісу не абралі Аляксандра Марыскіна, які працаваў у Вярхоўным Савеце ў сакратарыяце, і Марыну Сатоліну, якую рэкамендавала фракцыя БНФ. Яны не атрымалі неабходнай падтрымкі дэпутатаў», — згадвае Пастухоў. У «шорт-лісце» дакладна не было Анатоля Красуцкага і Вячаслава Любавіцкага, упэўнены Пастухоў.

Такім чынам, было абрана 9 суддзяў — першы склад Канстытуцыйнага Суда. Кандыдатуру старшыні павінен быў унесці прэзідэнт, які на той момант — канец сакавіка 1994 года — яшчэ не быў абраны.

### Чыя крэатура Ціхіня?

Пастухоў «не зусім падзяляе» меркаванне Кур'яновіча, што будучы старшыня КС Валерый Ціхіня быў у добрых адносінах з Лукашэнкам. «Я вазьму на сябе адказнасць сцвярджаць, што кандыдатура Ціхіні была, хутчэй, ад асноўнага прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду — Вячаслава Кебіча. Ціхіня ішоў у суд не проста як юрыст, не проста як дэпутат, а маючы, хутчэй за ўсё, вызначанае заданне і прэтэндуючы на пэўную пасаду, — пасаду старшыні суда», — мяркуе юрыст.

Ад Лукашэнкі кандыдатам на старшыню КС быў толькі Дзмітрый Булахаў. «Наколькі мне вядома, гэта было абяцана Булахаву, калі пераможа Лукашэнка. Спроба зрабіць яго старшынёй суда была зроблена ў сакавіку 1995 года. У КС заставаліся, як я ўжо казаў, дзве вакансіі, і разлічвалі, што адна з гэтых вакансій будзе належаць Булахаву, які шмат у чым спрыяў прыходу Лукашэнкі да ўлады. Да таго ж Булахаў прэтэндаваў на пасаду чальца і старшыні КС яшчэ тады, калі толькі фармаваўся склад суда. Аднак па шэрагу прычын яго кандыдатура не была зацверджаная», — кажа Пастухоў.

Другім найбольш верагодным суддзёй мог стаць доктар юрыдычных навук Мікалай Сільчанка. Ён быў тады прафесарам юрфака Гродзенскага ўніверсітэта і адным з выбітных тэарэтыкаў права. Але нечакана з'явіліся яшчэ дзве кандыдатуры — дацэнты юрфака БДУ Аляксандр Вашкевіч і Міхаіл Чудакоў. Наколькі вядома Пастухову, у іх абранні быў зацікаўлены Ціхіня: ён у свой час быў дэканам юрфаку БДУ і карыстаўся дастатковым аўтарытэтам сярод выкладчыкаў. Можна было меркаваць, што гэтыя людзі ўмацуюць стан Ціхіні ў Канстытуцыйным Судзе.

Камуністы ў парламенце падтрымалі дзве апошнія кандыдатуры — у процівагу Булахаву і Сільчанку, якія былі моцнымі аўтарытэтнымі юрыстамі, і па ўсіх параметрах павінны былі прайсці ў КС.

Паколькі Булахаў у суд не трапіў, і на старшыню быў узгоднены Валерый Ціхіня як найбольш масціты, дасведчаны і вядомы юрыст. Аднак ужо ў той момант Лукашэнка аддаваў перавагу Рыгору Васілевічу. «Калі Лукашэнка ўносіў кандыдатуру Ціхіні ў якасці старшыні суда, было абумоўлена, што на пасаду намесніка старшыні абяруць Васілевіча. Аднак права абіраць намесніка старшыні належала суддзям, а суддзі ўжо разабраліся, хто ёсць хто, і абіраць Васілевіча намеснікам не захацелі. Яны абралі больш аўтарытэтнага і дасведчанага юрыста Валерыя Фадзеева», — адзначае Пастухоў.

Далейшыя падзеі паказалі, што Лукашэнка сапраўды прызначыў Ціхіню вымушана. Калі Канстытуцыйны Суд пачаў прызнаваць яго ўказы неканстытуцыйнымі, Лукашэнка адразу выказаўся супраць старшыні і настойваў, каб суд яго пераабраў, аддаўшы перавагу Васілевічу. Але першы склад КС выявіў прынцыповасць і адмовіўся ад прапановы, ад якой, падаецца, адмовіцца было нельга, — згодна з рашэннем суддзяў, старшынёй застаўся Ціхіня. Адносіны паміж Лукашэнкам і Ціхінем рэзка пагоршыліся, і да рэферэндуму 1996 года Ціхіня наогул не меў зносінаў з Лукашэнкам. З іншага боку, тое дало магчымасць суду праводзіць прынцыповую і самастойную палітыку пры праверцы канстытуцыйнасці заканадаўчых актаў.

### Перамога і параза

Апошні раздзел артыкула «Час Суда...» тычыцца рэферэндуму 1996 года. «Слушна адзначана, што з лета 1995 года праводзілася палітыка на паслабленне суда, фармавалася «пятая калона», якую ўзначаліў Васілевіч, былі спробы дыскрэдытаваць суд. Але КС усё ж у большасці выступіў супраць новай рэдакцыі Канстытуцыі, і публічна казаў, што гэта — недапушчальная практыка, якая прывядзе да сур'ёзнага дысбалансу ў падзеле ўладаў і да дыктатуры», — адзначае Пастухоў.

«Трэба аддаць належнае першаму складу КС: у вельмі складаных абставінах — гістарычных, палітычных, псіхалагічных — яму ўдалося прыняць рашэнне, што вынікі рэферэндуму па пытанні Канстытуцыі могуць мець толькі рэкамендацыйны характар. Гэта былі гіганцкія высілкі суда, які змог прыняць хаця б такое рашэнне. Спасылка на гэтае рашэнне была зроблена ў рэферэндумных бюлетэнях. Гэта было прававой гарантыяй, што новай рэдакцыі Канстытуцыі нельга надаць абавязковую сілу. Лукашэнка ж сваім указам «адмяніў» рашэнне КС ад 4 лістапада 1996 года пра рэкамендацыйны характар галасавання. Адпаведна, увядзенне ў дзеянне новай Канстытуцыі ад пачатку было незаконным — і засталося незаконным», — кажа Пастухоў.

На гэтай падставе ўсё, што адбывалася ў Беларусі пасля 1996 года, можна назваць неканстытуцыйным, незаконным, і трактаваць як незаконны захоп улады. Таму Канстытуцыйны суд апынуўся «на вышыні».

### Пра што не кажа Кур'яновіч?

Гісторык абмінуў увагай апошнюю справу КС — справу імпічменту Лукашэнку, або пытанне «Аб парушэнні прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Лукашэнкам А.Р. Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь». 19 лістапада 1996 года ў суд ва ўмовах канспірацыі быў перададзены зварот 73 дэпутатаў Вярхоўнага савета з прапановай пачаць працэдуру імпічменту — гэта азначала праверку фактаў парушэння Лукашэнкам Канстытуцыі. Пры праверцы былі ўстаноўленыя 16 такіх фактаў. Пра 14 з іх Ціхіня казаў раней, што паказана ў матэрыяле Кур'яновіча. Пасля дадаліся яшчэ два неканстытуцыйныя распараджэнні. Прычым адно з іх — каб падначаленыя Лукашэнку органы ўлады кіраваліся не выконвалі рашэнні КС аб прызнанні яго ўказаў неканстытуцыйнымі.

Паводле меркавання Пастухова, галоўная параза суда менавіта ў тым, што справа аб імпічменце не была даведзеная да канца.

«Пра гэтую справу — драматычную і вельмі важную, Кур'яновіч не распавядае. Але я лічу, што гэта вельмі важна, і прапаную гісторыку папрацягнуць даследаванні ў гэтым кірунку», — зазначыў былы суддзя Канстытуцыйнага Суда.

# «Гэты боль я не пажадаю ні свайму дзіцяці, ні чужому»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Кажуць, што ў глухіх свой свет, у які досыць цяжка патрапіць. Прынамсі, я намагалася гэта зрабіць на працягу некалькіх месяцаў, да таго часу, пакуль не сустрэла Мэры. Сябе яна называе мостам, які злучае звычайны свет і свет глухіх людзей. Мэры памятае, што такое гукі, бо калісьці добра чула, у адрозненне ад тых, хто ад нараджэння чуе толькі цішыню.**


Мэры Жыляніна

## Пачуць цішыню

Мэры Жыляніна працуе ў Палацы культуры імя Шарко, які дзейнічае пры Беларускім таварыстве глухіх. Гэта пляцоўка для культурнага адпачынку людзей з парушэннем слыху і маўлення. Калі свет глухіх уяўляць як асобную краіну, то Палац у ёй — Міністэрства культуры. Калі правесці хвілін дзесяць на першым паверсе палаца, можна запомніць некаторыя жэсты, адлюстраваныя на вялікай табліцы жэстаў; або даведацца, праз які адмысловы нумар глуханямы чалавек можа выклікаць хуткую; або зацікавіцца гуртком па вывучэнні жэставай мовы.

У размове з Мэры мне дапамагала сурдаперакладчыца Хрысціна. Яна перакладала пытанні, а адказы на іх давала сама Мэры. А я міжволі думала: як гэта — адказваць на пытанні — і не чуць саму сябе? Мэры кажа, што ніколі не адчувала комплексаў праз сваю глухату.

Дзяўчына нарадзілася з добрым слыхам, але яе тата быў поўнасцю глухі, мама чула, але кепска. Калі Мэры было пяць гадоў, яна захварэла на атыт, пасля чаго амаль перастала чуць. «Кажуць, на пагаршэнне слыху паўплывала не толькі хвароба, але і спадчыннасць, — узгадвае Мэры. — Правае вуха чуць перастала, левае крыху чуе і цяпер». Мэры носіць слыхавы апарат, але пры звычайнай размове з людзьмі ён мала чым дапамагае — дапамагаюць або жэсты, або разборлівыя рухі вуснаў, па якіх яна можа нешта прачытаць.

Мэры вучылася ў спецыяльнай школе для глухіх дзяцей. Пасля яна скончыла педагагічны каледж, дзе палова з навучэнцаў была з парушэннем слыху. Яна вярнулася працаваць педагогам-арганізатарам у тую школу, якую і скончыла. Прапрацаваўшы там каля дзесяці гадоў, захацела паступіць на сацыяльнага педагога ў педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. «Але там мне сказалі, што я не змагу паступіць сюды, бо маю інваліднасць трэцяй групы».

Мэры паступіла ў жаночы інстытут «Энвіла». Гэта была прыватная ўстанова, таму крытэрыяў адбору ў іх не было. Галоўнае, каб чалавек быў у стане вучыцца і плаціць за вучобу. «Праўда, калі я была на чацвёртым курсе, універсітэт закрыўся, — узгадвае Мэры, — і нас размеркавалі давучвацца па розных ВНУ». Па іроніі лёсу, Мэры размеркавалі туды, куды першапачаткова не прынялі, — ва ўніверсітэт імя Максіма Танка. Там яна скончыла вучобу.

## «Сцэна збліжае»

У Палац культуры імя Шарко Мэры прыйшла працаваць яшчэ тады, калі ёй было шаснаццаць. Яна кіравала тут маладзёвым тэатрам эстрады: вучыла глухіх людзей жэставым спевам, ставіла тэатральныя нумары. Гэта цэлае майстэрства — перадаць спеў так, каб у вушах глухіх загучала музыка, якую яны ніколі не чулі.

Пасля чатырохгадовага кіравання тэатрам эстрады, Мэры прапанавалі стаць кіраўніком цэнтра, які арганізоўвае вольны час глухіх людзей. Тут, у Палацы імя Шарко, Мэры пазнаёмілася са сваім будучым мужам Максімам. Ён страціў слых з-за моцнага антыбіётыка. Максім кіраваў танцавальным ансамблем. «Сцэна збліжае, зводзіць», — усміхаецца Мэры. Сёння ў іх ужо двое дзяцей — сыну хутка будзе сем, а дачцэ — тры. Дзеці нарадзіліся з добрым слыхам.

— Ці цяжка выхоўваць дзяцей, якія чуюць? — пытаю ў Мэры.

— Як толькі мы з мужам прачынаемся, адразу адзяваем слыхавыя апараты, каб хоць нейкім чынам чуць дзяцей. Мы з мужам размаўляем на жэстах і суправаджаем іх гаворкай. Дзе трэба — гаворку прыбіраем. Дзеці размаўляюць, канешне, словамі. Але муж актыўна вучыць сына жэставай мове.

Пасля нараджэння другога дзіцяці Мэры стала разумець, што слых яна амаль страціла. «Я ўсведамляла, што гэта непазбежна», — сумна ўсміхаецца Мэры.

— Што для вас праца ў палацы культуры?

— Гэта проста праца, бо ўсё так склалася ў маім жыцці, што ўсё ідзе як трэба. Ёсць свет цалкам глухіх людзей і свет тых, хто чуе. І я нібыта мост паміж імі. Не раз у маім жыцці здараліся абставіны, якія толькі ўзмацнялі ўва мне думку пра тое, што я з'яўляюся такім мастком».

## Тое, што баліць

Глухі чалавек нікуды не можа схадзіць без перакладчыка. «Соцыум наш, калі казаць адкрыта, адмаўляецца ад такіх людзей, — тлумачыць Мэры. — Перакладчыкаў жэставай мовы вельмі мала. Дый не кожны глухі можа забяспечыць сябе перакладчыкам. Таму ён прыходзіць да таго ж доктара з паперай і асадкай. Але праблема не ў гэтым, а ў тым, што ў чалавека з парушэннем слыху вельмі бедны слоўнікавы запас. Як можа, ён намагаецца патлумачыць, што яго турбуе… Але як яму атрымаць кансультацыю? А калі доктар сядзіць яшчэ ў масцы… Ёсць дактары, якія ідуць насустрач. Але не ўсе. А калі мы кажам пра тое, каб звадзіць некуды… Нашы глухія дзеці ў звычайныя забаўляльныя месцы пайсці не могуць. Проста тупік. Калі я вазіла дзяцей некуды, калі працавала ў школе, то бачыла, што нашы дзеці таксама хочуць быць актыўнымі ўдзельнікамі ГЭТАГА свету».

Яшчэ з дзяцінства я памятаю глуханямых мужчын у электрычках, якія гандлявалі часопісамі. Сёння глухія людзі могуць уладкавацца на больш перспектыўныя працы. Але шанцуе далёка не ўсім.

Шмат людзей з парушэннем слыху — гэта працаўнікі прадпрыемстваў Беларускага таварыства глухіх. Такія прадпрыемствы месцяцца ў розных гарадах Беларусі. Шмат глухіх працуюць таксістамі ці касірамі. «Усё залежыць ад таго, ці гатовыя працадаўцы прыняць такога чалавека, — каментуе Мэры. — Нехта не гатовы прыняць людзей на працу са слабым слыхам. А нехта разумее, што гэта такія ж людзі, як і ўсе астатнія. Дарэчы, шмат хто хваліў нашых людзей як працаўнікоў».

Складанасці бываюць тады, калі чалавек праходзіць МРЭК перад тым, як пачаць вучыцца або працаваць. «У МРЭКа ёсць "паказанні" для людзей з парушэннем слыху, якія абмяжоўваюць колькасць магчымых працоўных варыянтаў. Але калі глядзець іх спісы, то там асабліва няма з чаго выбіраць: упакоўшчык, муляры-тынкоўшчыкі… Праўда, тыя, хто адвучыўся на муляра, наўрад ці будуць працаваць па спецыяльнасці. Бо на будоўлю, на нашай практыцы, глухіх бяруць рэдка».

## Мова жэстаў

Згодна з Канвенцыяй аб правах людзей з інваліднасцю, якую Беларусь нядаўна ратыфікавала, жэставая мова па сваім статусе мусіць прыроўнівацца да любой іншай мовы. «Па канвенцыі — так, а ў законе — не. Напэўна, пытанне разглядаецца, я не ведаю дакладна. Але на сёння пра раўнапраўе гаворка не вядзецца», — кажа Мэры.

Хрысціна, сурдаперакладчыца, да таго моманту, пакуль пытанне не зайшло пра жэставую мову, проста перакладала. Але пасля стала эмацыйна ўдзельнічаць у размове. Набалела.

Аказваецца, бацькі Хрысціны — з парушэннем слыху. Таму на мове жэстаў яна размаўляе з трох гадоў. «Калі мама пастаянна размаўляла са мной на жэставай мове, то хочаш — не хочаш будзеш на ёй размаўляць», — смяецца Хрысціна. У Палацы імя Шарко для ўсіх жадаючых цягам года Хрысціна ладзіць гурток па вывучэнні жэставай мовы. Туды прыходзяць розныя людзі. Ёсць і тыя, хто вывучае мову проста так, для сябе.

Як людзі на вазках змагаюцца за пандусы, невідушчыя — за тактыльную плітку, так людзі з парушэннем слыху змагаюцца за субцітры на тэлебачанні. Нядаўна актывісты Беларускага таварыства глухіх атрымалі перамогу — на беларускім тэлебачанні зноў з'явіліся стабільныя субцітры. «Субцітры ёсць, але нам пастаянна людзі скардзяцца, што то яны занадта хутка ідуць, то на нечытэльным фоне… Чаму б не спытаць у глухіх, якія ім патрэбны цітры? Але цітры тычацца толькі навінаў. А нашы людзі хочуць глядзець перадачы».

У маё дзяцінства я памятаю, што выпуск навінаў суправаджаўся сурдаперакладам. На сёння толькі на тэлеканале БТ1 а 8 ранку ідзе выпуск навін з сурдаперакладам. Адна з прычын, чаму так адбываецца, — канечне, адвечнае «няма грошай». А другая, па словах спецыялістаў, — няма сурдаперакладчыкаў. «Значная частка перакладчыкаў, якія працуюць зараз, — дзеліцца Хрысціна, — людзі пенсійнага ці перадпенсійнага ўзросту (на канец 2018 года ў краіне налічвалася 63 сурдаперакладчыкі, 12 з іх — пенсійнага ўзросту. — Аўт.). Маладых перакладчыкаў можна пералічыць па пальцах. Раней да перакладчыка не было столькі патрабаванняў. Зараз у яго абавязкова мусіць быць сярэдняеспецыяльная адукацыя. А калі ты хочаш атрымаць нейкую надбаўку, то мусіш мець вышэйшую адукацыю. Па адукацыі я юрыст, але працую перакладчыкам жэставай мовы. Для таго, каб ім быць, я прайшла курсы, якія цягнуліся месяц. Ці рэальна вывучыць мову за месяц?» — з ironiяй пытае Хрысціна.

Кажуць, што вывучыцца на сурдаперакладчыка можна ва ўніверсітэце імя Максіма Танка. Але гэта не зусім так. З верасня ў лінгвістычным каледжы пачнецца набор на спецыялістаў па сурдакамунікацыі. Там будзе трыццаць бюджэтных месцаў.

«Але вучобы тут мала, — кажа Хрысціна. — Патрэбны досвед камунікацыі, бо ў моладзі пастаянна з'яўляюцца новыя словы. Яны так хутка размаўляюць, што я ўжо не адразу магу зразумець, што яны сказалі на мове жэстаў. Гэтай мовай трэба жыць».

## Спецшколы ці інклюзія?

Колькасць глухіх дзяцей скарачаецца. Гэта азначае, што спецыяльныя школы для дзяцей з парушэннем слыху паступова закрываюцца. І па заходнім досведзе Беларусь распачала практыку інтэграцыйных класаў, дзе сярод звычайных вучняў вучацца і дзеці з парушэннем слыху. Пры гэтым, наяўнасць суправаджаючых з веданнем жэставай мовы для такіх дзяцей не прадугледжваецца.

«Мяне проста выварочвае, калі я пра гэта думаю, — кажа Мэры. — Інклюзія — гэта добрая справа. Новае пакаленне будзе не такое, як старэйшае. Яно будзе разумець, што ёсць такі чалавек, а ёсць іншы. Але гэта ўсё пройдзе не без болю для тых, хто не такі, як усе. І гэты боль я не пажадаю ні свайму дзіцяці, ні чужому. Але калі ўжо гэтай справе і быць, то я лічу, што максімум па тры дзіцяці мусіць быць адзін спецыяліст у класе. Ці гатова дзяржава забяспечыць такое і падрыхтаваць спецыялістаў, якія будуць валодаць жэставай мовай? Атрымліваецца так: хочаце добрых адносінаў да глухіх? Калі ласка, вось вам інклюзія. Але ўнутры гэтай інклюзіі нараджаюцца новыя праблемы. Немагчыма даць якасныя веды дзецям аднаму настаўніку, які вучыць і такіх, і такіх, і не валодае жэставай мовай».

«Я разумею, што цяжка прыняць тое, што тваё дзіцё з інваліднасцю, — кажа Хрысціна. — Але рабіць выгляд, што ён здаровы, — гэта не выйсце».

— А як вы перажывалі ў дзяцінстве інваліднасць вашых бацькоў? — пытаю ў Хрысціны.

— Дзеці з мяне кпілі. Я плакала, але казала: «Я ж не вінавата, што так здарылася». Балюча, калі іншы чалавек гэтага не разумее. І страшна, калі чалавек гэта высмейвае. Гэта ж не азначае, што з табой такога не можа адбыцца. Да мяне на гуртом прыходзіла жанчына з глухім хлопчыкам. Яна распавяла, што ў маладосці літаральна ненавідзела глухіх людзей. Яны яе раздражнялі. А пасля ў самой нарадзіўся сын, які не чуе…

Калі я сыходзіла, то падзякавала за інтэрв'ю. Абедзве жанчыны паказалі, як «дзякуй» можна сказаць на мове жэстаў. Аказваецца, проста: сціснуць у кулак правую руку і дакрануцца ёй ілба, а пасля падбародка. Я падзякавала ім. Жанчыны заўсміхаліся. І запрасілі яшчэ, прынамсі, на гурток па жэставай мове. Было б пабольш у нас сурдаперакладчыкаў. Было б пабольш у нас такіх мастоў, якія злучаюць наш свет са светам глухіх.

# Што ёсць 3 ліпеня для народа Беларусі

Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук,
прафесар

**З кожным годам у нас становіцца ўсё менш і менш не толькі тых, хто са зброяй у руках набліжаў перамогу над Германіяй. Радзеюць шэрагі і тых, хто з-за свайго ўзросту не мог удзельнічаць у баях з ворагам, а толькі ў вялікім страху чакаў той шчаслівай часіны, калі чужынцаў выганяць з роднай зямлі.**



У час адкрыцця Кургана Славы, 1969 год

## Шчаслівы дзень вызвалення

Мне падчас вызвалення ад нацыстаў роднага мястэчка Магільнае, што на Вуздзеншчыне, ішоў ужо 16-ты год. Што гэта за радасць была, добра памятаю і сёння, і не забуду пра яе да канца свайго жыцця. Не забуду таму, што — як і ўсе астатнія людзі — ой як не хацеў паміраць.

Для тых, хто перажыў суровыя выпрабаванні ўсталяванага фашыстамі рэжыму, самым вялікім святам быў і застаецца дзень вызвалення Беларусі ад фашысцкіх акупантаў. Катэгарычна сцвярджаю гэта, зыходзячы не толькі са свайго асабістага жыцця. Добра памятаю радасныя, залітыя слязамі худыя твары магілянскіх жанчын і мужчын, якія ў апошнія дні чэрвеня 1944 года сустракалі конных разведчыкаў-чырвонаармейцаў на адной з вуліц нашага напаўразбуранага нямецкай авіяцыяй мястэчка. А сустракалі не ў ліпені, а ў апошнія дні чэрвеня таму, што, хаця магіляне і знаходзяцца прыкладна на 90 кіламетраў на захад ад Мінска, у ходзе правядзення летняй наступальнай аперацыі «Баграціён», мястэча было вызвалена раней за беларускую сталіцу. Ад гэтага шчаслівага, радаснага дня ў людзей пачалося зусім новае жыццё, цалкам не падобнае на тое, якім яно было месяц-два таму.

Ніхто з майго атачэння, і я, не ведалі, што напярэдадні поўнага вызвалення беларускай зямлі з яе з'ехала на Захад не адна сотня тысяч людзей, бо ў сілу розных прычын супрацоўнічалі з нямецкім акупацыйным рэжымам. А сярод жа іх знаходзілася шмат тых, хто быў вельмі патрэбны ў інтарэсах хутчэйшага залечвання ранаў, прычыненых чужынцамі. Ніхто з нас таксама не здагадваўся, не ведаў, што ўслед за воінамі-вызваліцелямі ў Беларусь накіроўваюцца падраздзяленні савецкіх рэпрэсіўных органаў для ўчынення расправы над многімі з тых, хто не па ўласнай волі апынуўся на службе ў акупантаў. Людзі ад незвычайнай радасці, што нарэшце знікла рэальная пагроза смерці, катаванняў, зусім не хацелі думаць, што некаторых з іх гэта чакае ў недалёкай будучыні.

## Першыя святкаванні

Насуперак неверагодным матэрыяльным цяжкасцям, святкаванне 3 ліпеня 1945 года — першай гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў — прайшло на належным узроўні, у чым заслуга не толькі ўладаў, але і грамадскасці. Гэта вельмі лёгка зразумець, бо без вызвалення людзей нішто іншае не чакала, як немінучая смерць. І самае страшнае, недарэчнае — што часам па злой волі лёсу беларусы забівалі адзін аднаго.

Знадворнае аблічча Мінска было непадобнае на звычайнае ўжо за колькі дзён да 3 ліпеня 1945 года. Усім разумелася, што горад рыхтуецца па-сур'ёзнаму адзначыць першую гадавіну свайго вызвалення. У невялікай публікацыі «Звязды» ад 3 ліпеня «Святочныя дні» пісалася: «Пасля чатырохгадовага перапынку зноў заіскрыліся электрычныя лямпачкі на Савецкай вуліцы, на вуліцы Карла Маркса, Камсамольскай, Чырвонаармейскай, на плошчы Леніна і ў Цэнтральным скверы, у парку культуры і адпачынку імені Горкага. ... Мінск, кожны яго жыхар, як і ўсе працоўныя нашай рэспублікі, адзначае слаўную гадавіну. На плошчах, вуліцах, над дамамі, установамі — усюды палыхаюць тысячы чырвоных сцягоў. Многія дамы ўпрыгожаныя жывымі кветкамі. Усюды плакаты, лозунгі, транспаранты».

З першай гадавінай вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў яе народ павіншавалі Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, Савет Народных Камісараў БССР, Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, а таксама аналагічныя структуры савецкіх і партыйных органаў Украінскай ССР. Савет народных камісараў УССР тады ўзначальваў Мікіта Хрушчоў. Такія ж прывітанні прыйшлі ад сацека-партыйнага кіраўніцтва Кіргізскай, Эстонскай, Латвійскай ССР. Кіраўніцтва Беларуска-Літоўскай ваеннай акругі назвала дзень 3 ліпеня нацыянальным святам беларускага народа. Акрамя яго, слова «нацыянальнае» больш нікім не ўжывалася.

Пісьменнік Ілья Эрэнбург назваў сваё віншаванне з нагоды 3 ліпеня «Будзь благаславена, Беларусь!». Гэтым словам знайшлося месца і ў самім тэксце яго віншавання: «Краіна вялікага гора і вялікай радасці, будзь благаславена, Беларусь! Мы не забудзем перажытага. Мы захаваем памяць (падкрэслена мною. — Л. Л.) як крыніцу натхнення».

Як і планавалася, на самым высокім дзяржаўным узроўні прайшла ў Мінску афіцыйная частка святкаванняў першай гадавіны вызвалення. Адбывалася яна ў будынку Акруговага дома Чырвонай Арміі імя Варашылава. Галоўны даклад таго ўрачыстага пасяджэння, з якім выступіў сакратар Мінскага абкама КПБ(б) Васіль Казлоў, заканчваўся такімі словамі: «Гэты дзень увойдзе ў летапіс беларускага народа самай яркай і радаснай старонкай у яго жыцці. Беларускі народ у стагоддзях праслявіць Чырвоную Армію як вызваліцельніцу».

Заставацца 3 ліпеня «самай яркай і радаснай старонкай» у нашай гісторыі дапамагла не толькі ўдзячная памяць народа, але і тыя практычныя захады, што мэтанакіравана рабіліся савецкімі органамі, грамадскімі арганізацыямі па папулярызацыі гэтай гістарычнай даты.

Моцна паўплываў на рост аўтарытэту свята 3 ліпеня насыпаны ў 1967 годзе на 21 кіламетры шашы Мінск — Масква Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі, дзе сталі праводзіць разнастайныя прысвечаныя гэтай знамянальнай падзеі мерапрыемствы.

Сапраўдны юбілейны характар мела святкаванне дня вызвалення Беларусі ў ліпені 1969 года: падзеі спаўнялася 25 гадоў. Рэспубліканскія газеты пісалі пра яе на працягу 2–8 ліпеня, забяспечваючы свае пісьмовыя матэрыялы запамінальнымі фотаздымкамі: прэзідыум урачыстага сходу ў Палацы спорту; удзельнікі ўрачыстага сходу ў Палацы спорту вітаюць гасцей і ветэранаў вайны, што прыехалі ў Мінск на святкаванне 25-годдзя вызвалення Беларусі; мітынг працоўных, прысвечаны адкрыццю Кургана Славы. Старонкі газеты «Звязда» ад 5 ліпеня 1969 года былі цалкам аддадзены пад публікацыі, прысвечаныя юбілею.

Чарговы, ужо 50-ты юбілей вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў даводзілася адзначаць у прынцыпова іншай палітычнай сітуацыі, выкліканай распадам СССР, адзначаць ва ўмовах, калі рэзка скарацілася колькасць непасрэдных удзельнікаў аперацыі «Баграціён», а таксама і тых, хто ад вялікай радасці са слязьмі на вачах сустракаў воінаў-вызваліцеляў. Дый эканамічнаму становішчу Рэспублікі Беларусь на час 50-гадовага юбілею не пазайздросціш. І ўсё ж, па добрай традыцыі, свята збольшага атрымалася. Тут нельга не сказаць і аб удзеле ў правядзенні свята самых высокіх уладных структур, нягледзячы на тое, што яны жылі клопатамі аб маючым адбыцца 10 ліпеня другім туры галасавання па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

На ўрачыстым сходзе ў Палацы спорту прысутнічала больш як сем тысяч былых франтавікоў, падпольшчыкаў і партызанаў. У прэзідыуме ўрачыстага сходу разам са старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыславам Грыбам і старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам знаходзілася нямала ўдзельнікаў Беларускай наступальнай аперацыі «Баграціён», кіраўнікоў і членаў урадавых дэлегацый Расійскай Федэрацыі на чале са старшынёй яе ўрада Віктарам Чарнамырдзіным, іншых дзяржаў садружнасці, а таксама з Літвы. З асноўным дакладам «Ад вялікай перамогі да стабільнасці!» на гэтым урачыстым сходзе выступіў Вячаслаў Кебіч.

Самыя высокія дзяржаўныя дзеячы ўзялі ўдзел ва ўрачыстым шэсці да Плошчы Перамогі, дзе 3 ліпеня з дакладам выступіў старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб. Найбольш важнымі ў той прамове лічу такія словы: «І што б ні адбывалася, але ў памяці людской назаўсёды застануцца тыя, хто аддаў сілы, здароўе, маладосць вызваленню роднай зямлі».

Але ўжо 3 ліпеня 1995 года ў Мінску святкаванні абмежаваліся галоўным чынам толькі шэсцем не такой ужо вялікай колькасці людзей на Плошчу Перамогі, каб пакланіцца «героям-вызваліцелям — і мёртвым, і жывым». Выдзеленыя ў двукоссі словы ўзятыя з невялічкага, змешчанага ў газеце «Звязда» паведамлення Белінфарма (аўтар Леанід Трацэўскі). Усё, што гэтым разам адбывалася на Плошчы Перамогі, больш нагадвала рытуальныя памінанні, а не штосьці з баявых воінскіх традыцый. Падобнае ў многім паўтарылася 3 ліпеня 1996 года.

## Дзень Рэспублікі

І вось праз рэферэндум у лістападзе 1996 года нам штучна, па-валюнтарысцку навязалі «Дзень Рэспублікі», які да гэтага адзначаўся ў краіне цалкам абгрунтавана — паводле прынятага 27 ліпеня 1990 года адпаведнага акту. У выніку такога неабдуманага сімбіёзу Беларусь у 1997 годзе адзначыла 3 ліпеня як свята з дзвюма назвамі: Дзень Незалежнасці і Дзень Рэспублікі, прычым з абавязковым правядзеннем ваеннага парада, чаго не практыкавалася апошнія сем гадоў. На гэты раз слову «Вызваленне» — як базаваму, традыцыйнаму для свята 3 ліпеня, так і не знайшлося месца. Калі не ўсё, дык амаль усё падчас урачыстасцяў звялося да бязмернага ўхвалення падзей, звязаных з прыходам у ліпені 1994 года да ўлады Лукашэнкі, што нібыта забяспечыла Рэспублікі Беларусь сапраўдны дзяржаўны суверэнітэт, якога ў рэальнасці яшчэ і сёння не бачна.

Ужо пры такім паважлівым стаўленні вертыкалі кіраўніка дзяржавы да 3 ліпеня яно ніяк не магло быць такім бедным на ўрачыстасці, як у 1995, 1996 гадах. У гэты дзень у 1997 годзе было на што паглядзець, было ў чым паўдзельнічаць. Найбольш людзей назірала за ваенным парадам, на што бедная дзяржава не пашкадавала грошай. Што датычыцца прамовы Лукашэнкі на ўрачыстым пасяджэнні 2 ліпеня з досыць разгорнутым загалоўкам: «У Беларусі ёсць усё, каб упэўнена і энергічна рухацца наперад да дабрабыту, да росквіту», яна заняла прыкладна 4/5 газетнай старонкі.

Працяг на стар. 19 »

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №6 (154)
(чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# «Агонь вялікага болю»

## Да 95-годдзя Васіля Быкава

**Сёлетні штогадовы ўкраінскі «Книжковий Арсенал» праходзіў пад дэвізам «Суседства: пытанні супольнага жыцця на аснове дамоўленасцей і блізкіх каштоўнасцей».**



В. Рагойша, Д. Паўлычка, М. Слабашпіцкі і Т. Кабржыцкая на кніжнай выставе, прысвечанай В. Быкаву

Удзел у ім прымалі аўтары з Украіны, Еўропы, Амерыкі, Канады, Азіі. Праблематыка фестывалю ахоплівала такія надзённыя пытанні, як «выяўленне ўзаемадзеяння паміж культурамі, гісторыямі і палітыкамі суседніх краін, узаемаўплывы ў літаратурах, выдатныя постаці на скрыжаванні культур» і інш.

У афармленні майданчыка выдавецтва «Знання», выкананым яскрава і з густам, была закладзена ідэя братэрскага суіснавання Украіны і Беларусі. Выразны лозунг над кніжнымі паліцамі «Знання» паведамляў: “До 95-річчя Василя Бикова». Асобны двухметровы стэнд з ілюстрацыямі вокладак трох твораў Васіля Быкава, выдадзеных да юбілею беларускага майстра мастацкай прозы ў «Знанні», не мог не прыцягнуць увагу наведнікаў — шанавальнікаў друкаванай кнігі. Пад надпісам буйным фарматам рэкламавалася выданне раману «Мёртвым не баліць». Ніжэй былі размешчаны рэкламныя малюнкі яшчэ двух твораў Васіля Быкава — «Знак біди» і «Альпійська балада». «Знак біди» — вынік перакладчыцкай працы Д. Ціліпчука, «Альпійська балада» падаецца ў перакладзе Г. Вігурскай. Пра выданне «Мертвим не болить» варта сказаць асобна. На стэндзе пад выявай вокладкі гэтага твора пазначана «Перше повне видання українською без цензурних скорочень та без купюр». Спецыяльна да юбілею Васіля Быкава пераклад гэтага найбольш аўтабіяграфічнага твора беларускага пісьменніка, што тэматычна як ні адзін іншы быкаўскі твор звязаны з падзеямі на ўкраінскай зямлі, выканала па просьбе выдавецтва «Знання» Таццяна Кабржыцкая.

Дырэктар «Знання» Уладзімір Карасёў, калі і рызыкаваў, адважыўшыся на выданне адразу трох кніг В. Быкава, то ўсё-такі даказаў сваім рашэннем, што рызыка — высакародная справа. У межах «Арсеналу» ў зале выставачнага комплексу «Экслібрыс» адбылася прэзентацыя выдадзеных у «Знанні» твораў В. Быкава. Да ўдзелу ў абмеркаванні выданняў з Беларусі былі запрошаны выдавецтвам Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша. Вельмі аўтарытэтным і прадстаўнічым на прэзентацыі твораў В. Быкава быў украінскі бок. Мадэратарам акцыі выступіў знакаміты ўкраінскі празаік Міхайла Слабашпіцкі, выдатны грамадскі дзеяч, культуролаг, выдавец, які і словам і справай неаднойчы выяўляў сваю нязменна адкрыта чэсную пазіцыю адносна Беларусі, беларускай культуры, Васіля Быкава ў прыватнасці. З уласнай ініцыятывы далучыўся да размовы пра В. Быкава доктар філалагічных навук, прафесар Кіева-Магілянскай акадэміі Уладзімір Панчанка. Ураджэнец Кіраваградшчыны, У. Панчанка расказаў пра ўшанаванне творчасці і памяці В. Быкава ў тых кіраваградскіх мясцінах, дзе адбываліся адлюстраваныя ў рамане «Мёртвым не баліць» падзеі ваеннага часу, дзе малады вайсковец Васіль Быкаў быў цяжка паранены, адкуль прыйшла да яго маці пахаронка на сына, дзе выратавала яго з кіпцюроў смерці ўкраінская сялянка Цётка Марыя, дзе стаіць абеліск, на якім, на шчасце, памылкова выбіта імя і прозвішча нашага Быкава, што «геаічна загінуў у баях за вызваленне Украіны ад фашысцкіх захопнікаў».

Знакаміты паэт, герой Украіны Дмытро Паўлычка, вядомы сваёй актыўнай змагарскай грамадзянскай пазіцыяй, на працягу ўсяго свайго жыцця быў гарачым патрыётам і Украіны, і Беларусі. Яго выступленні на «Арсенале» — выразнае сведчанне нязломнасці характараў і Д. Паўлычкі, і В. Быкава, якія былі блізкімі аднадумцамі ў творчых здзяйсненнях і ў пытаннях нацыянальнага суверэнітэту. Д. Паўлычка, маючы яшчэ і салідны вопыт дыпламата-стратэга, высока ацаніўшы актыўнасць выдавецтва «Знання» ў пракладанні гуманітарных мастоў яднання паміж Украінай і Беларуссю, заклікаў кіраўніцтва выдавецтва працягваць справу папулярызацыі творчасці В. Быкава ва Украіне.

Актыўнымі былі і наведнікі «Кніжнага кірмашу». Іх цікавілі як адметнасці ўсёй творчай спадчыны Васіля Быкава, так і агульныя пытанні развіцця найноўшай беларускай літаратуры. Асобная ўвага была скіравана на ўдзел прысутных беларускіх гасцей у развіцці міжнацыянальных украінска-беларускіх кантактаў. Што датычыцць ацэнкі канкрэтнага ўдзелу гасцей у прэзентацыі выданняў, на гэта адказ даў галоўны рэдактар «Знання» Уладзімір Разумны. Ва ўкраінамоўнай кнізе «Мёртвым не баліць» перад раманным творам надрукаваны тэкст «Падзякі»: «Выдавецтва ўдзячнае перакладчыку Таццяне Вячаславаўне Кабржыцкай — вядомаму навукоўцу, кандыдату філалагічных навук, дацэнту, заслужанаму работніку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — за дасканалы пераклад поўнага тэкста раману ўключна з шматлікімі фрагментамі, якія былі зняты цэнзурай у папярэдніх выданнях, а таксама Рагойшу Вячаславу Пятровічу — вядомаму навукоўцу, доктару філалагічных навук, прафесару Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — за яго бескарыслівую дапамогу ў падрыхтоўцы выдання да друку».

Беларускія выступоўцы, у сваю чаргу, асобна спыніліся на адносінах Васіля Быкава да Украіны. Сам Васіль Быкаў неаднойчы выказваў «захапленне геніем украінскага народа», выяўляў «глыбокую павагу да гістарычнай мінуўшчыны украінцаў, веру ў іх натхнёную і светлую будучыню». На пасяджэнні ў «Арсенале», пры абмеркаванні новых украінамоўных выданняў твораў беларускага пісьменніка, агучаныя яго словы былі асабліва да месца. Агульны пафас разгледжанай прэзентацыі на «Кніжковым Арсенале 2019», выявіўся ў прызнанні заслуг выдавецтва «Знання» як смелага і годнага папулярызатара творчасці Васіля Быкава ў сучаснай Украіне. Беларускі пісьменнік быў прадстаўлены перад украінскімі чытачамі як таленавіты, разнастайны, шырокі па спосабах адлюстравання праблем і па выяўленні свайго разумення рэчаіснасці майстар мастацкага слова, як грамадзянін выключнай мужнасці і сілы духу.

Тэма «Васіль Быкаў — наш сучаснік» з падачы «Знання» была падхоплена журналістамі ўкраінскага нацыянальнага радыё. Кіраўнік радыёпраграмы «Культура» пісьменніца Леся Вароніна, жонка знанага ў Беларусі пісьменніка Яўгена Гуцала, арганізавала прамы эфір, прысвечаны творчасці Васіля Быкава. Удзельнікі яго — Таццяна Кабржыцкая, Вячаслаў Рагойша, Леся Вароніна, Дмытро Паўлычка, Уладзімір Разумны. Да ўдзелу ў перадачы праз тэлефон далучаліся і радыёслухачы. На працягу гадзіны — менавіта столькі доўжылася гутарка пра знакамітага беларуса, імя якога шануецца сёння далёка за межамі славянскіх краін, — было пастаўлена і абмеркавана шмат праблем і творчага, і агульнагуманітарнага парадку. Гэта і складаная гісторыя публікацый твораў Васіля Быкава, і абумоўленасць звароту пісьменніка да аўтаперакладу, і сучасны стан беларускай мовы.

У агульным дыскурсе радыёперадачы галоўнай лініяй прайшла думка пра глыбінную гуманістычную скіраванасць твораў беларускага празаіка. Бо Васіль Быкаў, хаця і вядомы пераважна як пісьменнік ваеннай тэматыкі, ніколі не быў простым фіксатарам ваеннага часу, летапісцам армейскага быту.

Гаворачы пра партызанскія аповесці Быкава, выступоўцы адзначылі найперш іх беларусaсначўчую аснову. Закранаючы стан беларускай вёскі ў перадваенны і ваенны час, Быкаў імкнуўся паказаць менавіта «нацыянальнага чалавека». Кожны з абраных для твораў матэрыял пісьменнік выкарыстоўваў для пазнання душы чалавека, што трапіў у экстрэмальную сітуацыю і знаходзіцца перад балючай неабходнасцю зрабіць у жыцці свой уласны выбар.

Ніжэй падаем два вершы **Дмытра Паўлычкі**, прысвечаныя Васілю Быкаву, у перакладзе **Вячаслава Рагойшы.** Першы з іх быў напісаны дзесяць гадоў назад у Мінску. Другі — нарадзіўся непасрэдна пад уздзеяннем уражанняў ад прэзентацыі выданняў В. Быкава, здзейсненых выдавецтвам «Знання»...

**Вячаслаў Рагойша,**
**Таццяна Кабржыцкая**

### На магіле Васіля Быкава

*На магіле Васіля Быкава*
*Камень з белаю жылаю,*
*Быццам бліскавіца застыгла ў ім,*
*Грымнуўшы з неба.*

*Я дакрануўся, а яна пячэ,*
*Гэта не з неба, а скрозь камень*
*Агонь вялікага беларускага болю цячэ,*
*З сэрца зямлі, дзе Васіль Быкаў спачывае.*

*Беларусь, тваё сэрца*
*Нават пад каменем не памірае,*
*А ў руку маю б'ецца,*
*Б'ецца ў маё сэрца.*

**6.II.2009 г. у Мінску.**

### * * *

*Васіль, дарагі, сумна-тужлівы браце мой,*
*Сэрца Твайго агонь не згасне ніколі.*
*Я ўжо сівы, але зноў і зноў выходжу на бой*
*За Украіну і Беларусь, за нашу і вашу волю.*

*Кніжкі Твае перачытваю, што жыцьмуць вякі,*
*Іх Кіеў пасябраваў і з украінскаю мовай.*
*А ў Еўропу прастуюць новыя Салаўкі,*
*І што ж нам рабіць з Еўропаю безгаловаю?!*

*Я ўсё добра помню, і нікога ўжо не баюся,*
*Думаю пра Цябе, зачытаны ізноў Табою.*
*Я долю свайго Украіны і Тваёй Беларусі*
*Бараніць буду вечна бессмяротнаю любоўю!*

**Кіеў, 24.V.2019 г.**



# У Менску ўшанавалі памяць Васіля Быкава

**На Усходніх могілках літаратары, грамадскія дзеячы, палітыкі, журналісты, аддалі даніну павагі Васілю Уладзіміравічу Быкаву, якому 19чэрвеня магло б споўніцца 95 год.**

Ушанаваць памяць выдатнага беларускага празаіка, мысляра, народнага пісьменніка Беларусі прыйшлі некалькі дзясяткаў творцаў, сяброў і проста неабыякавых грамадзянаў.

Пасля традыцыйнага ўскладання кветак, якое ладзіцца Саюзам беларускіх пісьменнікаў штогод, каля магілы пісьменніка адбыўся кароткі мітынг. Слова сказалі старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч, журналіст, дэпутат Вярхоўнага Савета, пісьменнік Сяргей Навумчык, былы рэдактар часопіса «Полымя» паэт Сяргей Законнікаў, загадчык аддзела Музея гісторыі беларускай літаратуры Вольга Гулева, літаратуразнаўца прафесар БДУ Вячаслаў Рагойша, паэт Васіль Жуковіч, паэт Георгій Ліхтаровіч, прыхільнікі творчасці Быкава.

# Абвешчана журы Прэміі Ежы Гедройца

**Аргкамітэт Прэміі Гедройца абвесціў склад журы новага сезону.**

Такім чынам, сябрамі журы Прэміі Гедройца ў 2019 годзе сталі:

- Пятро Васючэнка, пісьменнік, літаратуразнаўца,
- Максім Жбанкоў, культуролаг, крытык, эсэіст,
- Марыя Мартысевіч, паэтка, перакладчыца, арганізатарка культурніцкіх праектаў,
- Анжэла Мельнікава, літаратуразнаўца,
- Жана Капуста, літаратурны крытык, літаратуразнаўца,
- Алесь Пашкевіч, празаік, літаратуразнаўца, першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменікаў,
- Ганна Севярынец, празаік, архівіст, літаратуразнаўца, настаўніца.

«Падбіраючы журы, мы зыходзілі з таго, каб кандыдаты (нават калі яны самі літаратары), мелі досвед крытычнай, літаратуразнаўчай, даследчыцкай працы з тэкстамі, а таксама мелі магчымасць прачытаць усе кнігі, заяўленыя на прэмію, за дастаткова кароткі тэрмін. Такі падыход практыкаваўся летась, і думаю, гэта быў паспяховы эксперымент», — адзначыла старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Таццяна Нядбай.

Нагадваем, што прыём заявак сёлета працягваўся да 14 чэрвеня ўключна, а цырымонія ўзнагароджання адбудзецца 25 верасня ў прасторы ZALA#2, што ў менскім Палацы мастацтваў.

Прэмія імя Ежы Гедройца ўручаецца з 2012 года за найлепшую кнігу ў жанры мастацкай і дакументальнай прозы і мае статус галоўнай незалежнай літаратурнай узнагароды Беларусі. Папярэднія пераможцы Прэміі: Павал Касцюкевіч, «Зборная РБ па негалоўных відах спорту» (2012), Уладзімір Някляеў, «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» (2013), Ігар Бабкоў, «Хвілінка: Тры гісторыі» (2014), Віктар Казько, «Час збіраць косці» (2015), Макс Шчур, «Завяршыць гештальт» (2016), Зміцер Бартосік, «Быў у пана верабейка гаварушчы» (2017), Уладзімір Арлоў, «Танцы над горадам» (2018).

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

# Выпуск Школы маладога пісьменніка

**У мінскім Літаратурным музеі Максіма Багдановіча прайшла выпускная вечарына Школы маладога пісьменніка, якая працуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.**

Падчас імпрэзы адбыліся літаратурныя чытанні выпускнікоў і выпускніц, прысутных павіншаваў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч і выкладчыцы Школы Ганна Бутырчык, Наталля Паваляева і Людміла Рублеўская. Некалькі добрых слоў сказалі і сёлетнія каардынатары Школы Усевалад Сцебурака і Ціхан Чарнякевіч. Усе выпускнікі атрымалі сертыфікаты пра заканчэнне.

Школа маладога пісьменніка пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» працуе з 2012 года як нефармальны адукацыйны праект для дарослых. На практычных занятках з пастаяннымі выкладчыцамі, лекцыях і майстар-класах запрошаных навукоўцаў і аўтараў маладыя, апантаныя літаратурай людзі вучацца чытаць і пісаць прозу і слухаць сябе ды іншых. Заняткі ў Школе маладога пісьменніка пачынаюцца ў кастрычніку і праходзяць у Мінску два разы на месяц па суботах цягам васьмі месяцаў. Фармат: практычныя заняткі з пастаяннымі выкладчыцамі, лекцыі і майстар-класы запрошаных навукоўцаў і аўтараў.

Ад імя Рады і Сакратарыята ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» шчыра віншуем новае пакаленне беларускай прозы з выпускам і паспяховым заканчэннем Школы і зычым не спыняцца на дасягнутым. Чакаем ад вас новых літаратурных твораў і кніг!

# Новыя кнігі выдавецтва Koska

**У выдавецтве Koska, якое выдае дзіцячую шведскую літаратуру па-беларуску, выйшлі адразу дзве навінкі, дзве кнігі для дзяцей і ўсіх тых, хто цікавіцца незвычайнымі мастацкімі кнігамі — «Птушка ўва мне ляціць, куды захоча» Сары Лундберг і «Мулан і бабуля» Лены Андэрсан у серыі «Каляровы ровар» Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

У чэрвені чакаем новую кнігу пра Маму Му і Крумкача — «Мама Му на арэлях».

Кніга Лены Андэрсан пра дзяўчынку Мулан і яе бабулю расказвае нам пра адзін дзень з жыцця бабулі і яе ўнучкі, пра самыя, здавалася б, простыя штодзённыя рэчы, але якія маюць такое вялікае значэнне, пакуль мы маленькія.

Кніга шведскай пісьменніцы і мастачкі Сары Лундберг «Птушка ўва мне ляціць, куды захоча» ў перакладзе Надзі Кандрусевіч, напісаная па матывах жыцця і творчасці шведскай мастачкі Бэрты Хансан, распавядае пра дзяўчынку, якая марыць стаць мастачкай, але дзеля гэтага праходзіць нялёгкі доўгі шлях. Кніга атрымала ў Швецыі ўзнагароду Аўгуста ў галіне дзіцячай літаратуры ў 2017 годзе. Беларускія дзеткі знаёмыя з кнігамі Сары Лундберг, дзякуючы гісторыям пра Віту Белую Крэску і яе сябра Эйвінда.

Паэтка, перакладчыца Юля Цімафеева адзначыла: «Птушка ўва мне ляціць, куды захоча» Сары Лундберг... Я казала, што збіраюся чытаць гэтую кнігу, але насамрэч мне было і крыху боязна. Напэўна, таму, што я адчувала асаблівую блізкасць з яе гераіняй і баялася памыліцца.

Можна паспрабаваць стаць адстароненай і сказаць, што гэта кніга пра шведскую мастачку пачатку XX ст., якая выбірае свой шлях, вырашае ісці за ўласнай марай, такіх гісторый было шмат і г.д. Але для мяне асабіста гэтая адстароненасць не спрацоўвае. Раскрываючы кнігу, заглыбляючыся ў ілюстрацыі і тэкст, я быццам бы трапляю ў сваё ўласнае вясковае і літаральна такое ж зялёнае дзяцінства і разам з Бэртай зноў вырашаю, кім я хачу быць, насуперак бацькоўскім чаканням. Мне зразумелыя не толькі яе сумневы і пачуццё віны, але і бунтоўнасць, і настойлівасць, і гарэнне. Як так атрымліваецца, што ў падлеткавым узросце энэргіі ў нас на цэлую атамную станцыю?..




Сара Лундберг зрабіла страшна прыгожую кнігу і тэкстава, і асабліва візуальна, бо ўсё ж гэта picture book. Скарыстоўваючы розныя тэхнікі, розныя планы, ведучы аповед ад першай асобы, яна дала нам магчымасць адчуць сябе нязграбнай і летуценнай Бэртай, якая носіць у вёдрах ваду, доіць карову, варыць гарохавы суп, але наважваецца і прагне тымі ж рукамі «перастварыць» свет наўкола паводле ўласных уяўленняў: стаць творцай.

Наколькі гэта дзіцячая кніга? На ёй маркіроўка 12+. І, напэўна, насамрэч кніга будзе зразумела хутчэй падлеткам і, канечне, дарослым. Мастачкі, гэта кніга для вас!

У Швецыі «Птушка ўва мне ляціць, куды захоча» была названая найлепшай кнігай-падарункам. Яе і праўда вельмі хочацца дарыць тым, каго любіш і цэніш».

Пытайцеся пра навінкі шведскай літаратуры ў кнігарнях горада!

# Чэрвеньскае пасяджэнне Рады СБП

**Адбылося чарговае пасяджэнне кіроўнага органу ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», на якім былі разгледжаны бягучыя пытанні жыцця арганізацыі.**

Па прадстаўленні старшыні Прыёмнай Камісіі СБП былі разгледжаны, а пасля таемным галасаваннем ухваленыя кандыдатуры на ўступленне ў сябры СБП. Новымі сябрамі арганізацыі сталіся Віктар Варанец, Алена Панкратава (Струвэ), Галіна Самойла (Зяневіч).



Рада СБП прызнала неабходным стварэнне Секцыі мастацкага перакладу ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і прызначыла старшынёю новастворанай секцыі перакладчыцу Надзею Кандрусевіч.

Акрамя таго, падчас пасяджэння была разгледжана праца секцый і таварыстваў пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», а таксама ўручаныя віншавальныя адрасы юбілярам Міколу Яцкову і Аляксею Філатаву.

# Бездараж



Ірына ЖАРНАСЕК

— Ці можа быць што горшае ад снегу з дажджом? — маркотна запытаў Андрэй, узіраючыся на дарогу праз лабавое шкло.

Ці то ў самога сябе пытаў, ці то ў іх, Алены з Васільком, якія ад таго моманту, як селі ў машыну на задняе сядзенне, так і не падавалі голасу. Алена на мужава пытанне адно ўздыхнула. А што тут скажаш? Непагадзь.

— Добры гаспадар у такое надвор'е... — зноў прабурчэў Андрэй, і Алена зноў перамоўчала, адно мацней прытуліла Васілька.

Вядома, не для паездак гэткі дзень, а толькі што ж рабіць, калі вось гэтак усё выходзіць? Як толькі ім у дарогу, так і ўсчалася непагадзь. Мінулы раз выпраўляліся ў гэтую ж дарогу — машына сапсавалася. Адно і радасці было, што недалёка ад Глыбокага ад'ехалі. А сёння во машына нібы спраўная, дык спачатку дождж заліваў шыбы, а цяпер яны ўперамежку са снегам шчыруюць. І як на тое — гэтыя віскатлівыя «дворнікі» па шкле прарэзліва так, са свістам скрыгочуць... Васілёк задзёр галаву і, звёўшы да пераносся бровы, знізу ўверх неяк надта пільна паглядзеў на Алену.

— Што, мой харошы? — прытуліла яна сына. — Што, маё сонейка? Вось заедзем з табой, мая ластавачка, да доктара, а доктар нам і дапаможа. І будзем мы з Васільком здаровенькія!

— Каб жа дапамог той... гм... доктар, — буркнуў пад нос Андрэй, і ў ягоным голасе Алена не пачула той надзеі, якая так патрэбна была цяпер. Яна нізка схілілася да сына, прыціснула ягоную галоўку да вуснаў і ціха, але ўпарта, больш сама сабе, чым камусьці, прашаптала:

— Абавязкова дапаможа, абавязкова.

Андрэй змоўчаў. Але па тым, як рэзка таргануліся ягоныя плечы, Алена адчула мужаву нязгоду. Нязгоду і ўпартасць. Яны, мужчыны, хіба што, усе такія — упартыя, з жанкамі нязгодныя. Ды калі б гэта тычылася яе самой, ці ж бы Алена настойвала любым коштам? Але гэта патрэбна Васільку! А дзеля яго Алена гатовая хоць на край свету, немаведама ў якую бездараж — ці то на машыне, ці то пешкі... Толькі б знайсці які паратунак. Дык во і кідаюцца яны па свеце — шукаюць таго паратунку. А хто ж, калі не яны?! Зноў прытуліла Васількову галоўку да сасмаглых вуснаў, шапнула:

— Усё, сынку, для цябе, усё для цябе.

На пад'ездзе да Лепеля неба крыху праяснела — хмары нібы рассунуліся і слабыя промні святла нібы пакрысе пачалі прабівацца на зямлю. Мінаючы возера, Алена загледзелася на ягоную шэрую воглую роўнядзь.

— Улетку тут прыгожа, — прамовіла мройліва.

— Улетку... — паныла азваўся Андрэй. — Вось улетку і рабілі б гэткія вандроўкі.

Нічога не адказала, толькі мацней прыціснула да сябе Васілька. Хіба ж магчыма чакаць таго лета ды бязрадна глядзець на сынаву нямогласць? На гэтую нязносную ціхасць — быццам ён не трохгадовы хлопчык, а старэнькі дзядулька? Яна нават не ведала, як назваць тое, што адбываецца з яе сынам. Дакладней, што не адбываецца. Бо для яе, здаецца, найбольшай радасцю было б, калі б Васілёк пачаў дурэць, сваволіць, нават калі б ён капрызіў, чагосьці патрабаваў. Але гэткая ціхасць?!. Невыносна! Як жа будзеш тут чакаць? Добра яшчэ, што спагадныя людзі падказалі адрас бабкі, якая жыве недзе тут, за Лепелем. Яна, кажуць, вельмі шмат каму дапамагла. А калі дапамагла шмат каму, то дапаможа і іхняму Васільку! Абавязкова дапаможа.

У яе думкі ўварваўся прарэзлівы тэлефонны званок. Колькі казала, каб Андрэй змяніў мелодыю свайго тэлефона, каб не гэтак нахабна ён гарлаў — не слухае. Упарты. Ох, які ўпарты!

— Алё! Алё! — крычаў Андрэй у тэлефон, нарэшце яго пачулі, бо ён патлумачыў камусьці: — За рулём я! У дарозе, кажу! Ажно за Лепелем ужо, ага... Дык а скажы ты гэта маёй жонцы, яна ж калі што ўздумае... Ага... Сына вязем, ага! Падказаў ёй нехта новы адрас — дык і каламажымся. Алена? Побач. Чуе, а як жа! А няхай слухае, — засмяяўся, — упартая гэткая!

Алена таксама ціха засмяялася: не, яе Андрэй нязлосны, хоць і без вялікай ахвоты, але ж паслухаўся во, узяў адгул ды едзе шукаць для Васілька паратунку. Не, добры ў яе муж, няма чаго Богу грашыць, добры.

— Алё! Дзе ты там?.. — крычаў зноў Андрэй. — Сувязь тут, каб на яе... ды знікае, кажу... Калі вернемся? А хто ж яго? Як вылечымся, — чмыхнуў, і кпіна ў ягоным голасе зусім не спадабалася Алене. — Увечары можа вернемся, — гукнуў Андрэй. — Га? Што? Бліжэй? Тых, што бліжэй, яны ўжо ўсіх аб'ехалі, цяпер во за далёкіх узяліся. Ну а раптам? Хто ж тут што ведае? — Андрэеў голас памякчэў. — Усё ж хочацца спадзявацца... Што? На Бога? Ну дык, як кажуць, на Бога спадзявайся, але ж і сам варушыся. Што-што? А-а-а... Дык яно гэтак і ёсць, калі падумаць: Богу — свечка, а чорту — агарак. Гэтак яно во і выходзіць. Ладна, у мяне паваротка тут. Паваротка, кажу, крутая. Будзь здаровы!

На павароце машыну раптам рэзка крутнула, і яна ў адно імгненне апынулася на стрэчнай дарожнай паласе. Алену з Васільком кінула так, што яна балюча ўдарылася скронёй аб дзверцы.

— А-ах! Куды цябе!.. Халер-ра... — Андрэй рэзка вывернуў руль, іх з Васільком зноў кінула, цяпер ужо яны паляцелі на Васількоў бок. Алена захінула сабой сына, ратуючы яго ад удару. Нарэшце Андрэй так-сяк вывеў машыну на правы бок дарогі, выцер узмакрэлы лоб, азірнуўся:

— Як вы там? Жывыя?

Алена адно кіўнула, не могучы выціснуць з сябе ні слова ад спалоху.

— Ну а ты, герой, як? — гукнуў Андрэй да сына і сам жа адказаў: — Адзін ты не спужаўся... Табе ўсё хоць бы што!

Ад шашы да хаты, што тулілася да шэрага хмызняку і над якой пахмурна навісала старая разлапістая яліна, давялося ісці пешкі — гэткая гразкая была дарога да той хаты. Ды й не дарога нібы, а дзве брудныя каляіны, якія зрабіў, мабыць, трактар. Андрэй нёс Васілька, выбіраў, куды на цвярдзейшае ставіць ногі. А гэтага цвярдзейшага было так мала, што Андрэевы ногі, мабыць, ужо прамоклі. Алена ж хоць у ботах, а Андрэй у чаравіках... Але ж не скардзіцца во. Калі ж яна скончыцца, гэтая дарога?

Андрэй раптам спыніўся і павярнуўся да Алены:

— Назад як пойдзем? Шарэць хутка пачне. Ні ліхтарыка з сабой, ні... Гэткая бездараж!

— Неяк дойдзем, — ціха прамовіла Алена, папраўляючы на Васільку чырвоную, з белым усмешлівым зайцам, шапку, што з'ехала яму набакір.

І яны зноў паволі мясілі рудую, слізкую гліну — набліжаліся да некалі пафарбаванай у жоўты колер хаты, якая цяпер, аблезлая ды мокрая, была больш падобная да гэтай гразкай дарогі. Ім напярэймы выбег і забрахаў чорны калматы сабака. Яны прыпыніліся, чакаючы, калі на ягоны брэх хто выйдзе з хаты. Ды ніхто не з'яўляўся, і Андрэй пачаў сам угаворваць сабаку:

— А гэткі ж ты ўжо асэсар! Не злуйся, мы — добрыя людзі.

Сабака аціх, але як толькі добрыя людзі крануліся ісці, зноўку заліўся грозным брэхам. Нарэшце дзверы ганку расчыніліся, і хрыплы, прастуджаны голас гукнуў:

— Рэкс! Чаго цябе там забіраіць? Марш у будку!

Сабака яшчэ павурчэў, але ўсё ж пацёгся кудысьці за вугал, дзе, мабыць, была тая будка.

— Добры дзень, — павітаўся Андрэй.

Кабета ў шэрай хусце, рудой старасвецкай плюшаўцы, падпяразанай мужчынскім рэменем, адно махнула рукой і, прыгнуўшыся, пасунулася ў хату. Андрэй зірнуў на Алену. Тая таўханула яго ўбок:

— Ідзі ўжо.

Пайшлі. На парозе іх сустрэла пытанне:

— Чаго пазнюрамі ездзіце? Кажу ж, па захадзе сонца я не прымаю.

Андрэй моўчкі паставіў Васілька на падлогу, Алена пачала расшпіляць на ім палітончык. У прыцемку хаты і сапраўды выглядала ўжо на вечар.

— Дык а да захаду яшчэ цэлая гадзіна. Цяпер толькі тры. Якраз гадзіна міласэрнасці! — апраўдвалася Алена. — Здалёк мы, ажно з-за Глыбокага, ды і дарога во гэткая нялёгкая.

Старая нічога не адказала, адно захінулася за пасцілку пры печы і там закашлялася. Чутно было, як яна піла штосьці, бразгала посудам, плёхала вадой ды зноў доўга кашляла.

— Холадна ў вас, — паспачувала Алена, азіраючыся, — ажно па́ра ідзе клубамі. Можа, печку затапіць?

— Я сцюжы не баюся, — адказала старая, — гэта вы там у сваіх гарадах усяго баіцёся, а мы тут... Ні сцюжы, ні гарачыні...

Кабета не сказала, хто гэтыя «мы». Апроч яе нікога ў хаце не чутно было. Алена перацепнула плячыма, азірнулася на Андрэя, але той адвёў позірк убок. Увесь яго выгляд нібы казаў: я тут збоку прыпёку, а таму й не цікава мне, каму тут холадна, а каму горача.

Кабета прынесла старую вялізную кнігу, разгарнула яе на стале пры вакне ды павярнулася да Алены:

— Што, малец твой хворы?

— Ага ж, хворы, — кіўнула Алена. — Такі ён во ціхі, маўклівы...

— Ну гэдак... — перапыніла яе старая і схілілася над кнігай.

Алена ўздыхнула:

— Можа, уключыць святло?

У адказ старая зноў закашлялася, выцерла даланёй рот, шмарганула рукой па плюшаўцы, потым выцягнула з кішэні анучку і доўга смаркалася. Алена прысела да Васілька, які так і стаяў на падлозе, безуважны да ўсяго, што адбывалася навокал. Абняла яго, прытуліла да сябе. Нарэшце старая суцішылася і вымавіла праз сілу:

— Пеўня твой малец спужаўся.

Алена ўскінула галаў:

— Якога пеўня? У нас няма курэй.

— А я адкуль ведаю, якога? — незадаволена прахрыпела старая. — Ці я пасвіла твайго дзіцёнка? Сама не ўгледзела, а той певень і напужаў мальца.

Андрэй нарэшце не вытрываў:

— Ды ён ад нараджэння гэткі! Пры чым нейкі певень?

Старая закерхалася, у грудзях у яе штосьці клекатала ды вірavала, нібы ў таго бусла, калі ён схопіць вялізную жабу ці вужа, а потым ускідвае галаў — не можа пракаўтнуць. Змаглася. Выцерла твар анучкай і зноў схілілася да кніжкі. Алена павяла позіркам па сцяне.

— Не шукай, што ўключыць, — апярэдзіла яе старая, — абрэзалі мне аглаеды электрыку. Да захаду сонца прыязджаць трэба! — і зноў сагнулася над кнігай: — Пеўня зарэж...

— Лямпы таксама не маеце? — папытала Алена. — Ні свечкі? А-а... чаму вы свечку не паліце, калі моліцеся?

— А хто тут моліцца? — чмыхнуў Андрэй.

Старая выпрасталася — спадылба зірнула на Алену, потым на Андрэя. Алене здалося, што ім скажуць зараз штосьці страшнае, нядобрае, і яна ўся сціснулася, гатовая абараняцца. Што яна там вычытала ў сваёй кнізе? Але старая адно пажавала вуснамі і зноў успёрлася на стол — навісла над кнігай:

— Пеўня зарэж, — загадала тонам, які не збіраўся цярпець пярэчанняў, — не маеш свайго — зарэж суседчынага, ці на базары купі. Але каб у пер'і быў. Каб увесь быў у пер'і! Сама рэж яго — нікога не прасі. Чуеш? Аскубеш і будзеш ку́рыць пер'ем малога. Да захаду сонца рабі гэта. А вантробы ўсе збяры...

Цяпер ужо закашляўся Андрэй. Алена азірнулася на яго, потым павярнулася да старой. Яна быццам нема пыталася штосьці то ў мужа, то ў гэтай дзіўнаватай жанчыны.

— ...вантробы збяры... — вяла сваё старая, — высушы іх і змялі на муку...

— Алена, пайшлі! — гукнуў Андрэй ды так гучна, што яна ажно злякнулася. Дзіўна, але ёй і самой ужо хацелася як найхутчэй пайсці адсюль. Выратаваў Васілёк: ён пераступіў з нагі на нагу і падаў Алене руку. Яна нечак разгублена, нясмела ўзяла яе, і Васілёк першы патупаў да дзвярэй — павёў за сабой маці.

— Куды? — керханула старая. — Вады яшчэ во загавару — парашок без вады не памагаіць, — зрабіла націск на «іць», — адзін парашок не па-ма-гаіць! Ды на вакно вунь, каторае на ўсход, грошы, бацька, пакладзі. Не на гэтае, а на тое, што на ўсход!

Андрэй палез у кішэню.

«Матка Боска па полі ішла, па полі ішла, траву рвала, траву рвала, за плячо кідала... За правым плячом зеленела пшаніца, за левым плячом журчэла крыніца... — голас старой сцішыўся, і цяпер ужо чуліся толькі асобныя словы: — ...пшаніцу збяру... у роў... у глухі... хмызам... попелам...».

— Усё! Досыць! — Андрэй кінуў скамечаную паперчыну на вакно і падхапіў Васілька на рукі: — Пайшлі, сын!

Алена не пярэчыла.

— Забярыце ж ваду! — гугніла старая наўздагон ім. — Бутэлькі сваёй нат не ўзялі, багаці гэткія! А ехалі па ваду! Вунь за які свет ехалі!

Андрэй ад парога павярнуўся і ўжо не сказаў, а выразна загадаў:

— Алена! Не смей нічога адгэтуль браць: ні вады, ні пеўня, ні ягонага пер'я, ні яшчэ якой трасцы! Не смей!

І выйшаў за дзверы. Алена дагнала яго:

— Іду ж я ўжо, іду-у...

Да машыны прабіваліся моўчкі. Андрэй ступаў шырока і зусім не глядзеў пад ногі, не звяртаў увагі на тое, як чмякала ды адскоквала ад ягоных чаравікаў гразь. Ды і што можна ўбачыць, калі змрок спавіў ужо й дарогу? Нарэшце выйшлі. Паставіў Васілька на зямлю, сам палез у машыну — пачаў праграваць яе. Алена тым часам спусціла Васільку штонікі, прыгаворвала:

— Пасікай во... Палягчэе...

— Палягчэе, — бурчэў Андрэй. — Каб той певень ды... бацькам гэткім!.. Каб паразумнелі! Чапляемся да хлопца, як дурні да плоту! Ну во гэткі ён, гэткі — не любіць зубашчэрыць! Чаму ўсе павінны рагатаць? Чаму ўсім трэба быць аднолькавымі?

Алена зашпіліла Васільку штонікі, азірнулася ў той бок, адкуль яны толькі што прыйшлі, але хаты ўжо не ўбачыла — змрок праглынуў і хату, і хмызы, і высозную яліну. Быццам і не было нічога. Падхапіла Васілька на рукі, пасадзіла ў машыну, сама села побач.

Машына кранулася з месца, выхопліваючы сваім жоўтым святлом дарогу з цемры, і дарога спачатку паволі, а потым усё шпарчэй і шпарчэй пабегла ім насустрач.

Нейкі час ехалі моўчкі, потым Алена ўздыхнула:

— Андрэй... Ну, прабач ты мне...

Андрэй маўчаў.

— Так і будзеш дзьмуцца ўсю дарогу?

Муж і на гэта нічога не адказаў, ды Алена чамусьці падумала, што ён ужо, мабыць, адыходзіць, ужо менш злуецца на яе, бо ён жа ўсё разумее...

— Ведаеш, — азірнуўся і перапыніў жончыны думкі Андрэй, — гэта мы ў яго, — хітнуў галавой на сына, — у Васілька мусім прасіць прабачэння за такія штукарствы! І асабліва за гэтую смярдзючую бабу з яе неаскубаным пеўнем!

Алена ўсхліпнула і моўчкі абняла сына.


Фота з выставы tut.by

# Відзежы



Васіль ДЭБІШ

***

*Вока мутнае д'ябла ў акне:*
*Ён цяпер на зямлі валадарыць.*
*Калатнеча і стогны. Мяне*
*Акружаюць, паўсюдна, пачвары.*

*Пруцца ў дзверы — адмычку знайшлі.*
*Чую тухлы іх, жудасны подых.*
*Я застаўся адзін на зямлі*
*З усяго чалавечага роду.*

*І змагацца няма болей сіл.*
*Ад натугі слабеюць калені,*
*Мерцвякі паўставалі з магіл —*
*У бляклым водбліску поўні мігценне.*

*Чую ветру шалёнага гул.*
*Твар нямее, што сталася з тварам?*
*Я крычу, да люстэрка бягу.*
*Гэта ж я!?. Звонку лезуць пачвары…*

***

*Цішыня. Адчуванне бяды.*
*Думны месяц схіліўся над борам.*
*На мае і чужыя сляды*
*Ападаюць каменныя зоры.*

*Сціх зусім, паяднаны з бядой,*
*Віск сірэнаў у горадзе тлумным.*
*І стаяць у дзвярах чарадой*
*Беспрасветныя, цяжкія думы.*

*Горад зданяў. Пакутны мой сон.*
*Незаўважна вякі пралятаюць.*
*І не вырвацца з шэрасці дзён.*
*Спяць, ядуць — і ніхто не ўмірае.*

***

*Спёка, па ёй пілігрым у знямозе*
*Цень валачэ па бязлюднай дарозе.*
*Блытаны след яго, хісткія крокі —*
*Цягнецца ў Свет чалавек адзінокі.*
*Месяц на небе пранізліваззяе.*
*Ціша. Я чую, як нехта рыдае.*
*Ці то сава, ці душа?.. У паняверцы*
*Точыць чарвяк мне збалелае сэрца.*

***

*Мы сышліся — сцяна на сцяну,*
*Каб нялітасна бітва ўскіпела.*
*Кожны сотні такіх прыцягнуў,*
*Як і сам: і гарачых і смелых.*

*З поўняй сонца ўзышло на мяжы*
*І крывёю цячэ пакрыёма.*
*Усё зліцося … між намі ляжыць*
*Чорнай кропкаю Час нерухомы.*

***

*Прыхадні з другога вымярэння*
*Дзе ні ступіш — сноўдаюцца ценем,*
*Раздаюць загады, як нам жыць,*
*Што спяваць, якім багам служыць,*

*Па якой, падказваюць, дарозе*
*Крочыць нам, у бок які, куды…*
*Сярод іх жывём, нібы ў гіпнозе.*
*Твары іх пад маскамі заўжды.*

*Калі ж дакранешся ненарокам —*
*Засычыць змяёй, ударыць токам*
*Ці заенчыць, загалосіць нема.*

*Тут глядзі, мой братка, пільным вокам,*
*Не праспі свой лёс, яны не дрэмлюць,*
*Расстаўляюць пасікі. Тут сістэма…*

***

*Змяркаецца. Туман. Нядобры знак.*
*За мною нехта ідзе, падобны так*
*На даўняга мяне, на маладога?..*
*Таропкі крок, нястомленыя ногі.*
*Бетонны слуп. Аб'явы на рагу.*
*Напружваю свой слых я і бягу,*
*І задыхаюся, сіл болей не стае.*
*Ды прыспяшае ён, не адстае…*
*Крычу: «Пакінь мяне!» — прашу, малю.*
*Мне чуецца ўслед Юдава: «Люблю!»*

***

*Жахлівы сон раптоўна разбудзіў —*
*Прысніліся мне не чужыя людзі,*
*А родныя, якіх я так любіў,*
*Сярод якіх не бачыў хцівых суддзяў,*

*Балюча білі кулакамі ў грудзі.*
*Крычалі, што не так, як трэба, жыў,*
*Рабіў не тое, не таму служыў,*
*Праз гэта суд бязлітасны іх будзе.*

*І, абступіўшы хіжа злева-справа,*
*На крыж панеслі, каб дзеля забавы*
*Укрыжаваць….І гуў натоўп наўзбоч.*

*Відовішчаў прасіў, не волі-хлеба.*
*Маліў ратунку — не пачула неба.*
*Глухая навакол стаяла ноч.*

***

*Вечар адліжны, глухі, безаблічны.*
*Вецер халодны за спінай скавычa.*
*І на вярсту ні прытулку, ні схоўні.*
*Блякне на небе аскепачак поўні.*
*Сцелецца прымраку сцень пакрыёма.*
*Зморaны, крочу да роднага дома.*
*Золь пракаветная шчыміць мне вочы, —*
*Ці я дарогу знайду, ці дакрочу?..*

***

*І людзі развучыліся любіць…*
*Пагасла сонца, зніклі птушкі, рыбы,*
*Не стала зораў, пах садовы знік.*
*Сусвет завалакло гаркавым дымам,*
*Грамы замоўклі ў вечнай цішыні.*
*Пакрылася зямля раптоўна пылам,*
*І чуліся паўсюдна стогны: «Піць!»*
*Зрабіўся шар зямны тады магілай,*
*Як людзі развучыліся любіць.*

**Сутарга часу**

*Ноч абрынулася на мяне*
*зорным дажджом.*
*Узіраюся ў яе бязмежжа:*
*яно ляціць насустрач мне —*
*вокамгненна.*
*Круцяцца зоркі,*
*бы колы перакуленай тачкі,*
*згасаюць у непаразуменні часу.*
*Небакрай усё больш святлее,*
*усё хутчэй.*
*Выспелы, зацвітае дзень*
*вішняю белай.*
*Бачу: цені лістамі павіслі.*
*Чую, як павольны чарвяк*
*падгрызае дрэва карэнне…*

**Напоўніцу**

*Любіць! Хапае колькі сілы.*
*Хвілінай кожнай даражыць.*
*Пакуль пульсуе кроў у жылах,*
*Ісці праз морак, золь, дажджы.*

*Праз непагадзь і завіруху.*
*Нясці дабро, нясці цяпло.*
*Тварыць! Хапае колькі духу.*
*І, цяжка як бы ні было,*

*Не даць сабе зламацца, бачыць*
*Святло праз полагі імжы.*
*Да праўды рвацца, а інакш…*
*Каб толькі тлець — ці варта жыць?!*

**Выбар**

*Вакол разлад і зло да долу гне.*
*І ты — святла прамень у свеце гэтым —*
*Рукой цнатлівай ліст даслала мне:*
*«Як любіш волю, то — ідзі да мэты.*

*Дзеля людзей, не думай пра мяне!..»*
*Я з дому выйшаў — сумятня і крыкі.*
*І кожны пхнецца ўверх і іншых пхне.*
*Падумаў я: «Іх, Цэзараў, без ліку!*

*Зямля вакол — Гамора і Садом!*
*Не пасяліць мне праўды ў свеце гэтым.*
*Ды і ці варта? Большым пачуццём —*
*Тваім каханнем светлым я сагрэты.*

*Дух дзёрзкі з ім не параўнаю свой.*
*Што слава? — склеп халодны,*
*мармуровы!..*
*Перад тваёй пяшчотнаю рукой*
*Укленчваю — ты мой вянок цярновы».*

**Склеп**

*Як быў малы, я так баяўся склепа,*
*Што аж дрыжаў, калі туды ішоў.*
*Сырую цемру ненавідзеў слепа*
*І прывідную велічнасць муроў.*

*Быў склеп маўклівым і заўжды панурым*
*І чорным, нібы хворага нутро.*
*Там пацукі хаваліся пад мурам,*
*Рудыя, нават бурыя, як кроў,*

*Поўсць дыбам, ненажэрныя ўтробы.*
*Яны гаспадарамі тут былі.*
*Баяўся як прыступак, як хваробы,*
*Што ўніз, у бездань цемрадзі вялі.*

*Куды ні глянь, паўсюль хады і норы.*
*І зыркаў злосна тлустай жабай змрок.*
*На слоікі гуркоў і памідораў*
*Пах гнілі са збуцвелых бэлек цёк.*

*Затрымлівацца не было ахвоты.*
*Кастрыцай пахла, бульбаю гнілой.*
*Пішчалі, помню, пацукі страхотна,*
*Бы паквітацца прагнулі са мной.*

*Затым яны з заплеснявелых спратаў*
*Паўзлі наверх і неслі страх з сабой.*
*І я стаяў, бы ў чымсьці вінаваты…*
*…………………………….*
*Ты нібы склеп, гаротны краю мой.*

**Воўк**

*Мне радзяць: «Трэба жыць,*
*браток, інакш.*
*Прагнуцца ўмець, а калі б'юць —*
*маўчаць!»*
*Я — воўк! І маю нораў не сабачы.*
*Не ем я з рук, — іх не прывык*
*лізаць.*

*Я — воўк. Няхай жыву ў загонах,*
*Ды больш за ўсё я вольніцу люблю.*
*Пабораў непамысных, гвалту, згону*
*І здзеку, што гняце так, не цярплю.*

*Ва ўсіх, мне кажуць, бедах вінаваты.*
*Я — «пятая калона», прызнаю.*
*Я ненавіджу вышканых катаў,*
*І тых, хто гнобіць спадчыну сваю.*

*Жыць невыносна.*
*Горла енкам сцята.*
*Дыктату — ганьба!*
*Узведзены курок…*
*Кроў на сумленні.*
*Хто падлічыць страты?..*
*І шэрыя шарэнгі засцяць зрок.*

*Да гоняў родных я бягу праз поле,*
*Начнымі сцежкамі, праз хмызнякі.*
*Пакорнай кудлай мне не стаць ніколі.*
*Я — воўк. І ўсе сябры мае — ваўкі.*

***

*У кавярні начной адшукаў я,*
*нарэшце, прытулак.*
*Тут, у прыцемку шэрым,*
*схаваю самоту сваю,*
*Дзе іграе скрыпач непрымушана*
*гэтак і чула.*
*І мулаткі дзябёлыя ў шклянку*
*бальзаму нальюць.*

*Пасвятлее душа… Буду слухаць я*
*час і прастору,*
*Што мелодыяй дзіўнай цячэ*
*і піто смакаваць.*
*Не хачу, не вярнуся ў наш ложак*
*астылы, ва «ўчора»*
*І да раніцы буду па Брэсту*
*начному гуляць.*

*Я забуду пра боль —*
*растваруся ў нябеснай сінечы*
*І як верш нікудышні,*
*нанова ўсё перапішу…*
*Белай птушкаю ранак узляціць*
*на шырокія плечы,*
*Зазвініць, запяе.*
*І дождж цёплы амые душу*

**?…**

*Жывым пытальнікам чарвяк*
*Паўзе па вымаклай дарозе.*
*Праз дождж і холад, у знямозе,*
*Упарта і адчайна так,*
*Не ў сілах выбрацца нiяк*
*З бясконцай гразі. Бы ў гіпнозе ,*
*Ад болю курчыцца, бядак…*

*Хто на зямлі я: князь? чарвяк?*

# Паўстанне 1831 года



Уладзімір АРЛОЎ

**Як тлее пад попелам гарачае вуголле, так у душах ліцьвінаў-беларусаў ніколі не патухала нянавісць да царскіх прыгнятальнікаў.**

**Змаганне за свабоду не спынялася. Вальналюбны дух паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі і Якуба Ясінскага быў жывы. Нягледзячы на жорсткі пераслед, працягвалі дзейнічаць шматлікія таемныя таварыствы. Яны рыхтаваліся да збройнай барацьбы з каланізатарамі. Патрыёты натхняліся і падзеямі ў Еўропе. Улетку 1830 года адбылася рэвалюцыя ў Францыі. У той самы час пачаліся рэвалюцыйныя выступы ў Бельгіі, якія прывялі да вызвалення ад галандскіх войскаў і абвяшчэння незалежнасці краіны. Нашы продкі таксама хацелі самі быць гаспадарамі на сваёй зямлі.**

## Край узняўся за волю

Вызвольнае паўстанне на землях былой Рэчы Паспалітай распачалося напрыканцы лістапада 1830 года ў Польшчы. У гэты час расейскі цар Мікалай I абвясціў мабілізацыю, каб паслаць падуладных яму палякаў на задушэнне рэвалюцыі ў Францыі. У адказ нашы суседзі ўзяліся за зброю і ўжо назаўтра пасля першых стрэлаў па царскіх салдатах авалодалі Варшавай.

У беларускіх губернях расейскі ўрад абвясціў ваеннае становішча. Тут павялічылі колькасць войскаў, сачылі за ўсімі «падазронымі асобамі», шмат каго высылалі ўглыб Расеі. Паўсюль звальнялі з працы службоўцаў неправаслаўнай веры. Але гэта толькі дадавала змагарам рашучасці.

Увесну 1831 года Літва-Беларусь паўстала.

Найбольш чыннае змаганне разгарнулася на Віленшчыне, а пазней у ваколіцах Белавежскай пушчы.У Ашмянскім, Браслаўскім, Дзісенскім і Вілейскім паветах у паўстанні ўзялі ўдзел дзесяць тысяч ваяроў. А ўсяго на землях колішняга Вялікага Княства са зброяй у руках выступілі супроць расейцаў блізу 35 тысяч патрыётаў. Паўстанцкімі аддзеламі часта камандавалі былыя паплечнікі Касцюшкі і тыя, хто ваяваў пад сцягамі Напалеона.

Змагары-ліцьвіны заклікалі расейскіх дэмакратаў разам ваяваць з царызмам «за нашу і вашу свабоду», але тыя адказалі маўчаннем. Аляксандр Пушкін, якога ў Расеі часта называюць «певцом свободы», пісаў у лісце да свайго сябра паэта Пятра Вяземскага, што «паўстанне трэба задушыць, і нашая (гэта значыць, расейскіх карных войскаў) марудлівасць пакутлівая». У сапраўднасці як Пушкін, так і Лермантаў ды іншыя славутыя літаратары Расеі падтрымлівалі царскую палітыку паняволення суседніх народаў.

## Ашмянская разня

Вялікі аддзел з 2500 паўстанцаў заняў Ашмяны. На чале змагароў стаялі колішнія ўдзельнікі напалеонаўскіх паходаў Парфір Важынскі і Караль Пшаздзецкі. Яны падзялілі падначаленых на роты ды эскадроны і распачалі паскоранае вайсковае навучанне.

На ашмянскіх ваяроў за свабоду царскія ўлады накіравалі 5 тысяч пяхоты, тры сотні казакоў і чатыры гарматы. Сілы былі няроўныя, і паўстанцы адступілі ў навакольныя лясы. Але некалькі сотняў нашых кавалерыстаў, пешых жаўнераў і сялян-касінераў, якія прыкрывалі адыход асноўных сілаў, засталіся ў Ашмянах і ўступілі ў бой з карнікамі. Расейцы пачалі разбураць горад агнём артылерыі, а затым уварваліся на вуліцы.

Ацалелыя відавочцы тых падзей пакінулі апісанні жудаснай разні. Царскія карнікі зарэзалі некалькіх ксяндзоў, уварваліся ў дамініканскі касцёл і перабілі жанчын і дзяцей, якія шукалі там паратунку. Расейцы рабавалі ды падпальвалі крамы і дамы мірных жыхароў, бязлітасна распраўляліся з гаспадарамі. Замкнёныя дзверы камяніц высаджвалі гарматнымі стрэламі. Казакі гойсалі па горадзе, страляючы па безабаронных людзях. Шаблямі секлі і старых, і малых. Тых, каму пашчасціла выжыць, «пераможцы» з дзікім рогатам да паўсмерці збівалі, голячы ахвярам галовы.

У той страшны дзень загінулі блізу 500 ашмянцаў — палова ўсяго гарадскога насельніцтва.

Даведаўшыся пра ашмянскую разню, цар Мікалай I задаволена сказаў: «Добры ўрок далі бунтаўнікам. Справы ў Літве выпраўляюцца».

## Змагарныя дарогі

Цар кінуў на паўстанцаў у некалькі разоў большую, добра ўзброеную і вымуштраваную армію, але патушыць полымя барацьбы не ўдавалася.

Трохтысячны аддзел з сялянаў і шляхты вызваліў ад расейцаў і некалькі дзён утрымліваў горад Дзісну. Карнікі перамаглі змагароў на Меншчыне, але паўстанне разгаралася на Гарадзеншчыне. Расейцаў разбілі ў Белавежскай пушчы.

Вільня апынулася ў паўстанцкай блакадзе, але вызваліць горад не ўдалося. Нацыянальны ўрад у Варшаве накіраваў на дапамогу ліцьвінам моцныя аддзелы генералаў Хлапоўскага і Гелгуда. У чэрвені на Панарскіх гарах пад Вільняй злучаныя сілы паўстанцаў сустрэліся з 25-тысячным расейскім войскам. Бітва доўжылася восем гадзін. У бітве за Вільню ў шэрагах паўстанцаў вызначыліся гераізмам адзінаццаць жанчын.

Чатыры тысячы змагароў пад камандаваннем генерала Дэмбінскага здолелі пасля Панарскай бітвы адарвацца ад ворага і рушылі на захад. Яны ішлі праз Жодзішкі, Смаргонь, Дзятлава, Дзярэчын, Зэльву, Поразава. Паўсюль да паўстанцаў далучаліся новыя патрыёты. Гэты паход выклікаў уздым паўстання ў Наваградскім і Слонімскім паветах. Там змаганне ўзначаліў шляхціч Язэп Кашыч, які калісьці ваяваў у Вялікай арміі Напалеона.

Аддзел Кашыча хутка вырас да тысячы ваяроў. Яны вызвалілі мястэчка Беліцу, а ў Навагрудку раззброілі расейскую варту і выпусцілі з астрога арыштаваных баявых пабрацімаў. Іскры паўстання перакінуліся і на поўдзень — у Рэчыцкі, Мазырскі і Пінскі паветы, аднак і там змагары не маглі доўга вытрымаць націск пераважных сілаў царскіх карнікаў. Аслабляла паўстанцаў і тое, што яны не мелі адзінага правадыра.

У жніўні згаслі апошнія агмені змагання.

## Расправа каланізатараў

На ўсходніх землях былога Вялікага Княства Літоўскага было скасаванае дзеянне Статута 1588 года, паводле якога нашы продкі жылі і пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Былі ўведзеныя чужыя, яшчэ напалову феадальныя расейскія законы. Праз некалькі гадоў, у 1840-м, тое самае адбылося і ў Менскай, Гарадзенскай і Віленскай губернях. Беларусь хацелі ператварыць ва ўскраіну Расеі з расейскай мовай, расейскім праваслаўем і бяспамятным насельніцтвам, якое забылася б пра былую незалежную дзяржаву і сваю слаўную еўрапейскую гісторыю.

У 1832 годзе верны царскі служка тагачасны гарадзенскі губернатар Міхаіл Мураўёў, звяртаючыся да беларускай шляхты, папярэджваў: «Забудьте свои мечтания и помните, что если вы не станете по своим мыслям и чувствам русскими, вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край».

## Выбар Міхала Валовіча

Вызвольнае паўстанне 1831 года і гераізм яго ўдзельнікаў, што не пабаяліся кінуць выклік велізарнай і яшчэ магутнай царскай імперыі, пакінулі ў нашай гісторыі шмат яскравых старонак і выдатных імёнаў. Але Міхал Валовіч вылучаецца сярод герояў таго часу…

## Бацька Казімір

Прадстаўнікі знакамітага шляхецкага роду Валовічаў займалі ў дзяржаве высокія пасады старастаў, ваяводаў, маршалкаў. За часамі Астафея Валовіча, канцлера Вялікага Княства Літоўскага, быў падрыхтаваны славуты Статут 1588 года, які пасля Люблінскай вуніі з Польшчай замацаваў дзяржаўную незалежнасць Княства. Ва ўсе часы Валовічы кіраваліся старадаўнім дэвізам ліцьвінскай шляхты: «Славу — Айчыне, гонар — нікому!».

Прыкладам продкаў-патрыётаў заўсёды натхняўся слонімскі падкаморы Казімір Валовіч. Ён узначальваў павятовы падкаморскі суд, які разглядаў справы землеўладання. Калі прыйшлі царскія каланізатары, падкаморыі мусілі замацоўваць нашыя спаконвечныя землі за новымі гаспадарамі — расейскімі памешчыкамі. А тыя павінны былі стаць апірышчам царскай улады ў заняволеным краі…

Валовіч вызначаўся адукаванасцю і часта падарожнічаў па замежных краінах. У сваіх уладаннях на Слонімшчыне ён уводзіў новыя формы гаспадарання. Казімір стаў перакананым прыхільнікам скасавання прыгоннага права і пачаў адпускаць сялянаў на волю. Гэта напалохала памешчыкаў-суседзяў, якія баяліся, што іхнія сяляне таксама запатрабуюць свабоды.

## «Каго Бог злучыў, і смерць не ралучыць»

Міхал нарадзіўся 18 чэрвеня1806 года ў маёнтку Парэчча. У драўляным палацы на беразе ракі Шчара была добрая бібліятэка і галерэя з партрэтамі славутых продкаў.

Працяг на стар. 12 (6) »



# Паўстанне

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 11 (5)

Казімір Валовіч з малых гадоў выхоўваў у сына цікавасць да гісторыі Літвы-Беларусі і цвёрдую веру ў аднаўленне страчанай дзяржаўнасці. На прагулянках па прыгожым ліпавым парку, на недалёкай ад палаца маляўнічай прыстані або ў сваім кабінеце ў непагадзь — паўсюль Валовіч-старэйшы, бавячы час з сынам, заводзіў гаворку пра даўніх уладароў Вялікага Княства, пра перамогі нашых рыцараў пад Грунвальдам, Воршай і Кірхгольмам, пра страчаныя пасля прыходу чужынцаў шляхецкія вольнасці.

Казімір Валовіч вырашыў даць сыну добрую адукацыю. Спачатку Міхал вучыўся ў варшаўскай гімназіі, а затым паступіў у Віленскі ўніверсітэт.

Бацькавыя грунтоўныя «ўрокі гісторыі» не прайшлі дарэмна. Ва ўніверсітэце Валовіч-малодшы найбольш захапляўся лекцыямі прафесара-патрыёта гісторыка Яўхіма Лялевеля, а потым стаў ягоным сябрам.

Атрымаўшы ўніверсітэцкі дыплом, Валовіч-малодшы некалькі гадоў гаспадарыў у родным Парэччы, якое бацькі перадалі сыну ва ўласнасць. Шмат хто з суседзяў зайздросціў Міхалу, якога наперадзе магла чакаць спакойная і забяспечаная будучыня. Аднак такое жыццё было не для яго.

Калі выбухнула вызвольнае паўстанне ў Польшчы і распачалася падрыхтоўка да збройнага змагання ў Літве-Беларусі, Міхал Валовіч далучыўся да паўстанцкага камітэта ў Слонімскім павеце. У снежні 1831-га таварышы выправілі яго ў Вільню, каб атрымаць інструкцыі, як дзейнічаць далей.

Перад няблізкай і небяспечнай дарогаю Валовіч завітаў да сваёй нарачонай Касільды. Цяпер іхні шлюб адкладваўся, наперадзе была невядомасць. Міхал жартаваў і абяцаў хутка вярнуцца, але дзявочае сэрца прадчувала, што іхняе шчасце будзе нядоўгім. Абдымаючы любага і стрымліваючы слёзы, прыгажуня Касільда прамовіла: «Ідзі, куды кліча цябе сэрца, душа мая пойдзе за табой. Адчуваю, што яшчэ раз убачымся на зямлі, а потым, відаць, ужо на нябёсах. Але каго Бог злучыў, таго і смерць не разлучыць».

Пацалаваўшы каханую Касільду, Міхал ускочыў на каня і не азіраўся, пакуль брама не засталася далёка за плячыма. Ягоныя вочы таксама былі вільготныя.

Заставалася развітацца з бацькам. Той блаславіў сына і аддаў яму прыхаваную ў 1812 годзе зброю: два пісталеты і стрэльбу-дубальтоўку.

### «Няма для вас ні пораху, ні карабінаў»

Перад Калядамі Валовіча з чатырма паплечнікамі накіравалі з Вільні на перамовы ў Варшаву. Віленскі паўстанцкі камітэт спадзяваўся атрымаць ад палякаў дапамогу і ўзняць патрыётаў у Літве-Беларусі.

Пяцёра маладых ліцвінаў на чале з Міхалам ехалі на конях. Па дарогах у бок Польшчы рухаліся расейскія войскі. Даводзілася зноў і зноў аб'язджаць моцныя варожыя заслоны і патрулі па лясных сцежках і замеценых снегам палях. Аднойчы патрыёты ўсё ж патрапілі ў акружэнне і былі прыцiснутыя казакамі да яшчэ не скутага лёдам Нёмана.

Ад палону і расправы паўстанцкія пасланцы ўратаваліся толькі дзякуючы мужнасці і рашучасці свайго камандзіра. Той павярнуў вернага каня і кінуўся разам з ім у сцюдзёную ваду, даючы прыклад сябрам. Ліцвіны адолелі нёманскую плынь і выбраліся на процілеглы бераг. Расейскія казакі не адважыліся на гэта і спынілі пагоню.

Калі Міхал з таварышамі нарэшце дасягнулі Варшавы і сустрэліся з тагачасным кіраўніком польскага паўстання генералам Юзафам Хлапіцкім, іх чакала горкае расчараванне. Фанабэрлівы і недальнабачны генерал сказаў паслам-ліцвінам: «Няма для вас ні пораху, ні карабінаў, ні нават крэмняў да стрэльбаў. Мне трэба не галота ды апалчэнцы, а сапраўднае войска».

Ліцвінскім патрыётам даводзілася разлічваць толькі на ўласныя сілы.

### Паходы і бітвы

Увесну 1831 года, калі змаганне ахапіла нашы землі, Казімір Валовіч заклаў свой маёнтак за 30 тысяч рублёў. Усе атрыманыя грошы ён аддаў на зброю і амуніцыю для двух слонімскіх паўстанцкіх аддзелаў і сам стаў ваяром у адным з іх.

Тым часам Валовіч-малодшы ўжо ваяваў з царскімі войскамі ў Польшчы ў складзе добраахвотнікаў-ліцвінаў. Вярнуўшыся на землі Вялікага Княства, ён выконваў адказныя даручэнні камандавання. Паўстанцам па-ранейшаму не хапала зброі. Палякі пагадзіліся дапамагчы — аправіць зафрахтаваны англійскі карабель з узбраеннем у балтыйскі порт Палангу. Міхал Валовіч разам з земляком-слонімцам Лявонам Працлаўскім атрымалі загад сустрэць і разгрузіць карабель.

Калі двое ліцвінаў дасягнулі Палангі, яе ўжо захапілі расейскія войскі. Тады паўстанцы паставілі ўзяць горад штурмам. Міхал стаў сувязным навакольных змагарскіх аддзелаў і некалькі дзён амаль не сыходзіў з каня. Падчас гераічнай бітвы за горад Валовіч і Працлаўскі былі ў шэрагах тых, хто прабіўся да галоўных гарадскіх умацаванняў. Аднак да расейцаў падышлі вялікія свежыя сілы, і паўстанцы мусілі адступіць. За той бой Валовічу надалі званне ротмістра (капітана) кавалерыі і найвышэйшую вайсковую ўзнагароду — ордэн «Віртуці мілітары».

Неўзабаве Міхал уступіў у польскі корпус генерала Гелгуда, які рухаўся на Вільню. Спачатку вядомы і загартаваны ў баях паўстанец служыў простым жаўнерам, але ўжо праз некалькі дзён яго прызначылі ад'ютантам генерала Шыманоўскага…

Расейцы падцягнулі да Вільні падмацаванне, і паўстанцкі штурм не меў поспеху. Пасля вядомай Панарскай бітвы нашыя змагары з баямі адступалі. Аддзел Валовіча перайшоў мяжу з Прусіяй і быў узяты пад варту. Аднак Міхал не хацеў адседжвацца, калі баявыя пабрацімы на радзіме працягвалі ліць кроў. Разам з чатырма сябрамі ён здолеў набыць сялянскую вопратку і ўцячы з-пад аховы прусакоў. Але па дарозе ў Беларусь Валовіча схапілі, аддалі пад суд і зняволілі ў Тыльзіцкай турме. Прускае начальства прапанавала Міхалу даць слова гонару, што больш не будзе ладзіць уцёкі, каб зноў узяцца за зброю. У такім выпадку яму абяцалі вызваленне і магчымасць ад'езду ў адну з еўрапейскіх краін. Валовіч без ваганняў адмовіўся. За гэта знакамітага паўстанца перавялі ў іншую турму, дзе трымалі ў камеры з забойцамі і злодзеямі.

### У Парыжы

Пасля шматлікіх выпрабаванняў Міхал Валовіч урэшце апынуўся ў французскай сталіцы. Там ён сустрэўся з бацькам і даведаўся, што на радзіме расейскія ўлады забралі ўсю іхнюю маёмасць. Каланізатары прысабечылі таксама багатую бібліятэку Валовічаў. 165 каштоўных кніг на польскай, нямецкай і французскай мовах адправілі ў Пецярбург.

У Францыі знайшлі прытулак шмат былых змагароў 1831 года. Да іх ставіліся прыязна, бо гераізм нашых продкаў не дазволіў Расеі ў той час пасылаць войскі, каб душыць французскую рэвалюцыю. Колішнія паўстанцы стварылі Таварыства Літоўскіх і Рускіх земляў і пастанавілі працягнуць барацьбу. Міхал Валовіч і яго таварышы ставілі мэту аднавіць Канстытуцыю 1791 года, даць сялянам зямлю і волю, абвясціць усіх жыхароў краіны роўнымі. Патрыётаў узначаліў адзін з кіраўнікоў нядаўняга паўстання палкоўнік Юзаф Заліўскі. Яны цвёрда вырашылі вярнуцца на радзіму і зноў распачаць збройную барацьбу з расейцамі, каб абвясціць землі былога Вялікага Княства незалежнай рэспублікай. 26-гадовага Валовіча зацвердзілі паўстанцкім начальнікам слонімска-наваградскай акругі…

### На Радзіму!

Пакінуўшы спакойнае жыццё ў Парыжы, Міхал з памочнікам Язэпам Яцкевічам у сакавіку 1833 года выправіўся на паняволеную, але ўсё адно бясконца дарагую сэрцу Літву-Беларусь.

Патрыёты таемна перайшлі расейскую мяжу. Пры сабе яны мелі карту, два пісталеты, зменную бялізну і крыху грошай. Рухаліся пешкі, па вясновым бездарожжы, абмінаючы вёскі. Валовіча вяла і надзея пабачыцца з нарачонай Касільдай. Ён ведаў, што тая, дачуўшыся пра падрыхтоўку новага паўстання, адмовілася ад выезду ў Францыю і вырашыла дачакацца каханага. Міхал захоўваў партрэт нарачонай у медальёне каля сэрца.

Праз два тыдні Міхал і Язэп дабраліся да роднай Слонімшчыны. Валовіч сустрэўся са сваяком, які нядаўна вярнуўся з царскай высылкі. Той угаворваў Міхала адмовіцца ад задуманага і як мага хутчэй пакінуць Расейскую імперыю. Валовіч адказаў: «Я зрабіў выбар і вярнуўся ў сваю Айчыну, каб рэшту жыцця правесці ў тутэйшых лясах і, калі давядзецца, памерці ў родным краі».

### Адзінаццаць партызанаў

Міхал стварыў невялікі партызанскі аддзел. Ягоным паплечнікам адразу стаў былы прыгонны селянін Міхал Песакоўскі, якому калісьці Валовіч-старэйшы даў волю. Да іх далучыліся палясоўшчык Лявон Тарасюк, сяляне Мікола Фярадка, Аляксандр Лапко, Сцяпан Сідаркевіч, Ян Панасюк ды ягоны брат Базыль, які хаваўся ад рэкруцкага набору. Зброю ўзяў у рукі таксама былы паўстанец 1831 года кравец Тамаш Васіліцкі…

Базаю для аддзела служыла закінутая лясная смалакурня ў адным з бацькавых фальваркаў. Пад камандаю Валовіча было пакуль толькі дзесяць ваяроў, але царскія ўлады баяліся, што паўстанне зноў разгарыцца. Яны так перапалохаліся, што паслалі на жменьку партызанаў некалькі тысяч карнікаў.

Язэпа Яцкевіча, з якім вярнуўся ў родныя мясціны, Міхал накіраваў у Вільню з заданнем наладзіць сувязь з іншымі змагарскімі аддзеламі. Аднак пасланца напаткала бяда. У мястэчку Воранава карчмар Хаім Янкелевіч за 150 рублёў выдаў Язэпа царскім жандарам. Звестак з Вільні не было, і Валовіч пачаў дзейнічаць самастойна.

Міхал планаваў захапіць слонімскую турму і вызваліць зняволеных там паўстанцаў. На тракце Берасце — Слонім — Вільня партызаны здзейснілі напад на расейскую паштовую брычку, што перавозіла грошы. Гарадзенскі губернатар Міхаіл Мураўёў быў раз'ятраны і разаслаў ва ўсе куткі Слонімскага павета загад пра бязлітаснае пакаранне кожнаму, хто будзе дапамагаць партызанам. Але аблавы царскіх карнікаў скончыліся нічым: Міхал Валовіч паспеў перавесці свой аддзел у наваградскія лясы.

Асоба партызанскага камандзіра была невядомая ўладам, і ён мог бы змагацца яшчэ доўга, каб не здрада былога прыяцеля і сваяка шляхціча Яна Валовіча. Той паведаміў карнікам пра колькасць змагароў ды іхняга камандзіра. Расейцы ўзнагародзілі здрадніка тысячай рублёў, а большасць сваякоў і суседзяў — вечнай пагардай.

Карнікі разлічвалі хутка расправіцца з маленькім аддзелам Міхала Валовіча, але іх чакала непрыемная навіна. 28 паўстанцаў з слонімскай турмы абяззброілі канвой і



# 1831 года

ўцяклі ў лес. Калі б яны злучыліся з партызанамі, узнік бы моцны аддзел з выдатным веданнем мясцовасці і спачуваннем навакольнага насельніцтва. Каб не дапусціць гэтага, улады перакінулі на Гарадзеншчыну дадатковыя сілы. Паўстанцаў высочвалі ажно 10 тысяч царскіх салдат і афіцэраў.

## Смерць героя

Кальцо аблавы сціскалася. Пасля сутычак з расейцамі ў Валовіча засталося ўсяго трое падначаленых, што наважыліся застацца з камандзірам да канца. Партызаны хаваліся ў леснічоўках, пад мастамі, у стагах сена. Патрулі карнікаў усё ж змаглі выйсці на іхні след. Калі Міхала спрабавалі схапіць, ён параніў кінжалам двух ворагаў, а потым, каб не дацца жывым, спрабаваў забіць сябе.

Валовіча адправілі ў Горадню да губернатара Мураўёва. Пад час сустрэчы той паспрабаваў выклікаць у арыштанта давер: пасадзіў яго побач з сабой на канапу, частаваў гарбатай, абяцаў у абмен на шчырасць палегчыць прысуд. Убачыўшы, што ўсе яноныя хітрыкі марныя, Мураўёў накінуўся на вязня і стаў пляваць яму ў твар. Пад наглядам і з дапамогаю аховы царскі сатрап збіў Міхала так, што той ужо не мог ісці. Канвойныя мусілі несці пакутніка ў камеру на руках.

На допытах партызанскі камандзір трымаўся гераічна і не назваў нікога з паплечнікаў. Валовіча прысудзілі да смерці. Загадам губернатара Мураўёва 2 жніўня 1833 года на адным з гарадзенскіх пляцаў паставілі шыбеніцу і сагналі некалькі тысяч жыхароў. Ім абвясцілі, што будзе павешаны небяспечны злачынец.

Тым часам да Горадні, увесь час просячы фурмана нанятай карэты прыспешыць коней, набліжалася Міхалава маці Мар'яна. У Пецярбурзе яна здолела дабіцца аўдыенцыі з царом і дамаглася ад яго замены смяротнага пакарання для сына. Але калі пані Мар'яна сустрэлася з губернатарам Мураўёвым, Міхала ўжо дзве гадзіны не было ў жывых. Магчыма, кат паўстанцаў ведаў пра памілаванне і таму загадаў паскорыць кару.

Пад покрывам ночы расейскія салдаты перавезлі цела Валовіча ў стары вапнавы кар'ер і таемна закапалі, каб ніхто не ведаў, дзе магіла героя. Жорстка пакаралі і ўсіх баявых таварышаў партызанскага камандзіра: іх асудзілі на сібірскую катаргу, турму або пажыццёвую салдацкую службу.

## Жывая памяць

Шчодра заплаціўшы расейскім чыноўнікам, маці Валовіча даведалася, дзе знаходзяцца ягоныя парэшткі. Яна перапахавала сына на беразе Шчары побач з родным Парэччам. Колішні надмагільны помнік з белага мармуру з залатымі літарамі не захаваўся. Не ацалеў да нашых дзён і яшчэ адзін помнік, усталяваны ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя на месцы захопу Валовіча царскімі карнікамі.

Аднак памяць пра адважнага паўстанца жывая. Удзячныя землякі зрабілі на Парэцкіх кладах сімвалічную магілу з мемарыяльным крыжам, што стаяў некалі каля збудаванай Валовічамі вуніяцкай царквы. Кожны год у дзень смерці змагара тут збіраюцца жыхары Парэчча. Ушанаваць памяць Міхала Валовіча з усёй Беларусі прыязджаюць палітыкі і гісторыкі, паэты і музыкі…

## Графіня Эмілія Плятэр

У змагарныя дні вызвольнага паўстання 1831 года побач з мужчынамі, як і заўсёды, былі іхнія паплечніцы — прыгожыя, верныя і ахвярныя жанчыны-ліцьвінкі. Яны натхнялі братоў і каханых на гераічныя ўчынкі, дапамагалі забяспечваць паўстанцкія аддзелы харчовымі прыпасамі і медыкаментамі, хавалі ад царскіх карнікаў і лекавалі параненых змагароў, былі сувязнымі і выведніцамі, захоўвалі, а часам і выраблялі зброю. Нямала знайшлося і тых, хто стаў са зброяй у баявыя шыхты змагароў. Найбольшую славу сярод гэтых жанчын здабыла беларуская графіня Эмілія Плятэр, якую сучаснікі называлі нашай Жаннай д'Арк.

## Юная амазонка

Яна нарадзілася 13 лістапада1806 года ў Вільні і пражыла ў нашай старажытнай сталіцы свае першыя гады. Багаты род Плятэраў вызначаўся захаваннем старадаўніх рыцарскіх традыцый і гарачым патрыятызмам. На ўсё жыццё Эмілія запомніла, як у чэрвені 1812 года расейскія войскі панура адступалі з Вільні пад націскам Напалеона, а яе тата Францішак Ксаверы, стоячы на балконе свайго палаца на Замкавай вуліцы, пляскаў у ладкі і радасна выгукваў «Скатертью дорога!». Дзяўчо магло застацца сіратой, бо расейцы распачалі па графу Плятэру страляніну.

З дзевяці гадоў дзяўчынка выхоўвалася ў маёнтку Ліксна паблізу старажытнага Дзвінска-Дынабурга (цяпер гэта Даўгаўпілс у Латвіі), які належаў да Віцебскай губерні. Графіні Ганне не вельмі падабалася, што дачка замест звычайных дзявочых заняткаў лётае па навакольных палях і лугах на кані ды практыкуецца разам са стрыечнымі братамі ў фехтаванні і стральбе. Суседзі-шляхцічы называлі Эмілію амазонкай, параўноўваючы яе з жанчынамі-ваяркамі са старажытнагрэцкіх міфаў.

## Вольнае сэрца

Юная графіня праслаўлялася не толькі поспехамі ў шляхецкіх мужчынскіх забавах. Яна цудоўна ведала айчынную і еўрапейскую гісторыю, вольна валодала пяцю мовамі, выдатна грала на фартэпіяна.

Эмілія перачытала ледзь не ўсю сабраную ў маёнтку багатую бібліятэку. Яе сэрца найбольш адгукалася на кнігі пра змаганне за свабоду і незалежнасць. Улюбёнай гераіняю дзяўчыны зрабілася вядомая з гісторыі Сярэднявечча жанчына-ваярка Жанна д'Арк, што вызначылася ў вайне за незалежнасць роднай Францыі ад англічанаў. Як і славутая францужанка, Эмілія прайшла ў юнацтве сімвалічны абрад пасвячэння ў рыцары.

**У тыя гераічныя дні на адным з паўстанцкіх прывалаў з Эміліяй сустрэўся колішні філамат Ігнат Дамейка. Ён пакінуў у сваіх нататках партрэт адважнай ліцьвінкі: «Негаваркая і сур'ёзная, паглядная і стрункая, з бледным, але прыемным тварам і блакітнымі вачыма»**

Маладая ліцьвінка хацела быць падобнай і на славутую змагарку за вызваленне Грэцыі ад турэцкага прыгнёту Ласкарыну Бабул'іну, якая на свае грошы стварыла цэлую армію і невялікі флот паўстанцаў.

Эмілія зачытвалася паэмай Адама Міцкевіча «Гражына». У мужавым панцыры адважная Гражына павяла нашых рыцараў на бітву з тэўтонцамі. Юная графіня не раз бачыла сябе ў снах у абліччы Гражыны, але яна вяла ваяроў супроць заваёўнікаў-расейцаў.

У васямнаццаць гадоў Эмілія цяжка перажывала разгром царскімі жандарамі таемнага таварыства філаматаў і філарэтаў. Сярод маладых патрыётаў былі і яе браты — студэнты Віленскага ўніверсітэта.

Міхал Плятэр напісаў на дошцы ў студэнцкай аўдыторыі заклік «Няхай жыве Канстытуцыя 3 траўня!». Гаворка ішла пра перадавую Канстытуцыю Рэчы Паспалітай, якая стала першай у Еўропе. Учынкі, падобныя Міхалаву, улады Расейскай імперыі лічылі злачынствам. Юнака адправілі ў салдаты.

## «Як скача пані «Лепятуху»!»

Маладая арыстакратка ніколі не цуралася простага люду. Яна палюбіла беларускія паданні, казкі ды песні і, вандруючы па родным краі, збірала гэтае неацэннае багацце. Эмілія заўсёды шчодра аддзячвала вясковым піюхам і казачніцам. Натхняючыся народнымі творамі, графіня сама пачала пісаць па-беларуску вершы і абразкі. Сядала за фартэпіяна, і яно пачынала гучаць то амаль як дуда, то як жалейка або цымбалы. Яна запісала шмат складаных беларускіх песняў-галашэнняў і навучылася спяваць іх так пранікнёна, што слухачы нямелі ад здзіўлення і не маглі стрымаць слёз.

Юную графіню можна было ўбачыць на вясковых і мястэчковых святах. Эмілія захаплялася народнымі танцамі і не была простай глядачкай. Калі яна танчыла «польку» ці «Лявоніху», ёй маглі пазайздросціць самыя добрыя танцоркі. А найлепей атрымлівалася ў графіні «Лепятуха». Гледачы ажно прыцмоквалі языкамі: «Ах як пані скача! Ну проста лётае».

## Расейскаму генералу — беларускі гарбуз

У абаяльнай, разумнай і багатай маладой графіні было шмат яўных і таемных прыхільнікаў. Да яе заляцаліся расейскія афіцэры з Дынабурга. Аднойчы прыслаў сватоў сам камендант Дынабургскай фартэцы генерал Каблукоў.

Арыстакратка-ліцьвінка адмовіла генералу. Захаваліся звесткі, што паводле народнага звычаю, графіня вынесла сватам-расейцам гарбуза.

Генерал Каблукоў быў у вачах Эміліі ўвасабленнем чужынскай улады, якая знішчыла незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, патапіла ў крыві паўстанне Тадэвуша Касцюшкі.

## Рыхтавалася ўсё жыццё

Калі на пачатку 1831 года распачатае ў Польшчы вызвольнае паўстанне перакінулася ў Літву-Беларусь, Эміліі Плятэр ішоў дваццаць пяты год. Вось калі ёй вельмі спатрэбіліся дзіцячыя захапленні верхавой яздой і стральбой з агняпальнай зброі. Графіня коратка пастрыглася, апранула вайсковую форму і асядлала ўлюбёнага каня.

Адважная жанчына пакінула багаты дом, балі ды забавы і далучылася да змагароў. У тыя дні ў дзённіку яна запісала, што ўсё жыццё рыхтавалася да змагання за волю дзеля Айчыны.

Сваім коштам графіня за некалькі дзён стварыла вялікі паўстанцкі аддзел з 280 пяхотнікаў, 60 коннікаў і некалькіх сотняў узброеных косамі сялян — касінераў. Сярод падначаленых Эміліі ваявалі яшчэ тыя, хто ў маладосці змагаўся пад сцягамі Касцюшкі. Але бывалыя ваяры-мужчыны паважалі графіню і выконвалі яе загады.

Поруч з паўстанцкай камандзіркай дзяліла цяжкасці ды нягоды паўстанцкага жыцця яе сяброўка і ад'ютантка Марыя Прушынская — таксама зусім маладая жанчына. Узяла ў рукі зброю і далучылася да аддзела графіні шляхцянка Марыя Рашановіч, якая да паўстання была настаўніцай. Яшчэ адной паплечніцай Эміліі Плятэр была зусім юная Валерыя Ражазінская. Гэтая дзяўчынка, якой не споўнілася і дзесяці гадоў, стала смелай выведніцай.

Гісторыя захавала імёны і іншых жанчын і дзяўчат, якія далучыліся да паўстанцаў: Вільгельміна Каспровіч, Антаніна Тамашэўская, Кунегунда Агінская, Ганна Жылінская. Адзінаццаць паўстанак удзельнічалі ў бітве на Панарскіх гарах пад Вільняй. Усе яны добра ведалі пра Эмілію Плятэр і натхняліся яе прыкладам.

## Капітан паўстанцаў

Надзейным паплечнікам і дарадцам Эміліі стаў яе былы сябар па дзіцячых гульнях стрыечны брат Цэзары Плятэр. Ён вучыўся ў Берліне, але, як і многія студэнты-ліцьвіны, пачуўшы пра паўстанне, вярнуўся на радзіму і ўзяў у рукі зброю.

Эмілія разам з Цэзарыем павяла свой аддзел на Дынабургскую фартэцу, дзе паўстанцы разлічвалі захапіць вялікія запасы зброі для сябе і баявых пабрацімаў. Па дарозе аддзел графіні разбіў расейцаў каля паштовай станцыі Даўгелі. Аваладаць фартэцай, якую абараняў вялікі гарнізон царскіх войскаў, не ўдалося, але змагары на чале з графіняй вызначыўся ў баі пад Уцянамі і вызвалілі ад расейцаў мястэчка Езяросы (цяпер Зарасай у Літве).

Аддзел Плятэр і надалей вёў пераможныя баі з расейскімі карнікамі на памежжы Віцебшчыны і Віленшчыны. За гераізм у баях графіня Плятэр атрымала ад кіраўніцтва паўстання ганаровую пасаду камандзіра роты і званне капітана.

Пазней паўстанцы Эміліі вызначыліся ў бітве пад Коўняй. Паблізу Шаўляў у баі з карнікамі Плятэр трапіла ў засаду. Амаль усе яе ваяры палеглі, а сама яна здолела ўратавацца толькі дзівам.

У тыя гераічныя дні на адным з паўстанцкіх прывалаў з Эміліяй сустрэўся колішні філамат Ігнат Дамейка. Ён пакінуў у сваіх нататках партрэт адважнай ліцьвінкі: «Негаваркая і сур'ёзная, паглядная і стрункая, з бледным, але прыемным тварам і блакітнымі вачыма».

Вестка пра гераіню паўстання шырока разляцелася па свеце. Натхнёныя вершы ёй прысвячалі паэты ў Францыі, Брытаніі, Італіі, Венгрыі, Нямеччыне.

## «Смерць палкоўніка»

Паўстанцы не мелі шанцаў перамагчы велізарную, добра ўзброеную і загартаваную ў захопніцкіх войнах царскую армію. Сілы змагароў таялі. Невялікія, разбітыя карнікамі паўстанцкія аддзелы адступалі з Беларусі на захад.

Знясіленая ў баях ды паходах нялёгкіх і для мужчын, Эмілія захварэла і ўжо не магла ездзіць на кані. Яе прытуліў гаспадар маёнтка Юстынава Ігнат Абламовіч. Паўстанку ўдалося схаваць ад царскіх карнікаў, выдаўшы яе за настаўніцу шляхецкіх дзяцей. Але цяжкая хвароба не адпускала. Неўзабаве кароткае жыццё паўстанцкага капітана абарвалася. Гераіню 1831 года пахавалі недалёка ад беларускага мястэчка Сапоцкін у вёсцы Капцёва (цяпер Капчамесціс у Літве). Там захавалася магіла графіні Плятэр, а таксама ўсталяваны помнік нашай суайчынніцы.

Адам Міцкевіч адгукнуўся на сыход Эміліі Плятэр у вечнасць вершам «Смерць палкоўніка». Паэт ведаў, што графіня — не палкоўнік, а капітан, але ад захаплення яе мужнасцю павысіў суайчынніцу ў вайсковым званні.

Памяць пра знакамітую ліцьвінку жыве ў стагоддзях. Пра яе яскравае імклівае жыццё напісаныя кнігі. Яе імем названы адзін з відаў прыгожай кветкі — клематіс «Эмілія Плятэр». Свае творы прысвяцілі паўстанцкай камандзірцы кампазітары і мастакі. Эмілія Плятэр будзе глядзець на нас з вокладкі другой часткі кнігі «Айчына», апавяданні з якой вы чытаеце цяпер у «Літаратурнай Беларусі».

Ілюстрацыі Паўла Татарнікава

# «Пралілася гісторыя на нас...»

## Да 100-годдзя паэта

Барыс СЛУЦКІ (1919–1986)

### Пасля эпохі пасмяротных рэабілітацый...

*Пасля эпохі пасмяротных*
*рэабілітацый*
*надышла эпоха прыжыццёвых*
*ушанаванняў,*
*асабліва для мастакоў:*
*працуюць на свежым паветры*
*і добра захоўваюцца.*
*У сямідзесяцігоддзі*
*Ёсць тое, што абнадзейвае.*
*Васьмідзесяцігоддзе*
*святкуецца, як гарантыя*
*нязломнасці здароўя*
*не юбіляра, а твайго.*
*Дзевяностагоддзе*
*выклікае абурэнне:*
*маўляў, бярэ не па чыну.*
*Затое стагоддзе,*
*у каго б яно ні настала,*
*будзе святкавацца ўсім калектывам.*

**Пераклад Вікі Трэнас**

### Маральны знос

*Чалавек, як аркуш паперы,*
*зношваецца на перагібе.*
*Чалавек, як склеены кубак,*
*разбіваецца на зломе.*
*А маральны знос чалавека*
*азначае, што чалавека*
*занадта доўга згіналі, ламалі,*
*варушылі, хісталі, мялі,*
*білі, мучылі, лупцавалі,*
*пацэльвалі то ў страх, то ў сумленне,*
*і мараль яго прадзіравілася,*
*як яго ж пінжак і штаны.*

**Пераклад Вікі Трэнас**



***

*Пачынаецца доўгая, як сусвету вайна,*
*Пачынаецца гордая, бы птушыная чарада,*
*Пачынаецца цёмная, быццам радкі з руна,*
*Як пісьмо ад бацькоў, чыстая, бы вада,*
*Дзейнасць.*
*У школе пра гэта не вучаць,*
*У кнігах пра гэта не пішуць,*
*Гэтым толькі катуюць,*
*Гэтым толькі дыхаюць:*
*Вершамі.*

*Гул, што ўзнік у дванаццаць і нават*
*у адзінаццаць гадоў,*
*Не сціхае, не змаўкае, не замаўкае.*
*Ты — акцёр. На цябе ўзялі бестэрміновых*
*квіткоў.*
*Публіка цэлае жыццё не адпускае*
*Са сцэны.*

*Ты — будаўнік. Ты выбудуеш — людзі жывуць*
*І лаяць, знайшоўшы твае недаробкі.*
*Ты — катрынщчык. З вокнаў цябе пазавуць,*
*І круці, і круціся, быццам рудая вавёрка*
*Ў коле.*

*З прафесіі гэтай, як з пасады старшыні КДБ,*
*Шмат дзесяцігоддзяў не сыходзілі жывымі.*
*Ты — труба. І лёс выконвае сваё на табе.*
*На найважнейшых падзеях*
*ты ставіш прозвішча і імя,*
*А пасля цябе забываюць.*

**Пераклад Ніны Лістота**

***

*Да чаго ж у іх усё добра з бытам!*
*Надакучыла ім ці не?!*
*Тым, хто пэўна сыты,*
*Тым, хто спіць, як забіты,*
*Тым, хто добра п'е.*

*Паглядзець,*
*Падумаць*
*І зразумець:*
*Выходзіць, трэба аддаць замест*
*Права на выбар — мець ці не мець*
*У руху сваім пэўны змест.*

*Права выбару —*
*Права на адказ*
*Уласны*
*На любое пытанне:*
*Калі хочаш, «не»,*
*Калі здолееш, «так» —*
*І над лёсам сваім паўстанеш.*

*Гэта самае правільнае з усіх*
*Права — на непачціві смех,*
*Калі ўсе па загадзе «Зважай!» стаяць,*
*Вольна стаць*
*І таксама на тое,*
*Каб уголас сказаць*
*Нешта такое,*
*Ад чаго ўсе, захутаўшыся, дрыжаць.*

*Я не ведаю — правы я альбо не правы,*
*Але ж пакуль не згубіў галавы,*
*Выбіраю гэта права з усіх іншых праў!*
*І мяняю на ўсе правы.*

**Пераклад Юрыя Несцярэнкі**

### Бог

*Мы ўсе хадзілі пад богам.*
*У бога пад самым бокам.*
*Ён жыў не ў нябёсных далях,*
*Час ад часу яго назіралі*
*Жывога. На Маўзалеі.*
*Ён быў разумнейшы і злейшы*
*За іншага тога, другога*
*Па імені Іегова...*
*Мы ўсе хадзілі пад богам.*
*У бога пад самым бокам.*
*Аднойчы я быў на Арбаце,*
*Ехаў бог у пяці машынах.*
*Ад страху моцна згарбаціўшыся,*
*У сваіх паліто мышыных*
*Побач дрыжала ахова.*
*Позна і рана аднача сова*
*Шэры ранак прыйшоў марудна.*
*Ён глянуў жорстка, — мудра*
*Сваім пранізлівым вокам,*
*Тым усеабдымным зрокам.*
*Мы ўсе хадзілі пад богам.*
*Ад бога так недалёка.*

**Пераклад Юрыя Несцярэнкі**

***

*Пралілася гісторыя на нас.*
*Я вымак пад яе дажджом грымотным.*
*Я вытрываў памеры і размах.*
*Адчуў улады і ўрачыстасць, і салодкасць.*

*Эпоха выбухала нада мной,*
*як лівень над прыціхлаю далінай,*
*то справядлівай зацяжной вайной,*
*ці то несправядлівасцю хвілiннай.*

*Хацеў узрост таго ці не хацеў,*
*Наш век, наш час вучыў, імчаў і змучваў*
*гмах душаў нашых, нашых целаў,*
*так — душаў, а не проста пудзілаў.*

*Ў якой тканіне наша нітка бачна,*
*ў якіх грымотах чутна наша нота,*
*цяпер усё так проста патлумачыць:*
*наш лёс — яго парывы і шыроты.*

*Слупкі заверыў лёс сваёй пячаткай*
*анкетаў, што мы ў спешцы запаўнялі.*
*Нібыта дуб, лёс учапіўся каранямі*
*ў сярэдзіны, пачаткі і ў канчаткі.*

**Пераклад Юрыя Несцярэнкі**

### Клімат не для гадзіннікаў

*Не для гадзіннікаў гэты клімат.*
*Механізмы за тыдзень ржавеюць.*
*Таму што, магу вас запэўніць,*
*Час на засаўку тут зачынены.*

*Той самы час, што як вецер па стэпах,*
*па іншых гуляе дзяржавах,*
*на ланцугу тут сядзіць надзейна,*
*звонам абмежаваны іржавым.*

*За калошу не схопіць ён.*
*Не рване за вамі ў пагоню.*
*Калі тут сказалі: даўно —*
*гэта ўсё роўна, што сёння.*

*Вартавыя грымуча храпяць,*
*час губляюць свой вартавыя,*
*і дубовыя стрэлкі рыпяць*
*гадавыя і векавыя.*

*І бывае так, што назад*
*усё ідзе ў мікрасвеце гэтым:*
*шэсць праб'е, а за імі пяць,*
*а за імі чатыры праб'е там.*

*«Гэй, хутчэй!» — не крыкне ніхто,*
*ведаўшы, што хутчэй не будзе.*
*А індустрыя календароў*
*моцна спіць, і яе не будзяць.*

**Пераклад Юрыя Несцярэнкі**

## Юбілейны нумар «Дзеяслова»

**Выйшаў з друку 100-ы нумар часопіса «Дзеяслоў».**

«Дзеяслоў» паўстаў 17 гадоў таму як адказ на ўмяшальніцтва дзяржавы ў літаратурны працэс. Вясной 2002 года Міністэрства інфармацыі Беларусі правяло «рэарганізацыю» літаратурна-мастацкіх выданняў, у выніку якой усе літаратурныя часопісы былі пазбаўленыя права на юрыдычную, эканамічную і творчую самастойнасць і аб'яднаныя ў гэтак званы холдынг «Литература и искусство». Галоўнай мэтай стварэння холдынгу было ўстанаўленне дзяржаўнага кантролю над літаратурным працэсам у краіне. На месца звольненых галоўных рэдактараў часопісаў былі прызначаны лаяльныя ўладам кіраўнікі. На знак пратэсту многія пісьменнікі — супрацоўнікі калектываў — звольніліся з рэдакцыяў...

Вакол «Дзеяслова» аб'ядналіся самыя знакамітыя ў Беларусі пісьменнікі, а таксама найбольш перспектыўныя маладыя аўтары. Для рэдакцыі — а на сёння гэта Барыс Пятровіч (галоўны рэдактар), Алесь Пашкевіч (намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль Івашчанка (адказны сакратар), Андрэй Федарэнка (стыль-рэдактар), Генадзь Мацур (мастацкі рэдактар), — вызначальным ёсць не ідэалагічная пазіцыя ці месца працы таго ці іншага аўтара, а выключна якасць мастацкага тэксту.

Як адзначаецца ў прадмове да 100-га нумару, «дзеяслоўцам» хацелася зрабіць яго асаблівым. «Было некалькі ідэяў, як ажыццявіць гэта. Спачатку мы думалі проста перавыдаць першы нумар часопіса. Каб паказаць, што ідзе час, але — сапраўдная літаратура не старэе, не губляе сваёй актуальнасці і значнасці, не слугуе ўладам і застаецца па-за палітыкай». Аднак урэшце рэдакцыя вырашыла ўзяць за аснову іншую ідэю: «у 100-м нумарыць даць слова тым, хто быў у першым, толькі з новымі тэкстамі». Натуральна, цалкам рэалізаваць гэтую ідэю не ўдалося. На жаль, няма ўжо побач з намі Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Алеся Пісьмянкова, Алеся Асташонка...

І вось — 100-ты нумар перад намі.

**Ул. інф.**



# Лёгкі чалавек

Віктар СУПРУНЧУК

— Дзень добры, браток! — пад Васілёвую хату падкатвае на ровары мужчынка. Звяць яго Антоль, а мясцовая мянушка Падшыванец. Чаму Падшыванец, хто яго ведае. Падшыванец і Падшыванец. Ростам ён пад пазалеташнюю каліну, ля якой прыпыніўся. Гэта значыць недзе пад два метры. Даўгі, худы і галава на плячах маленькая з тонкай дзюбай — носам. На вуснах заўжды бы прыклеена ўсмешка. Гадоў яму даўно за пяцьдзясят, але ўсё падшыванец.

Гэты чалавек спыняецца, сцягвае з галавы зашмальцаваную з паламаным цылулоідным казырком кепалу з незразумелымі літарамі RLS і ляпае ёю па жалезным слупе варот. Раз-другі. «Каб цябе па галаве ляснула!» — думае Васіль, але нічога не кажа, маўчыць.

На вуліцы было ціха, неба спакойнае, роўнае. Блакіт без плямкі, нібы хтось старанна вышараваў. Каб якая хмарка прамільгнула.

Учора Васіль меркаваў ехаць у райцэнтр, але надышоў дзень — і прапала ахвота. Вырашыў ля хаты пазавіхацца. Падфарбаваць вокны, грады перакапаць. Дый ці мала клопату. А яшчэ зранку левая нага цягне, цягне. Баліць, няйнакш да змены надвор'я. Ні з кім няма жадання гаманіць.

Падшыванец зноў ляпае. Пасля радасна крычыць!

— Дзень добры! Як жывецца шаноўнаму гаспадару!?.

— Бачыш, дзякуй Богу, жыву, — Васіль адкідвае ўбок рыдлёўку, бо ведае, што прывітаннем гэтая сустрэча не скончыцца.

Антоль акуратна прыхіляе ровар да плоту. Гэтаму ровару, можа, сто гадоў: аблезлы, месцамі іржавы, але на хаду. Едзе, не скрыпіць. На пярэднім вобадзе зялёны ліхтарык, на заднім — чырвоны. Па ўсёй раме накручаны жоўты тэлефонны дрот. На рагах-рулі вісіць жаночая са штучнай скуры сумка, парэпаная, сям-там заляпаная белай фарбай. Да рамы прымацавана старой шэрай вяроўкай каса. Відаць, па памеры, дзявятка.

— Добры дзень, добры…

Васіль не хоча, каб гэты чалавек заходзіў у хату. Там ён толькі што памыў падлогу. У Антоля на нагах брудныя, заляпаныя амаль да вярхоў гумавікі.

— Ну, здароў, здароў! — госць прыладкоўваецца на ганку, дастае з кішэні жменю акуркаў, згортвае з зашмальцаванай газеты доўгую цыгарку. Васіль не паліць і ад смярдзючага дыму яго ледзь не ванітуе. Ён адсоўваецца ўбок, каб лагодны, ласкавы ветрык гнаў гэты смурод прэч.

— І што ты цягнеш гэну погань? Здароўе не беражэш.

— Цягну, браток, цягну. На лепшае няма ні пянёнзаў, ні даляраў. Нават вош у кішэні не завялася. А без тытуню, браток, я не магу. Без хлеба магу, а без тытуню — не-не-не… Мне хлеба не дай, а цыгарэту, толькі на ногі ўранку ўстану, адразу ў зубы. А яшчэ б чарачку ды скварачку, — заўсміхаўся бяззубым ротам Антоль. — Можа, на зуб капнеш? Учора з суседам пасядзелі, дык пасядзелі. Добра пасядзелі, ажно цяпер душа кіпіць, просіць дапамогі. Як? Капнеш на зуб?

— А дзе ў цябе зуб? Дый няма ў мяне чым капаць, — падняўся Васіль. — Працы шмат, няма часу з табой валэндацца. Ідзі далей, чалавеча, ідзі…

— Дык, можа, я памагу. За абед і чарачку, — прыплюшчыў правае вока Падшыванец. — Я многа не бяру. Мне б, браток, толькі дзень пражыць ды ноч пераначаваць. Я ж бядак, жыву як Бог дасць ды людзі часам паклапоцяцца.

Сёння Антоль у брудна-шэрым каптанчыку, на ім не па росце кароткія і вузкія нагавіцы, якія не здолеў зашпіліць на жываце. Праз шырынку нібы дэманстратыўна тырчаць фіялетавыя споднікі, як у стогадовага Кайстра, што называў дачку Зосю Міхасём і лічыў, што яна не дачка, а сын, і які памёр больш за трыццаць гадоў таму. Васіль так і сказаў, але для Антоля гэта не аргумент, махнуў рукой і зарагатаў:

— Мне цёпла і добра.

— Што — у цябе няма іншых штаноў? Што ты перад усім светам сябе ганьбіш? Зусім ужо даехаў. Жанчыны глядзяць.

— Што мне жанчыны. Тут адны старыя. Дзе тыя жанчыны? Няма.

Некалькі гадоў таму Антоль прыблытаўся да Гандзі Кундзеліхі. Яна з месяц, а мо і болей, ляжала ў псіхічцы ў Навінках, бо ёй усё мроілася, што яна анёл, і ўсім пра гэта казала. Ажно пакуль старэйшы брат не адвёз яе ў бальніцу. І пасля нібыта паздаравела, пенсію выправіла за другую групу інваліднасці. Пра анёла ўжо не ўспаміналa. Ну і прыбіўся да яе Падшыванец. Гаспадарку завялі: свінню, курэй. Агарод пасадзілі. Усё як мае быць. Падшыванец Гандзю на сваім ровары вазіў, на раме. У краму, на пошту па пенсію.

**Што такое прастор, калі не ведаеш дзе жыць і як жыць. Найлепш не думаць ні аб чым і ні на каго не спадзявацца. Ёсць сябра ровар, ногі варушацца, і дай Бог здароўя, пражывем. Не ўсім быць панамі і падпанкамі. Найлепш быць вольным чалавекам**

Гандзя шчаслівая была. Але часам бачылі яе з сінімі плямамі пад вачыма. Не давала Гандзя грошай Падшыванцу на гарэлку. Ён і вучыў яе жыццю, ажно пакуль не прыехаў аднойчы брат з Мінска і не навёў парадак у гэтай хаце. За каўнер выцягнуў Падшыванца на вуліцу, услед выкінуў ягоны ровар, транты. Прыгразіў: з'явішся да Гандзі — ногі пераламаю.

Паўвёскі бачыла, як Антоль уцякаў з прымаў. Без нагавіц, але на ровары, і сабачка Улля ўслед гаўкаў і кусаў за лыткі. Смяяліся людзі, але яму ўсё адно. Што смех, калі заўтра невядома што на зуб кінуць. Дзе сонца сустрэць. Як пісаў Кандрат Крапіва, смяецца той, хто смяецца апошні. Гэта помнілася са школы.

Назаўтра, як развітаўся з Кундзеліхай, пайшоў Антоль па хатах: каму ўскапаць грады, пакасіць. Ён не гультай, рукі яму не баляць. Усё можа рабіць. Незадарма. Абы чарачка ды скварачка. Усё-ткі свет не без добрых людзей, акрайчык хлеба нехта дасць. Лыжку таўканіцы не пашкадуе. А там — штосьці большае праявіцца. Што такое жыццё: сёння ёсць, а заўтра няма. Дрэвы вечныя, неба, трава, вада. Гэта сёння, а заўтра? Поле вакол блішчыць зялёным святлом, якое пасля затухае, гасне, і толькі чорны колер пануе, спрабуе давесці да свайго ладу прастор. І што такое прастор, калі не ведаеш дзе жыць і як жыць. Найлепш не думаць ні аб чым і ні на каго не спадзявацца. Ёсць сябра ровар, ногі варушацца, і дай Бог здароўя, пражывем. Не ўсім быць панамі і падпанкамі. Найлепш быць вольным чалавекам. Сваю травінку, свой акрайчык чорнага хлеба знойдзецца. Урэшце, дурняў на свеце хапае. Няўжо гэны Васіль думае, што ён разумней за яго, Антоля. Хай сабе завуць і Падшыванцам. На здароўе. Яшчэ пабачым, хто дурнейшы і хто Падшыванец… Нальеш ты мне чарачку, нальеш…

Спявае птушка на грушы, ціўкае. Камары пачалі завіхацца. Сонца праз галлё промні прабіла. Цёпла. Здаецца, увесь свет у гэтым месцы, на гэтым двары. Цішыня. Толькі чамусьці даўно не чуваць пчолкаў. Шэршні часам гудуць, як бамбавозы. Не дай Бог, патрапіш пад іх атаку, як чахне, потым не ведаеш, дзе ратавацца. Спяшацца няма куды. Куды спяшацца, навошта. Трэба атрымаць сваё там, дзе магчыма. А магчыма ўсюды. Толькі варушы мазгаўнёй.

Сядзіць Падшыванец, пыхкае сваім смярдзючым дымам. Аб нечым думае, а, можа, проста бяздумна глядзіць у неба. Пагладзіў адно калена, другое. Вымаўляе:

— Нешта ногі баляць. Як праеду на ровары да Янушкавічаў і назад — баляць. Чарачку вып'ю — не баляць. А ў цябе не баляць. Га?..

— Што га? Ты замест гэтага, — Васіль паказаў на шыю, — збіраў бы грошы дый штаны купіў.

— А навошта? — здзівіўся Антоль. — Мне і так дадуць. Сусед, які дачу займеў ля маёй хаты, абяцаў паслязаўтра прывезці з Мінску цэлы куфэрак розных трантаў. Яму ўжо малыя, пуза наеў, бы які парсюк гадавалы, а мне будуць якраз.

Антоль выцягнуў з самаробнага муштука недакурак, акуратна ўпакаваў яго да астатніх



Фота з архіва аўтара

недакуркаў у цэлафанавы пакецік. Пачасаў гладка паголены твар, пачмякаў бяззубым ротам і, гледзячы шырока расплюшчанымі жаўтавата-рыжымі вачыма, сказаў:

— Ні кап'я няма. Мо якія крупы ў цябе непатрэбныя… Га, Васіль, не пашкадуй… Бо грошай зусім няма. Начальнік учора паклаў дзясятку ў кішэню. І ўсё. За паўмесяца. Рагоча, свалата: навошта табе грошы, і так пражывеш. Людзі пападуць. А што такое дзясятка? Купіў бутэльку зга́ры, хлеба, цыгарэт — і ўсё.

— Гэта такая ў цябе зарплата? Нешта ты хлусіш, дзядзька…

— Я хлушу? Ніколі ў жыцці не хлусіў, ніводнага чалавека не падмануў! — Антоль перакрыжаваўся. — Не ведаю, якая ў мяне зарплата. Гора, дый годзе. Начальнікі праз паўгода мяняюцца. Адзін старшыня сельсавета быў, пабудаваў дом у два паверхі, з'ехаў. Другі старшыня купіў машыну сабе — з'ехаў. Трэці — учора даў мне дзясятку. Я два дні капаў ямы пад слупы. Мяняем плот: жалезны на цэментовы. Жалезны загрузілі ў «МАЗ» і павезлі на металалом. Жывая, браце, капейка. А ўчора кажа, што я непатрэбен, кепска працую…

— Як гэта ты жывеш, — Васіль са спачуваннем доўга хітаў галавой.

— Як жыву? Лёгка, браток, лёгка.

Збіў яго з панталыку Падшыванец, некуды знікла жаданне корпацца ў градах. Здаецца, стаяў бы ля плота і мянташыў бы языком. Да дурнога і лёгкага хутка прывыкаеш. Як прыліпне, пасля цяжка адчапіцца. Можа, з'ездзіць у суседнюю вёску ў краму, хлеба ў хаце мала? Машына ў двары, ключ на сталe ў хаце. Час змарную, бензіна мала… Ат!

— Заводзь свайго каня ў двор, — сказаў Васіль Падшыванцу. — Скокнем у краму. Мне хлеб трэба, а табе… не пашкадую ўжо капейчыну, куплю якіх круп, каб з голаду не памёр. Калі ты ўжо такі бедны, дык памагу.

— О, душа чалавек, о, дабрыня! Хай табе Бог дасць шмат здароўя і сто гадоў жыцця! — Падшыванец ледзь не трушком зацягнуў свой ровар у двор, прыладкаваў яго ля хлява. Ускочыў у машыну. Паехалі. Сядзеў, задраўшы галаву, важна ўзіраўся па баках, нібы аглядваў сваю гаспадарку. Сустрэчнаму дзядку памахаў кепалам. Аўтамабіль не ровар. Думаюць: Антоль Падшыванец не можа праехаць у машыне. Можа — і не адзін раз.

У краме нікога не было. Гандлярка спаткала іх з парога:

— У доўг не дам. Нават не прасі.

— Мне і не трэба, — Падшыванец з незалежным выглядам трымаўся за Васілём і нешта мармытаў пад нос. Яго аблічча было святочным, паружавела. Вочы блішчэлі, іхні бляск ляжаў адбіткам на бутэльках з гарэлкаю і віном. Ён выцягнуў шыю, вусны неспакойна варушыліся.

Васіль усё гэта бачыў, і яму неяк шкада гэтага бедака. Колькі ў чалавека той радасці? Анічога. Калі купіць сёе-тое, ён, Васіль, бяднейшы не стане, а чалавеку — шчасце. Будзем міласэрнымі. Не шкадуй — і табе калі-небудзь адгукнецца ў чорны дзень акрайцам хлеба альбо лыжкай таўканіцы.

Ён купіў Падшыванцу торбу круп, макароны, цукар, хлеба. Зірнуў у напятае аблічча Антоля, у ягоныя вочы, з якіх вось-вось пальецца сляза, і, махнуўшы рукой, купіў маленькую бутэльку гарэлкі. Д'ябал з ім — хай пасвяткуе.

— О, які чалавек, які чалавек! — мармытаў Падшыванец, нецярпліва коўзаючы рукою ў торбе, лашчачы худымі пальцамі пакункі.

Працяг на стар. 16 (10) »




Фота www.2kola.by

# Лёгкі чалавек

**« Працяг. Пачатак на стар. 15 (9)**

— Твая дабрыня, Васіль, не мае памераў. Хіба толькі ў Бога яна большая.

На вуліцы ні душы, толькі руды сабака перабег з двара ў двор, абыякава зірнуўшы на аўтамабіль. Ні табе кароў, ні авечак — пуста. І певень не спявае — сумна.

У сярэдзіне вёскі, недалёка ад крамы з-пад старых галінастых асакораў высунуўся шэраваты будыначак, дзе месціліся пошта і сельсавет. Васіль ужо мінуў яго, але неспадзявана для сябе затармазіў.

— Пайшлі, зойдзем да пана старшыні, — прапанаваў Падшыванцу. — Пагаворым наконт цябе.

— Не-не-не! Я лепш тут пасяджу, — замахаў рукамі Антоль. — Не, братка, я яго і бачыць не хачу. Ён у мяне вось дзе, — правёў вялікім пальцам па горле.

Ну, калі так, дык так. Будзем спагадлівымі і міласэрнымі да канца. Хоць ён і Падшыванец, але таксама чалавек.

У сельсавеце было ціха, усе дзверы зачынены. Васіль пастукаў у дзверы з шыльдачкаю старшыні, пацягнуў за ручку. За сталом сядзеў маладзён гадоў пад сорак у светлым, амаль белым гарнітуры і ўглядаўся ў манітор камп'ютара. Васіль паспеў заўважыць, што там была нейкая гульня. Над старшынём вісеў каляровы партрэт кіраўніка ўсёй дзяржавы, побач маленькі малюнак Сталіна з дзяўчынкай.

На прывітанне старшыня не адгукнуўся, галаву павярнуў ад манітора толькі тады, калі Васіль на трэці раз амаль пракрычаў: «Добры дзень!»

— Што вы крычыце, я не глухі, — раздражнёна сказаў старшыня. — Што ў вас?

— Я вось па якой справе, — пачаў Васіль і як мага спакойна, ціхім голасам, апавёў гісторыю Падшыванца, расказаў, які той бедны, няшчасны. Дзіўна і як можна чалавека сталага ўзросту, ледзь не пенсійнага, выкінуць на вуліцу, не заплаціць яму за ягоную працу. І гэта зрабілі тут, у сельсавеце. Здзек дый годзе.

Спярша старшыня сядзеў хмурны, напяты, з надзьмутымі вуснамі. Праз колькі хвілін ягонае аблічча ўсміхалася, быццам Васілёвыя словы яму ў радасць.

Проста душа пяе ад таго, што жывуць яшчэ на свеце неабыякавыя людзі да чужога гора, бяды.

Васіль выказаў усё, што хацеў, і змоўк. Узнікла гнятлівая цішыня. Усмешка спаўзла са старшынёвага аблічча.

— Вы хто? Адвакат?

— Не, — Васіль пахітаў галавой.

— З дзяржкантролю?

— Не.

— А чаму сам не прыйшоў сюды гэны ваш Антоль? Я вам скажу так... Гэта гультай, алканаўт... Мне такога дабра не трэба. Я — чалавек прынцыповы, мне ягоных грошай не трэба, сваіх хапае. А не хопіць, добрыя людзі дапамогуць.

І старшыня пачаў расказваць, які Падшыванец ліхі чалавек і няма за што яму плаціць грошы. Што па-добраму, дык той яшчэ павінен сельсавету. А гэта тады, калі не хапае сродкаў, каб памагчы старым, адрамантаваць дарогі, пафарбаваць плот вакол могілак. Хоць каб якія фундатары знайшліся, толькі ездзяць: дай кавалак зямлі пад катэдж. А тут хутка разбурыцца вадаправод і давядзецца зачыняць краму, бо ніякага прыбытку. Унь у суседняй вёсцы зачынілі, і нічога — жывуць людзі. Аўталаўка ўсё прывязе. Абы грошы. Дай зямлі пад катэдж, дай зямлі... А мне якая ласка ад іхняга катэджа?.. Якая ласка?

— А вы кажаце «Падшыванец». Падшыванец не прападзе. Як вёска будзе жыць? Як мне з такімі праблемамі жыць? Усё. Мне трэба на нараду ў раён. Будзьце ласкавы! — паказаў старшыня Васілю на дзверы і выйшаў услед за ім у двор.

— Ну што, братка? — сустрэў Падшыванец чырвоным тварам, вясёлымі бліскучымі вачыма. У машыне ўжо пахла, як у бары.

— Што-што?! Сказаў, што ты гультай і алканаўт.

— Ах, свалата, ах, поскудзь! Я зараз яму нагарну...— паімкнуўся Падшыванец з машыны.

— Так і сказаў. Нагарні, дагані... — міма іх паляцеў, узнымаючы пыл, чорны «Мэрсэдэс», якім руляваў старшыня, і хутка знік за паваротам у цёмнай сцяне блізкага лесу.

— Я — гультай, я — гультай! Ах, свалата! А на якія грошы ён прыдбаў гэны лімузін, га? Ты мне скажы? Я табе скажу: забраў мае грошы і купіў! Гэта на мае грошы! Лімузін за што купіў? Рускім бандытам, унь там за лесам, аддаў гектары зямлі. Мне будачку не даў, будачку не даў, каб яго пранцы! І на мае грошы. Дзясятку паклаў у кішэню. Еш, пі...

— Канечне, на твае грошы, — Васіль быў злосны на сябе, на ўвесь свет. Навошта паехаў з гэтым Падшыванцам? Што ён каму даказаў? Але ж ён хацеў, каб было, як лепш. Што, як лепш? Яму раптам захацелася выкінуць Падшыванца з машыны і паехаць дахаты, але ён стрымаў сябе, прыцiснуў у душы злосць, не даў ёй выйсця.

Абапал дарогі стаяў маўклівы лес, гаманіў, аб нечым думаў. Над ім паплылі пярэстыя хмары. Паветра стала густым, пацямнела. На шкло ўпалі першыя кроплі дажджу. «Во, дурань, забыў зачыніць вокны ў хаце. Падымецца вецер, паб'е шыбы», — падумаў Васіль.

апушчанай галавой нашвэндаешся — галава забаліць. Сэрца тады ляскае, бы дурное. Не, грыбы не для мяне. Хто пачастуе, дык і з'ем. Чаму не? Ежа як ежа, нягоршая за іншую. У, браток, мая сядзіба!

Яны спыніліся ля паўразбуранай хаты, у якой праваліўся гнілы дах. Адна сцяна невядомым чынам яшчэ пакуль не ляжала на зямлі. Кволыя слупкі з усёй моцы ўпіналіся ў яе, краклалі, у любы момант здольныя не вытрываць цяжару. Чорныя, зарослыя пылам і брудам вокны, перакошаныя дзверы на вялікім старадаўнім замку. Вакол хаты малінавы і слівовы гай. Лебяда і крапіва ў чалавечы рост.

— І ты тут жывеш? — Васіль не тое, што здзівіўся, быў уражаны ўбачаным настолькі, што не знаходзіў слоў, каб ацаніць гэты малюнак разбурэння і знікнення чалавечага жытла. Побач, у некалькі дзясяткаў крокаў стаяў двухпавярховы дамок пад чырвоным дахам, з сучаснымі пластыкавымі вокнамі, дарагімі металічнымі дзвярыма.

— Тут, братка, тут. Тут бядую. Калі дождж, сплю пад плёнкай.

— А калі снег, мароз?

— У саломе. А зверху плёнка, стары бацькоўскі кажух. Вось так, братка, і жыву. І няма да мяне аніякай спагады. Старшыня сельсавета, былы, абяцаў вагончык. Абяцанкі-цацанкі. Ужо два гады, як едзе сюды. Цяперашні старшыня кажа, што няма. А мне адна цётка казала, быццам ён камусь з рускіх бандытаў для іхніх вартаўнікоў збыў.

— Як зімаваць будзеш?

— Як? Не прападзем, братка, — змоўніцкі прыплюшчыў вока Падшыванец. — У мяне ёсць суседка. Восемдзесят пяць гадоў. Адной сумнавата. Са мной будзе і лягчэй. Магу і дроў прынесці ў хату, грады пакапаць. Вось так і жыву. Найвялікшы дзякуй табе за тваю ласку. Цяпер мне твайго харчу на месяц хопіць. Вялікі ты чалавек, дабрыня. Хай Бог дасць табе здароўя на сто гадоў. Заўтранька я свой роварчык забяру. Глядзі толькі, каб якая навалач не ўлезла і не пацягнула майго даражэнькага каня. Найлепш загані яго ў хлявок. Ведаеш, зараз злодзей на злодзеі сядзіць і злодзеем паганяе. Ну, пакуль.

**Жыццё імчэла з такой хуткасцю, што нельга было нават параўнаць з нечым. Ні з ветрам, ні з аблокамі, ні з аўтамабілямі, ні з падзеямі, якія мог зрабіць і рабіў чалавек кожнае імгненне**

— Даражэнькі, калі ласачка, падкінь ужо мяне пад хату. Ровар заўтра забяру. — Падшыванец дапіў гарэлку і схаваў бутэлечку ў торбу. — Прабач, табе не пакінуў. Дужа свярбела. Прабач, даражэнькі...

Ат, што гаманіць, нервы рваць. Дурань, навошта купляў яму згару? Сам вінаваты.

— Дык падкінь, братка, га...

— Падкіну ўжо, падкіну...

Падшыванцава вёсачка была недалёка, за бугром, з усіх бакоў лес. Можна даплюнуць — рэчка. А ў лесе грыбы, ягады — проста цуд. Райскае месцейка.

— Я ў грыбы не хаджу, ногі баляць, — закрактаў Антоль. — З

Антоль сцягнуў з галавы сваё кепала, нізка пакланіўся і пашыбаваў па пратаптанай у крапіўным гушчары сцежачцы да хаты. Ён ішоў шырака, прыўзняўшы высака галаву, крокам упэўненага ў сваім жыцці чалавека.

Дождж даўно скончыўся. Паветра было мяккім, салодкім. З двара патыхала разнатраўем. Асабліва пахла малінай. На кустах ружавелі першыя спелыя ягадкі.

Лета буяла, абяцала адарыць сваім багаццем.

Назаўтра Васіль, успомніўшы нейкі свой даўні клопат, адкладваць які далей было нельга, паснедаўшы, пакіраваў у горад. Сёе-тое, як кажуць, пятае-дзясятае, пакуль давёў справы да ладу, і дзень схіліўся да сконy.

Жыццё імчэла з такой хуткасцю, што нельга было нават параўнаць з нечым. Ні з ветрам, ні з аблокамі, ні з аўтамабілямі, ні з падзеямі, якія мог зрабіць і рабіў чалавек кожнае імгненне. Васіль заехаў у двор, доўга сядзеў у машыне, не хацелася вылазіць, стомленыя ногі і рукі прасілі адпачынку. Урэшце ён пацягнуўся, выпрастаўся і пасунуўся ў хату. Неспадзеўкі зіркнула ў галаве: ты ж, ад'язджаючы, не замкнуў дзверы. Дзе твая галава і два вухі.

Так яно і было. Ён вельмі спяшаўся, толькі тады накінуў замок, як клямку, на завушны.

Яго штосьці насцярожыла. Так заўжды адчуваеш нейчы надта пільны позірк, нечаканую і непатрэбную прысутнасць невядомага чалавека, ад якога плыве варожасць і пахне страхам. Не кожны здольны так успрыняць чужыя эмоцыі і вытрываць спакой.

Васіль натапырыўся, ухапіў у рукі жалезнае правідла, якое ляжала ля хлява з невядомых часін. Хай толькі хтось сунецца, будуць яму і танцы, будуць і шманцы. Будзь асцярожны: у галаве бом-бом-бом.

Абышоў хату, дый што там аглядаць: два пакойчыкі і яшчэ пакойчык, дзе можна есці і гатаваць. Кухня. Як немцы кажуць: кюхер, кюхер і кюхер. Як правільна, ці гэта так важнеско. Гэта так ужо па-польску мовіў Васілёў сусед Казік Мазейша. Канечне, не важнеско. Але адчыням халадзільнік. О, Матка Боска, па словах Казіка. Дзе бутэлька каньяку? Дзе кілаграм сасісак? Дзе мой любімы будзільнік, які спяваў шторанiцы нібы вогненагрывы певень? Дзе мае боты і чаравікі? Так, так, так!.. Ага, дзе магутны ровар Падшыванца, без якога прападзе гэты чалавек? Няма!..

Васіль выйшаў у роспачы з хаты ў двор. Неба хілілася да сну. Птушкі ўжо не спявалі. Толькі камары таньчылі і гулялі сваё д'ябальскае вяселле, дурэючы ад чалавечай крыві. І што гэта робіцца на свеце? Што?

— Васілёк! — пачуў ён і пазнаў голас Мінаўны, суседкі, якая, нахіліўшыся над плотам, гукала яго.

— Што, Мінаўна?

— А ці ж дазваляў ты гэнаму Падшыванцу, што швэндае па вуліцах, заходзіць у хату?

— Не...

— Дык ён жа ж цэлы пук вынес з тваёй хаты. Казаў, што ты святы чалавек і адорыў яго сваёй міласцю. А ўчора ў мяне, калі пайшла па грыбы і не замкнула хату, мабыць, украў гадзіннік. Ах, свалата, ах, бадзяга! І нібыта шкада чалавека...

І зноў дождж, цёплы, вясёлы, ад якога пачынае спяваць душа. Жыццё нястрымнае, імклівае. Сёння пыл, а заўтра — камень, вецер гне траву. Толькі неба вечнае. Здаецца, ніколі і нічога... Нічога і ніколі.

Быў ты дурнем і ім застаўся. Проста жыць, калі быць лёгкім чалавекам? Ці быць дурнем? Аблокі паплылі і вецер сціх. Бяры ў рукі рыдлёўку і рабі грады. Варта пасеяць жыта, каб пазней вырaслі агуркі. Сонца ласкавае, яно ўсміхаецца...

Вечна...

# Быць, каб застацца

**Калі мне патрапіла ў рукі новая кніга Барыса Пятровіча «Ідзі адзін» (Мінск, «Кнігазбор», 2019), то адразу ж наплылі і запаланілі душу шчымлівыя ўспаміны маладосці.**



Як перад вачыма паўсталі тыя галаднавата-свавольныя часы першых гадоў станаўлення беларускай дзяржаўнасці, адстойвання суверэнітэта, адраджэння нацыянальнай мовы і культуры, — тыя ліма-палымянскія сходкі з гучнымі, ледзь не рукапашнымі спрэчкамі, нервова-зануранымі шахматнымі баталіямі, шчырымі, крытычна-суровымі абмеркаваннямі палітычных падзей і новых публікацый калег і таварышаў... Найбольш інтэлігентным у паводзінах у тым шумлівым гурце быў Барыс Пятровіч. Здаецца, я амаль заўсёды прайграваў яму шахматныя партыі, але наўрад ці саступаў у палемічным запале вакол новых літаратурных павеваў. Што ж, у кожнага літаратурнага пакалення бывае свой залаты творчы час. Ужо недалёка было да зачацця элітарнай «Крыніцы», усталявання аўтарытарнага антынацыянальнага рэжыму, расколу беларускага, у тым ліку культурнага і інтэлігентнага грамадства, змагарства за самасць дзяржаўнага існавання, раздзяляльнага літаратурнага двубою ў СПБ, заснавання часопіса «Дзеяслоў»... так, так, тым самым Барысам Пятровічам. Адным словам, ёсць што ўспомніць і — засмуціцца хуткаплыннасцю часу.

Таму чытачу адразу трэба прыняць да ведама, што гэта кніга не сённяшняга сталага і пашанотнага пісьменніка Барыса Пятровіча, а трыццацітрохгадовага адоранага літаратара на пачатку яго творчага шляху. (А ўжо сёлета, заўважым як бы між іншым, надарацца два адметныя юбілеі — 60-годдзе Барыса Пятровіча Сачанкі і выхад у свет 100-га нумара часопіса «Дзеяслоў», які ён заснаваў і нязменна да гэтай пары ўзначальвае і рэдагуе.)

Вядома, што Б. Пятровіч увесь час быў атулены літаратурай, яго старэйшыя дзядзькі былі людзьмі менавіта з гэтай нацыянальнай «касты». З юнацтва кнігі атачалі Барыса, асабліва таму спрыяла вялікая бібліятэка найбольш вядомага яго дзядзькі, пісьменніка Барыса Іванавіча Сачанкі, у якога падчас хваробы жыў пляменнік. Пасля ўжо, метафарычна кажучы, была «борхесава бібліятэка», дзякуючы якой усталёўваўся малады літарацкі талент. Хоць, забягаючы наперад, шчыра адцемім, што Барысу бліжэй былі Кафка і Картасар... Дзіцячая і юнацкая хваравітасць скіроўвалі яго неакрэплую натуру да «нездаровага» творчага перажывання і містычна-фэнтэзійнага крэатыву. У маладосці Барыс Пятровіч быў хлопцам своеасаблівым і кампаньёнаў па жыцці выбіраў вельмі надзейных і блізкіх па сваім светаўспрыманні. Прынамсі, у дзённікавых запісах рэцэнзуемай тут кнігі можна натыкнуцца на такія згадкі: «Памятаю, калі ў 1984–85 гг. зімою Сяргей Дубавец, я і Воўка камісар (Пінчук) збіраліся ў мяне на кватэры, бралі з сабою 10 пляшак кефіру і ноч навылёт гулялі ў «тысячу», патрошку смокчучы кефір». Вы можаце ўявіць сённяшніх (зрэшты, і тадышніх) маладзёнаў, якія «прасаджваюць начны час» за кефірам?! Ну і не адной толькі «тысячай» балела галава ў тых, як пазней сталі пагардліва казаць, свядомых хлопцаў... Бо пры гэтым усведамлялася, што «гніюць хлопцы ў Гомлі (ня варацца ў сваім соку, а менавіта гніюць) — колькі там, у прынцыпе, таленавітых паэтаў, але ніводзін ніяк не ўзаб'ецца на нешта сур'ёзнае. <...> Затое вырваўшыся зь яго, як акрыялі і як працаваць пачалі: напорыста, сьвежа, натхнёна — і Анатоль Сыс, і Акулін, і Бяляцкі, і Казлоў, і Дубавец... Ды я і сам за першы год у Менску напісаў больш, чым за сем — у Гомлі».

Напраўду, Барыс маладога часу не губляў, ён вучыўся ў мэтраў і сам паглыбляўся ў нетры літаратурнай творчасці, самакрытычна аналізуючы сваё і супастаўляючы «чужое». На свет з'явіліся дзве кніжкі («Ловы» і «Сон між пачвар»), сам ён стаў працаваць на адказнай пасадзе ў тады яшчэ папулярным тыднёвіку «ЛіМ». А неўзабаве «элітарны» часопіс «Крыніца» выдрукаваў пастаць Барыса Пятровіча ў рубрыцы «ТЫ» (гутарку з пісьменнікам, яго творы ды развагі крытыкаў і літаратараў пра яго творчасць). Не кожнаму, шчыра кажучы, выпадала такое шчасце па тым часе. Бо тым самым пісьменніцкае імя як бы «афіцыйна» ўсталёўвалася на «покуце» сучаснай беларускай літаратуры.

Для цікавасці я зазірнуў у свой крынічны архіў і зрабіў колькі вытрымак з той грунтоўнай публікацыі. Пра свае творчыя пошукі і пачынанні Барыс казаў так: «Бальмант, Севяранін, Хлебнікаў... Прачытаў. Аж дых захапіла. Гэта было адкрыццё: аказваецца, можна пісаць і так... З гэтага пачалося маё захапленне «наватарствам», «авангардам», «словатворчасцю»... <...> Стаў спрабаваць пісаць сам тое, што падабалася, ніколькі не спадзеючыся на магчымасць надрукавання...». Эмацыйна гаварыў пра літаратурны працэс, сваё пачуванне ў ім і літаратурную крытыку: «Майму пакаленню не пашанцавала. Няма ў нас «сваіх» крытыкаў. Выдатна пачыналі Дубавец, Кавалёў, Васючэнка... Сёння — адзін публіцыст, другі — драматург, трэці — літаратуразнаўца. Мне, як, пэўна, і іншым, вельмі хацелася б мець «свайго» крытыка. Які разумеў бы мяне, які бачыў бы не толькі сюжэт, але і тэкст, кантэкст і падтэкст. З якім можна было б проста «разумна» пагаварыць». Ну і ўласна пра творчасць, сваё бачанне і разуменне пісьменніцкай працы заяўляў узвышана і безапеляцыйна, як таго і вымагала натура маладога бунтоўнага таленту: «Нават калі ў мяне будзе адзін чытач — я сам — мне гэтага дастаткова... Буду шчырым да канца: мне не славы хочацца. Мне хацелася б застацца».

Сёння, усведамляючы выбітны літаратурны плён Барыса Пятровіча, і гледзячы на яго адметнае месца ў структуры самога Саюза беларускіх пісьменнікаў, з цяжкасцю даеш веры, што такі чалавек адкрыта выстаўляе сваё ўнутрана ваяўнічае прамінулае на гэткім сённяшнім агульна шэрым і слабавыразным літаратурным фоне. Тым больш, ведаючы Барыса як чалавека сціплага, інтэлігентнага, дзесьці ў чымсьці даволі асцярожнага і памяркоўнага. Але ж — не, творчая воля і прага выявіцца даастатку ўзялі верх. І я гэтаму творчаму ўчынку калегі не магу не парадавацца. Бо пачыналася яго ўласнае жыццё-быццё так: «У аднапаёўцы. Побач гудзе тэлевізар — жонка глядзіць. У мяне гудзе, адвальваецца галава. Аднак лепшых часоў ня будзе... <...> Я пра спакой, асобную кватэру, уласны кабінет... пра магчымасць працаваць. Я іх практычна ня меў і ня маю, і трэба зьмірыцца з тым, што, магчыма, і мець ня буду ніколі». І тут Барыс моцна памыліўся. Ці вось — пра тадышні Саюз пісьменнікаў Беларусі, які — о, парадокс! — Барыс Пятровіч сам узначаліць праз пэўны, не такі ўжо й далёкі час: «Усё-ткі я надумаў уступіць у Саюз пісьменнікаў. Хоць гэта для мяне было ня простым рашэньнем. Апошнім часам гэтая арганізацыя сябе моцна скампраметавала. Але ўступаць буду, як гэта ні горка казаць, па прычынах далёкіх ад творчых... Ну прыстасаванец я. І гэткім робіць мяне дзяржава. Уступаць буду, спадзеючыся, што ўдасца з часам праз Саюз атрымаць кватэру. І толькі». Гэта я цытую дзённікавыя запісы менавіта з кніжкі «Ідзі адзін». Наастатку яшчэ адзін штрых — адмова ад выступлення на літаратурнай імпрэзе ў Доме літаратара, якую ён тлумачыць так: «...не хачу я пакуль вытыркацца, каб прыцягнуць да сябе ўвагу, якая мне не патрэбная. Дый ня ўмею я трымацца на сцэне і вучыцца не хачу (а некалі ж умеў — быў нязьменным вядоўчым усіх школьных вечарынаў, канцэртаў). Не маё ўсё гэта...». Тут, як кажуць, параўноўваючы з сённяшнім днём, поўны аксюмаран...

Але хіба не патрабавала натуральнай чалавечай адвагі друкаванне такой шчырасці, каб пісаць пра сябе ўчарашняга тое, што сёння нейкім бокам кантрастуе з рэчаісным... Гэта можа азначаць толькі адно: унутрана Барыс Пятровіч не пахіснуўся ў сваіх творчых і маральных перакананнях, дзе знешнія праявы жыццядзейнасці не перасільваюць і не зацяняюць духоўных якасцяў яго чалавечай і творчай натуры. Ды будзем шчырымі, пасада старшыні СБП не дадавала і не дадае станоўчага іміджу ў папулярызацыі творчасці пісьменніка (што ты ні пішы, як ты ні выдавайся), бо ўсё ж такое месца ў літаратурнай іерархіі лічыцца заведама наменклатурным, не гледзячы нават на недзяржаўнасць яго статуса ў дадзеным выпадку. Што ж, адны з нас ганарацца сваёй рэвалюцыйна-бунтарскай і палымяна-трыбуннай дзейнасцю, іншыя спалучаюць яе з літаратурнай працай, асобныя ж застаюцца творцамі і па меры магчымасці не даюць затухнуць агменю нацыянальнай культуры, мовы і літаратуры. Барыс з апошніх. Магчыма, якраз з тых, што, па-біблейску кажучы, стануць першымі...

Цяпер — пра саму кнігу.

Цікава, што ў прадмове да яе Барыс Пятровіч як бы шмат што тлумачыць і разжоўвае традыцыйнаму айчыннаму чытачу, даходзіць ледзь не да выбачэнняў, што, маўляў, можа, ён і хацеў бы што паправіць сёння з таго даўняга, але не будзе, бо хоча паказаць, якім ён быў маладым, якімі вачыма глядзеў на пачаткова-незалежны беларускі свет, якім яго бачыў і ўяўляў, а ў нечым хацеў, каб ён быў іншым... Аўтара зразумець можна. Яму хочацца, каб чытач успрыняў яго кнігу разважліва і адэкватна, як і было задумана пісьменнікам. Але чытач таксама розны. Ёсць традыцыйна-класічны, а бывае і з нелінейным успрыманнем. Бадай, я адзін з падобных. Я хачу зразумець Пятровіча. І гэта, скажу вам, не так проста. Пачну з таго (як наўпрост на тытуле кніжкі заяўлена), што Пятровіч — адзін. Хоць, на маю думку, гэта зусім не значыць, што ён як творца адзінокі ў самім сабе, бо якраз у сабе самім і сам з сабой — ён множны і шматлікі (неадналінейны). Тое нават вынікае з фармата кніжкі, з самога творча прадуманага выдавецкага праекта. Бо кніга Барыса Пятровіча выбудавана яшчэ і як «справаздача» (па сваёй форме і структуры) станаўлення яго як пісьменніка і творчай асобы. Цікава, што менавіта такой кніжка была задумана яшчэ тады (у 1993-м), на раннім этапе яго творчасці: «Падумаў, што сапраўдны мой дзённік усё ж не гэты, а той, які я гэтакасама пісаў (пішу) штодня: «Версіі», а яшчэ «Піліпікі» і «Апофрыкі». Цікавая можа атрымацца рэч, калі надрукаваць як-небудзь усё разам: спачатку гэты дзённік, а потым «Версіі» і астатняе».

І напраўду, кніжка сфармавана як бы ў пяці паралелях, якія выяўляюць няпросты час айчыннай незалежнасці і быційна-творчае жыццё самога пісьменніка: «дзённік», «кола дзён», «версіі», «апофрыкі» і «піліпікі». І калі грамадска-палітычная сітуацыя той пары наўпрост у кантэксце кнігі не разгортваецца і не падлягае развагам і аналітыцы, а толькі канстатуецца праз афіцыёз (паведамленні ў СМІ), то ўсё астатняе творча і па-мастацку пераасэнсоўваецца. Тут крэатыву ў аўтара звыш меры. Адчуваецца катэгарычны адыход ад літаратурных традыцый «класічнага сацрэалізма». А ў некаторых жанрах — наследаванне творчай манеры і стылістыцы любімага аўтарам Хармса. Нават ужо згаданае вышэй фармаванне кніжкі прачытваецца ў гумарыстычных (з тонкім падтэкстам) «Піліпіках»: «Піліп любіць чытаць газеты.

Працяг на стар. 18 (12) »

# Быць, каб застацца

« Працяг. Пачатак на стар. 17 (11)

Любіў сьвежасьці. Бывала, купіць у краме што-небудзь і просіць, каб загарнулі ў газету. <...> Бабулькі заўсёды загортвалі семкі ў найцікавейшыя ўрыўкі артыкулаў. Піліп чытаў іх без пачатку альбо без канца, альбо без аднаго і другога разам. Чытаў і астатняе дадумваў. І так прывык, што цяпер, нават купляючы газету, ён спачатку раздзірае яе на кавалкі, складае абы-як і толькі потым — чытае. Асалода надзвычайная. Паспрабуйце. Раю».

Безумоўна, што ўжо ў такіх тэкстах прачытвалася і была закладзена «схема» гэтай «калейдаскапічнай» кніжкі. Часцей за ўсё кожны аўтарскі дзень студзеня 1993 года сваімі рознымі жанравымі тэкстамі гарманічна дапаўняе цэласнасць пражытага і створанага, а калі і супярэчыць ці правакуе чытача, то толькі з мэтай больш глыбокай уважлівасці і разважлівасці да напісанага. Таму на пазначаны час жыцця чытач хоць і глядзіць вачыма Барыса Пятровіча, аднак сінтэзуе ўбачанае сам і сам жа робіць высновы праз мастацкую трансфармацыю ва ўласным усведамленні. Ну вось вам да сказанага мной такая «версія»: «...у мяне захавалася здольнасьць глядзець на напісанае, сваё зразумела, як на чужое. І адпаведна ацэньваць. Тым больш, чытаючы чужое — гэтая якасьць выпірала і адсейвала кнігі па некалькіх сказах. Я загарнуў і адклаў кнігу. І толькі цяпер зірнуў на вокладку. Там стаяла прозьвішча прызнанага ўсімі класіка». А, між тым, гэта яшчэ і ўнутраная (завочная) палеміка з класічнай традыцыяй беларускай літаратуры, вызначэннем яе існай значнасці і спроба стаць «перашкодай» на яе вытаптаным гасцінцы. Больш за тое, не баючыся несувымернасці талентаў, малады пісьменнік як бы спрабуе паставіць сябе ў адзін шэраг з мэтрам нацыянальнай літаратуры. Менавіта так па тым часе (няхай толькі і для самога сябе) раскладваў мастацкі вектар уласнай творчасці. І гэта смелы і варты павагі літарацкі ўчынак. Шчыра кажучы, калі сустракаешся з чарговым творам ці кнігай якога-небудзь нашага вядомага пісьменніка, то прыкладна ведаеш ці здагадваешся, а то ўжо і чакаеш пэўнага, толькі таму канкрэтнаму пісьменніку прыналежнага зместу і мастацкага светавыяўлення. Аднак ёсць адзінкі выбітных і неардынарных, чытаючы якіх заўжды натыкаешся на новы нечаканы змест, арыгінальнасць мыслення, стылю і ўласнага светабачання. Адзін з такіх у нашай сучаснай літаратуры — Барыс Пятровіч. Вядома, што такое творчае становішча — быць у авангардзе — вымагае ад аўтара і разумення і трывання свайго літаратурнага выраку. Зрэшты, яшчэ ў пару маладосці (сярэдзіна 90-х) Пятровіч ужо падобную долю ўсведамляў і выказваўся пра яе так: «Я ўпэўнены ў тым, што раблю, я ведаю, што пішу не для масаў, а для падрыхтаванага, «начытанага» чытача. І вельмі рады, калі знаходжу разуменьне». На жаль, крытыка недастаткова зважала (і зважае) на падобную яго творчасць (хоць, трэба прызнаць, што і сама крытыка, не зважаючы на некаторую інтэрнэт-прасунутасць, у сваёй пераважнасці застаецца даволі статычна-прадказальнай і стылістычна-пазнавальнай, за выключэннем двух-трох імёнаў, — як у дзяржаўных, так і ў незалежных выданнях). І ўсё ж такая адносная няўвага і пэўная доля крытычнасці не «загналі» пісьменніка ў «стойла» шараговасці. (Пры гэтым зазначу, што пошукам новых форм і сэнсаў, апроч Алеся Разанава ў паэзіі, у беларускай прозе па тым часе амаль ніхто не займаўся, хіба што апроч рана адышоўшага Алеся Асташонка.) Таму, чытаючы сучасную прозу Барыса Пятровіча — апошнім часам усё больш жывую, асягальную, крэатыўную — адаптуеш свой досвед адносна прыўнесенага ім інтэлекту да рэалій сучаснага чалавечага жыцця (нацыянальнага найперш)...

Што да ідэйнай і структурнай вызначанасці кнігі «Ідзі адзін», то, безумоўна, яе стрыжнем (ствалом), на якім трымаецца сутнасць, з'яўляецца «дзённік» пісьменніка, што «мусова» пісаўся аўтарам цягам студзеня 1993 года. Карэнная, як і заўсёды найбольш схаваная частка, — гэта «кола дзён», газетная рубрыка, якая палягае на інфармацыі з грамадска-палітычнага атачэння і афіцыйных СМІ. Ну і крона з усімі сваімі адгалінаваннямі (найбольш адметнае і шумліва-гаварлівае) — гэта мастацкія тэксты пісьменніка (галіны — «версіі», лістота — «апофрыкі» і насохлыя сукі — «піліпікі»). Такім своеасаблівым (вобразным) літаратурна-мастацкім дрэвам падаецца мне фармат гэтай кнігі Барыса Пятровіча. Пра «дзённік» і «кола дзён» асабліва гаварыць не выпадае — гэта канстатацыя грамадскага і аналіз унутранага жыцця. А што да мастацкіх твораў, то, скажам, «піліпікі» ёсць кароткімі тэкстамі з адценнем бяскрыўднага гумару, іроніі, а сям-там і сарказму. Перакажу адзін з іх сваімі словамі. Ён пра тое, як Піліп купіў на прыпынку банан... адзін, другі, трэці... Смачна, спадабалася, хочацца яшчэ, ды — цап-лап па кішэнях, а грошай ужо няма... Уся ўчарашняя палучка скончылася.




Гэтая іранічная зацемка, наўзбоч пацешнасці сітуацыі, паказвае нам і на той сацыяльны лад жыцця на пачатку станаўлення дзяржавы — такія былі кошты і такі быў заробак... Часам не абыходзіцца і без гратэску. Што да «апофрыкаў», то гэта даволі смелы аўтарскі крок да зваротнага боку беларускай гісторыі — не рытарычнага яе ўслаўлення, не празмернага гонару ці, крый Бог, абсмейвання, а яе правакацыйнага выварочвання вонкі, з посмехам паказваючы на яе казачную легендарнасць і прасталюднасць, тым самым прыцягваючы да слаўных сыноў Айчыны пільную ўвагу сучаснай чытацкай аўдыторыі. Пры гэтым яшчэ выклікаючы параўнальнае і асацыятыўнае супастаўленне прамінулага і сённяшняга. Скажам, пішучы пра Міндоўга, які займеў коціка і любіў з ім праводзіць шмат часу, і нават драмаць на каралеўскай службе, ды на пасяджэннях таго ж дзяржаўнага сойма... І вось мараль: «Жыў коцік у Міндоўга, бедалагі, доўга — дзён дваццаць, аж, пакуль зайздроснікі не атруцілі яго. Вядома, Міндоўга». Гэта і пра пільнасць, і пра абачлівасць, і пра нядрэмную адданасць служэнню Айчыне (пра тую ж скрынку цвікоў, калі сітуацыю скіраваць да колішніх нашых парламенцкіх супрацьстаянняў). Альбо вось гэты кароткі тэкст: «У чарговы раз разьбіўшы войска чарговага маскоўскага цара, Радзівіл, каторы «Чорны», палонных браць адмовіўся, як яны не прасіліся. «Ідзіце дамоў з Богам, — сказаў ён маскалям, — і шукайце вакно ў Еўропу ў іншым месцы...» — але ім давялося яшчэ некалькі сотняў гадоў чакаць нараджэньня Пятра». Зразумела, што такія, на першы погляд, пацешкі напісаны не толькі для тых, хто любіць пасмяяцца, а найперш для тых, хто задумваецца над прычынай самога смеху. Пятровіч пры гэтым не так часта карыстаецца метафарай ды іншымі тропамі, а найчасцей — алагічнымі пасыламі ды стылістычнай непрадказальнасцю. Што да «версій» (тых жа «мрояў»), то нельга не адзначыць іх выключнасць, і тую аўтарскую здольнасць, калі ён на абмежаванай тэкставай прасторы (максімум старонкі) здольны выкрасіць такую нечаканую думку, такі энергетычны эмацыйна-пачуццёвы пасыл, якія выводзяць чытацкія развагі далёка за межы літаральнага зместу. Хоць бываюць і спрошчаныя варыянты, але даволі цікавыя па задуме. Чытаючы сёння ўзвышаныя ўспаміны Сяргея Навумчыка пра высакароднае парламенцкае змагарства, раптам у Барыса Пятровіча натыкаешся на іншае: «Праклёны між зямлёю і небам. Лаянка. Брудна, склізка, пагана, як у вясковай лазні. Маты. Між зямлёю і небам. Ідзе пасяджэньне парламента. Ня верыце? Уключыце тэлевізар. Праклёны. Маты. Між небам і зямлёю. Так робіцца вялікая палітыка? Не, гэта яны думаюць, што так яна робіцца». Ну вось, скажа нехта, такія эстэты-інтэлігенты, як наш аўтар, і надламілі нацыянальнае дзяржаўнае будаўніцтва... Але гэта памылковая думка, бо мараль у дадзеным выпадку засноўвалася на асвеце і духоўнасці. Дарэчы, ёсць у кніжцы геніяльная рэч — пра ліхтар, аб якім людзі пачынаюць узгадваць толькі апынуўшыся ў цемры і прагнучы святла... Часам Б. Пятровіч на сваёй творчай самоце-адзіноце возьме ды смела і адчайна напіша тое, пра што іншыя ніколі не напішуць, а будуць насіць у сабе як затоеную зайздрасць, альбо камень за пазухай, да канца жыцця. Скажам, такое смела-параўнальнае з самім (тады яшчэ жывым і дзейным) непераўзыдзеным класікам нацыянальнай літаратуры Янкам Брылём. Маўляў, «ён глядзіць на жыццё стоячы на зямлі, між людзей, я ж лятаючы над жыццём, пазіраючы на іх зьверху, і таму ў мяне больш магчымасьцяў, я магу і фантазаваць, і выдумляць. Ён прывязаны да жыцьця, я ж — адарваны... Аднак, у прынцыпе, трэба мне прызнацца самому сабе, што я, хай і падсьвядома, бо дайшло мне гэта толькі зараз, сёньня, працягваю ягоную, Брылёву справу. Працую ў ягонай традыцыі, хоць і новымі сродкамі». Вось так, не менш-не больш. Да таго ж, наколькі Барыс Пятровіч смелы (назавём гэта так), настолькі ён і самакрытычны (і тут у яго адвагі нашмат больш): «Дарэчы, учора быў час, і я перагледзеў напісанае сёлета — і сумеўся: ад былых мрояў засталіся рожкі ды ножкі. Я дэградую. З больш чым 25 запісаў-мрояў можна выбраць для друку хіба што дзьве ці тры больш-менш прыстойныя «версіі»». Гэта было напісана чвэрць стагоддзя таму, аднак менавіта з такіх высноў і настрояў, бадай, і выкрышталізоўвалася яго творчая і чалавечая прага да дасканаласці... і асуджанасць на адзіноту. Але ж гэта надавала і нязломнасці, веры ў свае сілы і спараджала будучы плён уласных духоўных намаганняў. Адсюль, як мне падаецца, і назва кнігі і лёсавы знак творцы — ідзі адзін. Бо, зразумела, што, ідучы са сваёй адзіноты, ты йдзеш да ўсіх. І, у рэшце рэшт, аднойчы прыходзіш. З чым? О, гэта ўжо іншае пытанне. Але бясспрэчна адно, што такое здараецца толькі тады, калі літаратура, якая павінна была стаць пісьменніку хлебам, становіцца яму духам. Якраз тое і тычыцца таленавітай, неардынарнай і далёкасяжнай творчасці Барыса Пятровіча.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**Ідучы са сваёй адзіноты, ты йдзеш да ўсіх. І, у рэшце рэшт, аднойчы прыходзіш. З чым? О, гэта ўжо іншае пытанне. Але бясспрэчна адно, што такое здараецца толькі тады, калі літаратура, якая павінна была стаць пісьменніку хлебам, становіцца яму духам**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Што ёсць 3 ліпеня для народа Беларусі

« Працяг.
Пачатак на стар. 6

А вітаў жа кіраўнік дзяржавы ў гэты дзень людзей не з Днём Вызвалення, а з Днём Незалежнасці, Днём Рэспублікі, не забыўшы, аднак, сказаць нямала добрых слоў і на адрас тых, хто ў ліпені 1944 года выратаваў беларускі народ ад акупантаў.

І ўсё ж не гэта з’яўлялася самым істотным у прамове кіраўніка дзяржавы, у чым пераконваемся з наступных слоў: «Дазвольце шчыра павіншаваць вас з нашым галоўным нацыянальным святам — Днём Незалежнасці».

У той прамове Лукашэнкі нельга не звярнуць увагі на такія словы: «На працягу многіх вякоў нашу зямлю неаднойчы дратавалі боты хцівых чужынцаў, якія ішлі на нас з агнём і мячом. Мангола-татары, крыжакі, немцы, шведы, французы, немцы». А вось пра рускіх — ні слова, хаця менавіта ў баях з імі пралілося мора беларускай крыві, панесена найбольш матэрыяльных страт, пераканаўчым сведчаннем чаму з’яўляюцца беспераппынныя войны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім, Рэччу Паспалітай, у складзе якой знаходзілася і наша краіна ў статусе палітычнага суб’екта. Галоўны ж змест той прамовы зводзіўся да ўсхвалення савецкага мінулага, да слёзнай жальбы аб распадзе СССР і, вядома, да ацэнкі сучаснага жыцця, якое не ўяўлялася без шматбаковай сувязі з Расіяй, асабліва ў сферы эканомікі. Прамоўца неабгрунтавана і не да месца шмат крытыкі выказаў на адрас сваіх апазіцыянераў.

Так, па волі ўлады, а не народа Дзень Незалежнасці ўжо з 1997 года намертва ўвабраў у сябе 3 ліпеня 1944 года — Дзень вызвалення Беларусі.

Вось такім абкарнаным сталася традыцыйнае ў нас свята 3 ліпеня ўжо ў першы год, калі пачалі адзначаць гэты дзень. Яе кіраўнік павіншаваў з днём вызвалення Мінска толькі ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, а не ўвесь беларускі народ.

Толькі па вядомых для ўлады прычынах надзвычай сціпла правялі афіцыйны Дзень Незалежнасці Беларусі (Дзень Рэспублікі) у 1998 годзе. Віншаванне Лукашэнкі беларускаму народу складалася з 10 невялікіх абзацаў. Цяжка паверыць у такія яго словы: «Нягледзячы на сваю маладосць, яно ўвайшло ў кожны дом, у кожную сям’ю, стала сапраўдным агульнанацыянальным набыткам». І не даюць паверыць гэтаму не погляды аўтара дадзенага артыкула на 3 ліпеня, але тое, як у тыя дні ставіліся да яго іншыя людзі, што перажылі акупацыю і пажадалі выказацца на старонках газеты «Звязда». Так, Аркадзь Гайдук з вёскі Калюжыца Бярэзінскага раёна назваў 3 ліпеня перш за ўсё Днём вызвалення. А вось меркаванне Мікалая Багамаза з Крупак: «Для нас гэта свята ў першую чаргу звязана з




3 ліпеня 2017 года




Днём вызвалення Мінска... Гэта адно з нашых галоўных святаў, бо падчас вайны загінуў кожны трэці. Галоўнае, быў выратаваны ад гітлераўскага генацыду наш народ. Найперш трэба памятаць менавіта аб гэтым. Таму, лічу, не зусім удала аднайчасова мы адзначаем яшчэ і Дзень Незалежнасці». Аляксандр Фурман з Пінска (13 гадоў): «У гэты дзень Мінск вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, гэта вялікае свята для ўсіх».

Прыкладна ў такім жа фармаце, як 3 ліпеня 1997 ці 1998 гадоў, адбывалася святкаванне Дня Рэспублікі ва ўсе наступныя гады. Стала модным да слоў «Дзень Рэспублікі» дадаваць словы «Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь». І тут усё зразумела: моцнае жаданне бачыць гэта хоць на паперы, калі такое адсутнічае ў рэальнасці. А вось словы «Дзень вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі» адсутнічаюць. Не збыліся прароцтвы, выказаныя ў ліпені 1945 года на яго адрас Сёмай сесіяй Вярхоўнага Савета БССР, маршаламі Савецкага Саюза, вядомымі палітыкамі, дзеячамі навукі і культуры, самім беларускім народам.

### Час вызвалення і Дзень Незалежнасці

Так жыццё склалася, што для нас, беларусаў, слова «вызваленне» і сёння мае надзвычай важнае значэнне. Ці ж гэта, скажам, не актуальна, вызваліцца з-пад руйнавальнага ўздзеяння «Рускога мира» на этнакультурную самабытнасць нашай нацыі? Ці ж гэта не час вызваліцца ад нацыянальнага нігілізму, так шырока распаўсюджанага ў выніку ўжо не толькі царскай, бальшавіцкай, але і галоўным чынам уласнай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі? А якая пільная патрэба вызваліцца ад усяго антынацыянальнага, антыбеларускага, што прысутнічае ў дзяржаўнай сістэме адукацыі, у самых прэстыжных пластах культуры! А як наспела неабходнасць хутчэй вызваліцца ад ненасытнага жадання многіх нашых людзей кінуць хворую маці-Беларусь і шукаць разам з дзецьмі, унукамі багатага жыцця ў замежжы! Нам трэба рашуча вызваляцца ад карупцыі ў самых высокіх эшалонах улады, што зараз назіраецца і сярод элітарнай часткі грамадства, ад нечуванай да гэтага часу нацыянальнай пасіўнасці, асабліва з боку дзяржаўнага чыноўніцкага апарату, інтэлігенцыі, уключаючы і творчую.

А вось ад Дня вызвалення, што прыпадае на 3 ліпеня, ніяк нельга вызваляцца, як таго не робяць палякі, штогод адзначаючы 1 жніўня Дзень Варшаўскага паўстання 1944 года. Французы ажно з 14 ліпеня 1789 года адзначаюць як сваё вялікае нацыянальнае свята ўзяцце крэпасці і турмы Бастыліі, не навязваючы гэтаму дню ніякай іншай падзеі. А мы праз 52 гады наклалі сярод белага дня рукі на 3 ліпеня 1944 года, калі ў 1996 годзе яшчэ жыло нямала ўдзельнікаў баёў за вызваленне Беларусі, а яшчэ больш тых, хто ў дзіцячым, юнацкім узросце сустракаў пераможцаў. Сёлета спаўняецца 75 гадоў той гістарычнай падзеі, што з’яўляецца добрай нагодай, каб вярнуцца да традыцый 1945–1996 гадоў і штогод адзначаць 3 ліпеня як Дзень вызвалення беларускага народа ад фашысцкага прыгнёту.

Для свята Дзень Незалежнасці (Дзень Рэспублікі) неабходна прызначыць тую дату, калі ён афіцыйна быў абвешчана такім. Бяру на сябе смеласць заявіць, што нам яшчэ зусім не карэктна ў любы з каляндарных дзён адзначаць свята Незалежнасці, бо да яго вой як далёка — і не так паводле эканамічных ці палітычных паказнікаў, як па этнакультурных. Краіна не можа быць незалежнай, калі ў яе афіцыйным жыцці пануе чужая мова, хаця яна насуперак логіцы і шматкроць названая кіраўніком краіны роднай. Чужая мова несумяшчальная з дзяржаўным суверэнітэтам, ёсць самая магутная зброя ў барацьбе з нацыянальнай ідэнтычнасцю, этнакультурнай спецыфікай Беларусі. У сучасных варунках няма ніякіх падставаў святкаваць незалежнасць Рэспублікі Беларусь, таму давайце не будзем далей ашукваць саміх сябе, а эпахальны для нас дзень 3 ліпеня адзначаць як дзень вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў, як гэта разумна, абгрунтавана практыкавалася да 1996 года нашымі папярэднікамі.

Днём Незалежнасці Беларусі (Днём Рэспублікі) могуць быць, як ужо сказана вышэй, 27 ліпеня, паколькі ў 1990 годзе Вярхоўны Савет БССР прыняў «Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі», або 25 жніўня, бо гэта тая дата, калі Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон «Аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».

А калі глянуць глыбей, у самы корань, дык сучасная Рэспубліка Беларусь так і не выйшла на ўзровень суверэннай дзяржавы і галоўным чынам па віне саміх яе ўладаў. За час існавання прэзідэнцкай сістэмы кіравання мы не прайшлі сур’ёзнай школы суверэннага развіцця. І гэта амаль за чвэрць стагоддзя! Мы вельмі істотна падрываем свой нацыянальны суверэнітэт, будуючы супольна з Расіяй Саюзную дзяржаву, у якой пры яе канчатковым сканструяванні Беларусь будзе выступаць у ролі пігмея. Працэс стварэння Саюзнай дзяржавы яшчэ не завершаны (і няхай такое ніколі не збудзецца!), а мы ўжо ў яе інтарэсах выкінулі за борт родную беларускую мову і ўсе сферы афіцыйнага жыцця, як і ў Расіі абслугоўваем рускай мовай, што адпаведным чынам (зразумела: самым горшым) паўплывала і на беларускую мову як на сродак камунікатыўных зносін паміж людзьмі. Яна практычна і тут адсутнічае. Сучасныя беларусы — гэта нішто іншае, як рускамоўнае насельніцтва. Рускімі іх нельга назваць, бо для гэтага аднаго моўнага фактару недастаткова.

Суверэнная, як мы ўжо даўно неапраўдана звыкліся з гэтым словам, Рэспубліка Беларусь яшчэ ніколі не знаходзілася ў такой страшэннай, глабальнай культурна-моўнай залежнасці ад Расіі, як сёння! Таму смеху вартыя ўсе гэтыя вайсковыя парады, рознага роду культурныя, ідэалагічныя мерапрыемствы, што ладзяцца ўладамі 3 ліпеня ў гонар Дня Незалежнасці (Дня Рэспублікі), выдаючы жаданае за сапраўднае. І самае страшнае, недарэчнае, што дзеля гэтай уяўнай незалежнасці палітыкі пайшлі на ахвяраванне рэальнай датай вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў — 3 ліпеня.

Многія могуць здзівіцца, не пагадзіцца са мною, што ў большасці палітыкаў, ідэолагаў Расіі погляд на разгляданую тут дату больш справядлівы, аб’ектыўны, чым у іх беларускіх калег. Для першых 3 ліпеня — гэта Дзень вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў — і баста! Спашлемся на словы з леташняй прывітальнай тэлеграмы Уладзіміра Пуціна на адрас Аляксандра Лукашэнкі і беларускага народа: «3 июля — знаменательная дата в истории Беларуси. Освобождение Минска от немецко-фашистских захватчиков стало одной из важнейших побед, которые одержали наши отцы и деды в годы Великой Отечественной войны. Завещанные ими братская дружба и взаимопомощь и сегодня служат надежной основой развития российско-белорусских связей». Пра Дзень жа незалежнасці — ні слова!

У палітычных колах Расіі Беларусь па-сур’ёзнаму не ўспрымаецца як незалежная, суверэнная дзяржава. Для гэтага ёй трэба быць у разы больш моцнай у эканамічным вымярэнні і ажыццявіць буйнамаштабныя пераўтварэнні ў духоўнай сферы, вывеўшы яе з чужога рускага ва ўласна беларускае культурна-моўнае рэчышча. У гэтай архіважнай нацыястваральнай сферы ў нас проста татальная залежнасць ад Расіі, што не дае палітычнаму кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь аніякіх падстаў на поўным сур’ёзе гаварыць пра нацыянальны суверэнітэт, тым больш, паўтару яшчэ раз, ладзіць з такой нагоды вайсковыя парады. Гэта ніколькі не робіць краіну незалежнай.

Такой яна можа стаць толькі тады, калі будзе мець у корані адрозную ад Расіі культурна-моўную прастору, адметныя ад свайго ўсходняга суседа нацыястваральную дзяржаўную палітыку, нацыянальнае аблічча базавага, тытульнага народа краіны. Усё, што свядома рабіла і робіць вертыкаль кіраўніка дзяржавы па сціранні культурна-моўных адрозненняў паміж беларускім і рускім народамі на карысць апошняга — гэта не проста памылка, а паводле ўсіх сваіх параметраў сапраўдная нацыянальная здрада, паколькі ў такой сітуацыі нельга забяспечыць краіне фактычную дзяржаўную незалежнасць. Калі ж рэальнасцю стане супольная з Расіяй Саюзная дзяржава, Беларусі са сваім татальна зрусіфікаваным тытульным народам нязначна лепш будзе жыць, чым выкінутай з вады на бераг рыбе.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Даеш могілкавы турызм!

Дэпутаты камітэта Саратаўскай абласной думы па спорце, турызме і справах моладзі зрабілі свой унёсак у праект федэральнага закона аб замацаванні ў заканадаўстве вызначэння паняцця сельскага турызму. У прыватнасці, яны прапанавалі развіваць могілкавы турызм. Аргумент наступны: паходы на могілкі садзейнічаюць любові да радзімы. Акрамя таго, некаторыя могілкі сапраўды цікавыя для турыстаў. У нечым дэпутаты маюць рацыю. Апошнім часам у свеце шмат экзатычных формаў турызму. Напрыклад, на Поўначы Расіі квітнее алкатурызм, калі скандынавы едуць у Піцер за таннай гарэлкай. Ёсць цікавасць і да могілак. Могілкі Пер-Лашэз у Парыжы даўно з'яўляюцца месцам паломніцтва турыстаў, якія хочуць убачыць магілы Джыма Морысана, Эдыт Піяф, Нестара Махно і іншых славутасцяў. Аднак саратаўскія могілкі не сталі апошнім прыстанкам такіх вядомых персон, таму ініцыятыва выклікала кпіны і жартоўныя прапановы паглыбіць і развіць ідэю. Напрыклад, прапануецца вадзіць турыстычныя экскурсіі не толькі па могілках, але па моргах і будоўлях, па сметніках і ямах. А калі хто не захоча ісці ў такія туры — саджаць іх на два гады за абразу пачуццяў тых, хто верыць у расійскі турызм.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Каталонцы пакаяліся, іспанцы — не

Не так даўно Мексіка запатрабавала ад Іспаніі выбачэнняў за злачынствы іспанскіх канкістадораў Картэса супраць мясцовых абарыгенаў падчас заваёвы Новага Свету. Мадрыд адрэагаваў на прапанову без энтузіязму. А вось каталонскія нацыяналісты падтрымалі тэзіс мексіканцаў. Як вынік, днямі ўрад Каталоніі вуснамі кіраўніка міжнароднага дэпартамента прынёс прабачэнні Мексіцы за тое, што нарабіў Картэс. На думку чыноўніка, галоўная віна канкістадораў — у тым, што іх дзеянні «прывялі да падаўлення мясцовага насельніцтва і культуры». Каталонцы таксама прапанавалі свае паслугі ў якасці медыятараў у перамовах паміж Мадрыдам і Мехіка па пытаннях гістарычнай адказнасці іспанцаў за ўчынкі канкістадораў. Наўрад ці гэтая ініцыятыва будзе мець развіццё. У тым ліку таму, што некаторыя мексіканскія арганізацыі хочуць ускласці на Мадрыд адказнасць за «генацыд прашчураў». Затое рашэнне каталонскага ўрада ўзмацняе ў каталонскім грамадстве фракцыю тых, хто выступае за дэмантаж аднаго з сімвалаў Барселоны — помніка Калумбу.

**Паводле іспанскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Забаранілі лячыцца Каранам

Міністэрства аховы здароўя Узбекістана вырашыла скончыць з адной асобнай групай акультыстаў. Гаворка пра тых, што абяцае вылечыць пацыентаў з дапамогай аятаў — структурнай адзінкі Карана, якая звычайна разумеецца як «верш». Многія вернікі ісламу вераць, што дэкламацыя пэўнага аята можа дапамагчы арганізму. А некаторыя ідуць яшчэ далей: заклікаюць купацца ў вадзе, над якой прачытаны Каран, або піць яе ці ўціраць у раны. У інтэрнэце можна прачытаць пра 118 канкрэтных выпадкаў, калі з дапамогай аятаў Карана вылечылі цяжкія формы раку. Так ці інакш, адмысловай пастановай узбекскае Міністэрства аховы здароўя аднесла лячэнне аятамі да акультызму, што не адносіцца да «народнай медыцыны». Цяжка сказаць, ці зможа гэта спыніць аматараў аятаў. Справа ў тым, што адзін фрагментаў Карана абвяшчае: «Тое, што мы пасылаем у Каране, з'яўляецца ацаленнем для вернікаў...». Гэтую цытату можна трактаваць як тое, што Каран сапраўды мае тэрапеўтычны эфект.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Дабраліся да Вінету

У 1960-я гады ў заходнім кіно адбылася маленькая рэвалюцыя. Індзейцаў перасталі адлюстроўваць як вар'ятаў, што здымаюць скальпы з белых каланістаў. Сімвалам новага трэнду стаў правадыр апачаў Вінету — герой серыі фільмаў, пастаўленых па матывах кніг нямецкага пісьменніка Карла Мая. Вінету, ролю якога выканаў французскі акцёр П'ер Брыс, вельмі талерантны, паслядоўны змагар за мір і дружбу паміж карэнным насельніцтвам Амерыкі і еўрапейскімі перасяленцамі. Аднак аказалася, што сучасным змагарам за паліткарэктнасць гэтага мала. Супрацоўнікі нямецкай секцыі Міжнароднага інстытута амерыканскіх даследаванняў заявілі, што вобраз Вінету ў кіно зусім не актуальны і не адпавядае цяперашняму бачанню індзейцаў. У прыватнасці, таму, што правадыр выкарыстоўвае каланіяльную лексіку, дапускае, напрыклад, тэрмін «чырванаскуры». Першай ахвярай рэвізіі стаў тэматычны парк Bad Segeberg у зямлі Шлезвіг-Гальштэйн, які эксплуатуе сюжэты і персанажаў твораў Карла Мая. Пакуль дырэкцыя супраціўляецца ціску, спасылаючыся на тое, што ў парку прадстаўлены фігуры з выдуманага свету пісьменніка. Аднак наўрад ці актывісты пакінуць парк у спакоі. У іх ёсць важны козыр — Карл Май быў любімым пісьменнікам Гітлера.

**Паводле нямецкай прэсы**




Фота www.afterempire.info

# Які курс уральскага франка?

*Алег НОВІКАЎ*

**Наступствам нядаўніх пратэстаў у Екацярынбургу стала вяртанне ў расійскую грамадскую дыскусію тэмы пагрозы ўральскага сепаратызму — ідэі стварэння на Урале аўтаномнага суб'екта федэрацыі, або нават незалежнай дзяржавы.**

Апошні раз пра ўральскую дзяржаўнасць так шмат дыскутавалі, напэўна, у далёкім 1993 годзе, калі Свярдлоўскай вобласцю кіраваў харызматычны і амбіцыйны Эдуард Росель. Зрэшты, за феноменам уральскага сепаратызму стаяў не толькі фактар асобы.

Мясцовыя эліты задумаліся пра аўтаномію пад ціскам абставінаў. 31 сакавіка 1992 года была прынятая Федэральная дамова, якая стала часткай Канстытуцыі РСФСР. Гэтая дамова давала магчымасць нацыянальным рэспублікам у складзе РСФСР прымаць уласныя законы, абіраць кіраўнікоў выканаўчай улады і весці самастойную знешнеэканамічную дзейнасць.

У шматлікіх аблвыканкамах, у тым ліку свярдлоўскім, тую дамову палічылі дыскрымінацыйнай у дачыненні да краёў і абласцей, і вырашылі дамагацца такіх жа правоў, як у нацыянальных аўтаномій. Як заяўляў сам Росель: «Нам не патрэбны суверэнітэт, але вельмі патрэбныя эканамічная і заканадаўчая самастойнасць». Дарэчы, з гэтым была згодная большасць насельніцтва краю. Паводле апытання, якое было праведзенае ў рэгіёне 25 красавіка 1993 года, 83% з тых, хто прынялі ў ім удзел, выступілі за тое, каб «Свярдлоўская вобласць па сваіх паўнамоцтвах была раўнапраўная з рэспублікамі ў складзе Расійскай Федэрацыі».

Зыходзячы з вынікаў згаданага плебісцыту, 1 ліпеня 1993 года абласным парламентам была абвешчаная Уральская Рэспубліка. Зрэшты, існаваў не прадугледжаны Канстытуцыяй Расіі суб'ект нядоўга. 9 лістапада таго ж года ўказам Ельцына аблсавет быў распушчаны, а Росель адхілены ад пасады кіраўніка адміністрацыі. Лічыцца, у Крамлі спалохаліся, што антыельцынскі супраціў пасля расстрэлу ў кастрычніку Вярхоўнага Савета можа замацавацца на ўзроўні абласных цэнтраў. Пазней, у 1995 годзе, Росель зноў быў абраны губернатарам Свярдлоўскай вобласці, і перыядычна пераабіраўся на гэтую пасаду аж да 2009 года. Аднак да ідэяў рэнесансу Уральскай Рэспублікі ён больш не вяртаўся.

Але за некалькі месяцаў існавання незвычайнай рэспублікі ў 1993 годзе Росель і кампанія здолелі закласці міф уральскай дзяржаўнасці. Была прынятая Канстытуцыя Уральскай Рэспублікі, распрацаваная навукоўцамі Уральскага аддзялення РАН; надрукаваныя правобразы ўральскіх франкаў — валюты Уральскай Рэспублікі; нарэшце, былі прыдуманы дызайн сцяга аўтаномнага Урала — бела-зялёна-чорны трыкалор.

Менавіта гэты, здавалася, забыты сцяг нечакана стаў з'яўляцца на акцыях пратэсту на Урале з 2012 года. Адначасова паўсталі групы ўральскіх рэспубліканцаў. Гэтую хвалю сепаратыстаў улады хутка задушылі, сфабрыкаваўшы ў 2014 годзе справу аб спробе арганізацыі «Майдана на Урале». Аднак падчас нядаўніх масавых выступаў супраць будаўніцтва храма ў цэнтральным скверы Екацярынбурга бела-зялёна-чорны сцяг зноў з'явіўся на маніфестацыях. Відавочна, што латэнтныя аўтанамісцкія або сепаратысцкія тэндэнцыі ў рэгіёне прысутнічаюць, і пры пэўным раскладзе адразу ж праяўляюцца.

Па змесце сепаратысцкіх рэсурсаў відавочна, што база руху змянілася. У адрозненне ад 1993 года, драйверамі ўральскага праекта выступаюць не «чырвоны дырэктарат» і рэгіянальная бюракраты, а моладзь і прадстаўнікі сярэдняга класа. Гэта адбілася і на праграмных установах. Патрабаванне шырокай аўтаноміі Урала ў складзе Расіі саступіла месца канцэпцыі поўнай незалежнасці ад Масквы. «Праект Уральскай Рэспублікі павінен быць заснаваны як сустрэчны ход грамадзянскай супольнасці на маскоўскую цэнтралізацыю разам з фактычным замацаваннем каланіяльнага статусу Сібіры і Далёкага Усходу», — піша адзін з ідэолагаў праекта.

А некаторыя з сепаратыстаў нават мараць пра будучае сяброўства Урала ў Еўрасаюзе. Тут гаворка, хутчэй, ідзе не пра Свярдлоўскую вобласць, а пра так званы Вялікі Урал — прапанаванае аб'яднанне поясу расійскіх рэгіёнаў ад Арктыкі да Казахстана з насельніцтвам больш за 30 мільёнаў чалавек.

Такія пражэкты гучаць крыху інфантыльна, а іх аўтары, хутчэй, звычайныя тусоўшчыкі, сацыяльныя аўтсайдэры. Напрыклад, адзін з лідараў уральскіх рэспубліканцаў апынуўся жрацом «царквы пастафарыянцаў» (вера ў звышнатуральнага ствральніка, падобнага да макароніны), а таксама правадыром «Руху за адраджэнне гусараў». Не кажучы ўжо пра галоўную праблему — уральская самаідэнтыфікацыя на сёння не азначае прыналежнасці да пэўнага этнасу.

Аднак адмаўляць высокі ўзровень незадаволенасці палітыкай цэнтральных уладаў у Екацярынбургу нельга. Сталіца Урала — мегаполіс з высокай колькасцю адукаваных людзей, шматлікімі ВНУ, развітым бізнесам і досыць высокай грамадзянскай свядомасцю. Толькі ў Екацярынбургу мэрам горада ў часы Пуціна прымудрыўся стаць несістэмны грамадскі актывіст Яўген Ройзман. Таму наўрад ці ідэю Уральскай рэспублікі атрымаецца ператварыць у хімеру.

Застаецца агучыць самы незвычайны сцэнар наконт перспектыў уральскай дзяржаўнасці аўтарства журналіста Алега Лур'е. На яго думку, бліжэйшым часам трэба чакаць новай серыі акцый за выхад Урала са складу Расіі. Прычым, аднычасова грамадству будзе навязацца тэма, што лідарам незалежнай Уральскай Рэспублікі павінен стаць Аляксей Навальны.

# Іншая інтэграцыя

Алег НОВІКАЎ

**Польшча адсвяткуе 450-ю гадавіну Люблінскай уніі, значэнне якой для лёсу беларусаў цяжка пераацаніць.**

Як звычайна, у падобных мерапрыемствах не абыдзецца без гістарычных рэканструкцый. Рэканструктары абяцаюць на нейкі час адрадзіць у Любліне атмасферу сярэдзіны XVI стагоддзя. Для гэтага ў цэнтры горада паўстане вайсковы лагер, а рыцары будуць шпацыраваць па вуліцах. Жыхары Любліна і турысты змогуць паспытаць сярэднявечныя стравы, паглядзець шоу тагачасных убораў, тэатральныя пастаноўкі і рэканструкцыі рыцарскіх турніраў. Цвіком імпрэзы, як чакаецца, будзе праезд караля Жыгімонта Аўгуста разам з аховай і дваром. Польскае Мінабароны абяцае незвычайны авіяцыйны парад.

Гэта — забаўкі. Што тычыцца сур'ёзных ацэнак юбілею, то польскія публіцысты называюць акт 450-гадовай даўніны адным з самых важных дакументаў у еўрапейскай гісторыі. Па выніках яго рэалізацыі паўстала Рэч Паспалітая абедзвюх народаў — адзін з першых федэральных эксперыментаў на кантыненце. Таксама паводле Люблінскай уніі стваралася сістэма з Соймам і Сенатам. Хаця абіраліся туды толькі прадстаўнікі шляхты, гэта была найбольш дэмакратычная мадэль у Еўропе на працягу 200 гадоў — аж да Французскай рэвалюцыі.

З іншага боку, у Люблінскай уніі хапае і крытыкаў. На думку аўтарытэтнага часопіса «Newsweek», люблінскі праект быў напісаны згодна з патрабаваннямі шляхты, якая дыктавала сваю волю каралю. Такая дзяржаўная канструкцыя не ўпісалася ў перыяд абсалютных манархій і ў выніку аказалася асуджанай на крах.

Цікавая думка наконт таго, што Люблінская ўнія ніколі б не адбылася без такога фактару, як Расія. З'яўленне на Усходзе моцнага суседа, прычым з агрэсіўнымі намерамі, прымушала арыстакратаў Літвы і Польшчы забыцца пра старыя спрэчкі. Праўда, знайсці кампраміс адразу не атрымалася. Для дэлегацыі з ВКЛ было прынцыпова захаваць свой Сойм. Прапаноўвалася абіраць агульнага караля на польска-літоўскай мяжы. А 1 сакавіка дэлегацыя ВКЛ увогуле пакінула Люблін, што, падавалася, ставіла крыж на праекце адзінай дзяржавы.

У адказ палякі абвясцілі пра далучэнне да Каралеўства Польскага Валыні і Падляшша, а пазней — Кіеўскага і Брацлаўскага ваяводстваў. Магнаты ВКЛ не здолелі абараніць гэтыя землі і былі вымушаныя вярнуцца да перамоваў у Любліне. Гэтым разам ім удалося выгандлеваць для сябе прывілеі польскай шляхты, захаванне за беларускай мовай статусу афіцыйнай, а таксама прававой аўтаноміі. 28 чэрвеня дакумент быў падпісаны, а 1 ліпеня яго ратыфікаваў манарх.

**Рэч Паспалітая была не ўнітарнай дзяржавай, а сапраўднай федэрацыяй. Па сутнасці, ідэя федэрацыі з Польшчай аказалася па-за мэйнстрымам грамадскай думкі ў Беларусі і Літве толькі на пачатку мінулага стагоддзя**

Рэч Паспалітая была не ўнітарнай дзяржавай, а сапраўднай федэрацыяй, што, дарэчы, засведчыла будучая гісторыя. Так, лозунг адраджэння дзяржавы двух народаў прысутнічаў у праграме польскіх і беларускіх інсургентаў 1863 года. Па сутнасці, ідэя федэрацыі з Польшчай аказалася па-за мэйнстрымам грамадскай думкі ў Беларусі і Літве толькі на пачатку мінулага стагоддзя.

Дарэчы, што да прысутнасці на юбілеі беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў, якія таксама ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, то Беларусь у Любліне будзе прадстаўленая выключна гістарычнымі рэканструктарамі. Прынамсі, плануецца, што ў Любліне будзе пабудаваны спецыяльны лагер шляхты ВКЛ.

Што да Літвы, то з Вільні чакаюць афіцыйную дэлегацыю, аднак яе ўзровень будзе не вельмі высокі. Гэта можна растлумачыць працяглымі спрэчкамі паміж Варшавай і Вільняй наконт правоў польскай меншасці ў Літве. Хаця ёсць надзея, што пасля нядаўняга абрання літоўскім прэзідэнтам больш ліберальнага Гітанаса Наўседы адносіны паміж краінамі палепшацца.

Найбольш дзіўна выглядае, што ў спісе афіцыйных замежных дэлегацый, якія чакаюцца ў Любліне, няма Украіны. Цяперашні Кіеў надае вялікую ўвагу еўрапейскаму выбару і шукае яго канцэптуальныя вытокі ў тым ліку ў часах, калі край быў у складзе Рэчы Паспалітай. У лютым папярэдні прэзідэнт Пётр Парашэнка ў час візіту ў Люблін заявіў: «Дзякую за запрашэнне ў гістарычнае для нашых краін месца, горад Люблін. Як і 450 гадоў таму, калі ў Любліне заключылі Люблінскую ўнію, горад Люблін — сімвал магутнага саюза Літвы, Польшчы і Украіны». Тым не менш, украінцаў цяпер у Любліне няма. Гэта можна растлумачыць перазагрузкай улады пасля перамогі Зяленскага.

Слабае прадстаўніцтва на ўрачыстасцях у Любліне краін, якія калісьці ўваходзілі ў склад ВКЛ, — безумоўна, вялікі мінус для мерапрыемстваў. Але, з іншага боку, для гэтага была патрэбная воля і жаданне не Варшавы, а перш за ўсё Вільні, Мінска і Кіева.



Ян Матэйка «Люблінская унія», 1869 год

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Уладзімір Зяленскі



Праз месяц пасля ўступлення на пасаду ўкраінскі прэзідэнт апынуўся ў цэнтры скандалу. Усё з-за рашэння дэпутатаў Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы (ПАРЕ) вярнуць расійскую дэлегацыю ў сваю структуру.

Расіяне адсутнічалі ў ПАРЕ з вясны 2014-га, калі краіну пазбавілі права голасу ў межах санкцый за анексію Крыма. У прынцыпе, ПАРЕ — гэта, хутчэй, кансультатыўны орган, аднак украінцам выключэнне расіян з Асамблеі РЕ ўвесь час падавалі як грандыёзны поспех Кіева. Як вынік, цяперашняе вяртанне расіян стала для многіх украінцаў велізарнай здрадай. Адказным за яе многія спрабуюць зрабіць Зяленскага. Як высветлілася, ён ведаў пра планы Берліна і Парыжа вярнуць Расію ў ПАРЕ яшчэ два тыдні таму, але асабліва на гэтую навіну не адрэагаваў.

У папрок прэзідэнту ставяць і тое, што ён не выступіў у Страсбургу падчас дэбатаў наконт вяртання расійскай дэлегацыі. Ужо запушчаны мэм пра тое, што Зялінскі ў гэты час еў шаурму (шаурма выпадкова стала адным з брэндаў новай улады). За пракол Зяленскага спрабуе ўхапіцца апазіцыя ў асобе Пятра Парашэнкі. Экс-прэзідэнт лічыць, што гэта самы моцны ўдар па знешнепалітычных пазіцыях Украіны за апошнія пяць гадоў.

Тым часам усё ідзе да таго, што Украіна можа прыпыніць працу ў ПАРЕ, што надасць крызісу новы імпульс. Застаецца пачакаць, як уся гэтая гісторыя адаб'ецца на выніках парламенцкіх выбараў 21 ліпеня.

### Джордж Сорас



Мільярдэр, кіраўнік фонду «Адкрытае грамадства», мае намер зрабіць тое што не здолела нямецкая дэмакратычная грамадскасць. А менавіта заблакаваць рост ультраправых і еўрафобскіх настрояў ва Усходняй Германіі.

Папулярнасць гэтых настрояў ілюструе высокі рэйтынг партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), якая на травеньскіх выбарах у Еўрапарламент у чатырох з пяці ўсходнегерманскіх земляў выйграла выбары ці прыйшла другой. А на мінулым тыдні мэрам аднаго з гарадоў у гэтым рэгіёне ледзь не стаў кандыдат ад «Альтэрнатывы для Германіі». Не дапусціць перамогі папуліста змаглі агульныя намаганні ўсіх дэмакратычных партый, але наўрад ці гэта панацэя, паколькі частка кансерватараў дапускае тактычныя блокі з AfD. Зараз на дапамогу прыходзіць Сорас, які абяцае напампаваць грамадзянскі сектар фінансамі.

Шмат хто чакаў падобнага кроку ад Сораса пасля таго, як нядаўна венгерскі ўрад Віктара Орбана закрыў яго бюро ў Будапешце. Між тым, кансерватыўная прэса ФРГ баіцца, што мільярдэр праследуе іншыя мэты. Падазраюць, што ён мае намер праз свой нямецкі філіял аказваць ускосную падтрымку мясцовай партыі «Зялёных». Не так даўно Сорас назваў нямецкіх эколагаў адзінай паслядоўна праеўрапейскай партыяй у Германіі. Актывізацыя ідэйна блізкіх да эколагаў грамадзянскіх ініцыятыў Сораса можа дапамагчы «Зялёным» прыйсці да ўлады.

### Іван Дуке



Прэзідэнт Калумбіі ўсклаў адказнасць за экалагічны крызіс у яго краіне на еўрапейскі сярэдні клас.

У гэтым асяроддзі папулярна ўжываць какаін, які наркамафія нелегальна пастаўляе з Калумбіі. Штогод экспарт атруты расце на 16 працэнтаў. Попыт на какаін штурхае бедных калумбійцаў высякаць трапічныя лясы пад плантацыі кокі — расліны, на базе якой вырабляецца наркотык. Насельніцтва праз кантакты з картэлямі наркабаронаў крыміналізуецца. Кантрабанда кокі таксама з'яўляецца фінансавым падмуркам існавання камуністычнага партызанскага руху.

Маналогі Дуке могуць падацца кур'ёзнымі, аднак як мінімум у Вялікабрытаніі яны выклікалі цікавасць. У гэтай краіне паралельна праходзяць выбары лідара кансерватыўнай партыі, які ўзначаліць брытанскі кабінет. Пры гэтым двое з кандыдатаў (Борыс Джонсан і Майкл Гоув) на прапіску на Даўнінг-Стрыт, 10 падчас кампаніі прызналіся ва ўжыванні ў маладосці какаіну. Заявы Дуке пагоршылі іх шанцы.

Зрэшты, значна больш негатыўна на перспектывы таго ж Джонсана паўплываў незвычайны выпадак у мінулую пятніцу. З-за таго, што Джонсан праліў на падушку і канапу чырвонае віно, яго сяброўка ўзняла жахлівы енк, а яе словы: «Не чапай мяне!» пачулі ўсе суседзі. Крыкі былі працяглымі і гучнымі настолькі, што суседзі выклікалі паліцыю. Пасля гэтага папулярнасць Джонсана, якога падазраюць у кепскім стаўленні да жанчын, імкліва ўпала.

# Забытыя ахвяры



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Як у савецкія часы, так і сёння, у Беларусі назіраецца адмоўнае стаўленне да тых, хто падчас нацысцкай акупацыі Беларусі супрацоўнічаў з немцамі. І гэта зразумела. Мясцовыя памагатыя нацыстаў часам былі горшыя за акупантаў у сваёй нянавісці да мясцовага насельніцтва. Праўда, і сярод гэтай катэгорыі былі простыя людзі, якія выпадкова трапілі на службу ў розныя акупацыйныя структуры, не ўдзельнічалі ў карных акцыях, аднак станавіліся ахвярамі жорсткай вайны, якую нацысцкі рэйх вёў супраць Савецкага Саюза.**

Асобная, малавывучаная, і, на жаль, табуяваная старонка беларускай вайсковай гісторыі — гэта злачынствы савецкіх партызан падчас Другой сусветнай вайны.

## Хлопцы з Ракава

Значная колькасць насельніцтва Беларусі, што засталася пад акупацыяй, вымушаная была зрабіць цяжкі выбар. Або падтрымаць нацыстаў, або стаць на бок савецкіх партызан. Быў яшчэ і трэці шлях: ціха жыць (хутчэй, існаваць) паміж молатам і кавадлам — і прыстасоўвацца. У падобнай сітуацыі былі і жыхары Ракава. Як вядома, да пачатку Другой сусветнай вайны гэта было дастаткова багатае мястэчка. Мяжа з БССР праходзіла амаль за Ракавам, і шматлікія яго жыхары карысталіся гэтым. Нехта займаўся кантрабандай, іншых выкарыстоўвалі польская і савецкая спецслужбы.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР бальшавіцкая ўлада правяла чатыры хвалі дэпартацый жыхароў новых заходніх абласцей Савецкай Беларусі. Тады ж сталінскія рэпрэсіі прайшліся і па даваенным польска-савецкім памежжы. Карацей, жыхарам Ракава не было нагоды сумаваць за савецкай уладай, калі тая памахала рукой у чэрвені 1941 года. Але і «новы парадак» быў жорсткім выпрабаваннем для жыхароў Ракаўшчыны. Летам 1942 года нацысты пачалі фарміраваць Беларускую Самаахову — узброеныя атрады, якія павінны былі выконваць паліцэйскія функцыі. У Мінску былі створаны курсы падрыхтоўкі афіцэраў. Пры гэтым камандзірамі павінны былі стаць былыя афіцэры польскага, савецкага, а, магчыма, і царскага войска. А вось шарагоўцаў у Самаахову набіралі з ліку звычайных беларускіх вясковых і гарадскіх хлопцаў.

Мабілізацыя прайшла і ў былой сталіцы кантрабандыстаў, а таксама навакольных вёсках. Мясцовыя жыхары ўзгадвалі, што горад святочна выпраўляў сваіх навабранцаў у Мінск. Увечары 22 жніўня 1942 года была святочная вячэра, а раніцай наступнага дня атрад у 26 чалавек (зразумела, без зброі і ўніформы) накіраваўся ў бок чыгуначнай станцыі Аляхновічы, адкуль цягніком павінен быў даехаць да Мінска.

Варта адзначыць, што ў гэты час на тэрыторыі Беларусі ўжо актыўна дзейнічалі савецкія партызанскія атрады. Некаторыя з іх складаліся з акружэнцаў, іншыя ўяўлялі сабою спецыяльныя атрады НКУС, накіраваныя з «Вялікай зямлі». У іх задачу ўваходзіла не толькі барацьба супраць немцаў, але і паўсюднае знішчэнне нацысцкіх памагатых і калабарантаў.

У дырэктыве ЦК ВКП(б) пра разгортванне партызанскай вайны ў тыле ворага, накіраванай партыйным, савецкім і камсамольскім арганізацыям, у прыватнасці, падкрэслівалася: «...знішчаць ворагаў, не даваць ім спакою ні днём, ні ноччу. Забіваць іх паўсюль, дзе заспееце, забіваць чым папала: касой, ломам, віламі, нажом. Дзеля знішчэння ворагу не саромейцеся прыбягаць да любых сродкаў: душыце, сячыце, паліце, травіце фашысцкую гадзіну».



Савецкія партызаны



Савецкія партызаны

**Жыхарам Ракава не было нагоды сумаваць за савецкай уладай, калі тая памахала рукой у чэрвені 1941 года. Але і «новы парадак» быў жорсткім выпрабаваннем для жыхароў Ракаўшчыны**



Магіла ў Вялікіх Жукавічах



Магілы ахвяр забойства 1942 года ў Ракаве

# партызанскай вайны

Большасць партызанскіх камандзіраў, якія пасля Другой сусветнай пісалі мемуары ці давалі інтэрв'ю, прызнавалася, што пры знішчэнні паліцаяў і іншых беларускіх калабарантаў выконвалі маскоўскія дырэктывы літаральна. Галоўнай логікай «народных мсціўцаў» быў пастулат: «Вайна ідзе не на жыццё, а на смерць. У бай няма часу разбірацца, ці то памагаты, які страляў габрэяў у гета, ці звычайны беларускі хлопец, які ўчора вучыўся ў школе, а сёння вымушаны быў надзець чорны паліцэйскі мундзір. Вораг павінен быць знішчаны!»

Відавочна, гэтай дырэктывай кіраваліся і савецкія партызаны, якія заселі ў засадзе паміж вёскамі Бузуны і Валкоўшчына і чакалі ракаўскіх хлопцаў. Калі тыя з'явіліся, усіх атачылі і павялі ў лес. Там адбылася трагедыя. Маладых жыхароў Ракава, якія атрымалі позвы на службу ў Беларускую Самаахову, забілі. Пры гэтым «народныя мсціўцы» бераглі патроны — людзей забівалі штыхамі.

Пра трагедыю ракаўчане даведаліся вельмі хутка. Жыхар Ракава Станіслаў Руткоўскі ўзгадваў, што ў дзень пахавання касцёл і царква былі застаўленыя трунамі, а пахавальная працэсія расцягнулася на некалькі соцень метраў. Магілы забітых у 1942 годзе ракаўскіх хлопцаў захаваліся да нашых дзён.

На каталіцкіх могілках ёсць два пахаванні. У адным з іх пахавана восем чалавек. На надмагільным камяні напісана: «Тут спачываюць сыны Беларусі, якія загінулі ад рук злачынцаў 23 жніўня 1942 года. Вайткевіч С., Сасноўскі А., Нагорны В., Бабровіч І., Багдановіч Б., Духно М., Клайн Е., Філон П. Памяць ад мясцовай беларускай улады ў Ракаве 28 жніўня 1942 года». Побач пахаваны 18-гадовы Язэп Маеўскі, які таксама загінуў у савецкай засадзе.

На праваслаўных могілках Ракава пахаваны 20-гадовы Валянцін Іванавіч Нарушэвіч. Гэты хлопец добраахвотна пайшоў на службу ў Беларускую Самаахову, аднак да Мінску так і не даехаў. Большасць забітых былі падлеткамі. Яны, напэўна, не былі нацыстамі, на іх руках не было крыві мірнага насельніцтва. Магчыма, нехта з іх хацеў паквітацца з бальшавікамі за рэпрэсаванага сваяка, іншы наіўна верыў, што немцы дапамогуць стварыць беларусам незалежную Беларусь. Аднак іх жыццёвы шлях спынілі штыхі «народных мсціўцаў».

Што ж тычыцца акупацыйнай паліцыі ў Ракаве, то яе гісторыя патрабуе глыбокага аналізу. Пра тых, хто з жыхароў горада на Іслачы ў гады нацысцкай акупацыі Беларусі вырашыў надзець чорны мундзір, інфармацыі мала. У пасляваенны час пра гэта не ўзгадвалі. Вядома, што начальнікам беларускай паліцыі ў былой сталіцы кантрабандыстаў быў Мікалай Зянкевіч. Паводле савецкіх дадзеных, у лютым 1942 года гэты чалавек адказваў за знішчэнне ракаўскіх габрэяў, калі апошніх спалілі ў мясцовай сінагозе.




Паліцай, забіты партызанамі

У сваю чаргу, паводле польскіх крыніц, большасць беларускіх паліцыянтаў з Ракава… дапамагала польскім і савецкім партызанам! Так, начальнік Зянкевіч быў на сувязі з «народнымі мсціўцамі», а пазней сышоў у лес і ў 1944 годзе ўдзельнічаў у Варшаўскім паўстанні, дзе і загінуў падчас баёў за Гданьскі вакзал. Супрацоўніцы паліцыі ў Ракаве Ірына Шышлоўская і Яніна Кажаноўская гатавалі ежу для паліцыянтаў, а таксама для партызан. Іншыя паліцыянты таксама мелі сувязь з Арміяй Краёвай.

### Ахвяры з Вілейшчыны

Такіх трагедый, якая адбылася ў Ракаве, у Беларусі падчас акупацыі было вельмі шмат. Зімой таго ж 1942 года атрад «народных мсціўцаў», які складаўся ці то з акружэнцаў, ці то з супрацоўнікаў НКУС, увайшоў у вёску Чарвякі (зараз Сакалоўка), што пад Вілейкай, і забіў там сям'ю былога польскага лесніка Сцяпана Валовіка. На момант забойства хлопцу было 22 гады. Падчас бамбёжкі ў чэрвені 1941 года яго хата згарэла, таму сям'я лесніка вымушаная была перайсці ў невялікую старожку. Разам з хлопцам загінула яго жонка Аляксандра (1921 г.н.), двое дзетак (хлопчык і дзяўчынка 1940 і 1942 г.н.), сёстры Кацярына (1924 г.н.) і Надзея (1923 г.н.), маці лесніка Марыля (1880 г.н.), а таксама некалькі іх сваякоў. Маці лесніка перад смерцю ўзяла на рукі ўнучку, якой было ўсяго некалькі месяцаў. І тут прагучалі стрэлы. Забойцы стралялі ў твары ахвярам. Параненая Надзея Валовік спрабавала збегчы, аднак яе дабілі штыхамі. Адзіны, каму ўдалося ўратавацца, быў брат лесніка Васіль, які пад кулямі здолеў дабегчы да лесу і схавацца. Гэты чалавек потым распавёў, што яго сваякоў забілі нібыта за супрацу з немцамі. Але Сцяпана Валовік проста ахоўваў лес…

Падобная трагедыя ў 1942 годзе адбылася і ў вёсцы Навасёлкі (пад Вілейкай), дзе невядомыя забілі сям'ю Івана Мардаса. Як адзначае краязнаўца Алесь Раткевіч, прычынай забойства была сувязь швагра ахвяры з немцамі. Як і ў выпадку з сям'ёй Валовіка, «народныя мсціўцы» напалі на вяскоўцаў уначы і расстралялі ўсіх. Тады загінулі Іван Мардас (1900 г.н.), яго жонка Марыя (1902 г.н.), брат Антон (1912 г. н.), сыны Стась (1922 г.н.), Віктар (1927 г.н.) і Улад (1935 г.н.), дачкі Янка (1923 г.н.), Марыся (1924 г.н.) і месячнае немаўля (1942 г.н.). Пасля расстрэлу «партызаны» сабралі мясцовых мужыкоў і загадалі закапаць «здраднікаў Айчыны». Пры гэтым адзін з дарослых мужчын, што прыйшоў хаваць нябожчыкаў, страціў прытомнасць ад убачанага. Паўсюль былі лужыны крыві.

Увогуле, паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, «госці з лесу» ўдосталь паздзекаваліся са шматлікіх мясцовых жыхароў. На немцаў нападаць яны баяліся, а вось звычайныя сяляне і іх маёмасць былі для іх лёгкай здабычай. Тых, хто спрабаваў ім супрацьстаяць, забівалі. Напрыклад, селянін Янук Юшкевіч назваў гэтых «партызан» злачынцамі, за што быў спачатку збіты, а потым забіты шомпалам у вуха. Кастусь Іванец вазіў немцам рыбу ў Ілью. За гэта яго забілі, як памагатага. Пасля Другой сусветнай вайны сваякі Сцяпана Валовіка спрабавалі высветліць, хто ж забіў сям'ю гэтага чалавека, але хутка іх папярэдзілі, што не трэба займацца гэтай справай. Ахвярамі «лясных мсціўцаў» у 1942 годзе сталі таксама сем'і Арцішэўскіх і Паўлюкевічаў з вёскі Батурына.

**Пра трагедыю ракаўчане даведаліся вельмі хутка. Жыхар Ракава Станіслаў Руткоўскі ўзгадваў, што ў дзень пахавання касцёл і царква былі застаўленыя трунамі, а пахавальная працэсія расцягнулася на некалькі соцень метраў. Магілы забітых у 1942 годзе хлопцаў захаваліся да сёння**

Большасць з іх на момант гібелі былі падлеткамі, але гэта не спыніла забойцаў.

### Таямнічае пахаванне

Калі гісторыя ахвяраў у Ракаве і на Вілейшчыне больш-менш вядомая, то гісторыя брацкай магілы ў вёсцы Вялікія Жухавічы пад Мірам па сёння хавае таямніцу. Там, ля мясцовай царквы, знаходзіцца брацкая магіла супрацоўнікаў мясцовай паліцыі. Па стане гранітнага помніку бачна, што пасля вызвалення Беларусі ад нацыстаў савецкая ўлада спрабавала яго знішчыць. Аднак помнік перажыў гэтыя выпрабаванні і дайшоў да нашых дзён. На жаль, надпіс на ім захаваўся ў вельмі кепскім стане. «Светлай памяці васьмі барацьбітоў, якія загінулі Х.1943 г. за адбудову Бацькаўшчыны і Новай Эўропы. Хроз (?) Канстанцін Ул. (нар. 1919 г.), Лубко (?) Міхась Ул. (нар. 1917 г.), Сенін (?) Язэп Алякс. (1912 г.), Ечко (?) Павел Сымонавіч (нар. 1918 г.), Уцко Іван Сымонавіч (нар. 1921 г.), …Мікалай Ул. (нар 1924 г.), Рэўт Анатолій Вінц. (нар. 1924 г.), …Уладзімір Ю. (нар. 1920 г.). Памяць іх… Ад службы парадку і валаснай управы ў Жухавічах», — напісана на помніку, пастаўленым у 1943 годзе.

На жаль, пакуль не вядома, пры якіх абставінах загінулі гэтыя паліцыянты. Бачна, што самаму малодшаму з іх на момант гібелі было 19 гадоў, а старэйшаму — 31. Паўтаруся, помнік пашкоджаны, таму нават не ўяўляецца магчымым прачытаць прозвішчы пахаваных у гэтай магіле. Дакладна не вядома і тое, удзельнічалі гэтыя людзі ў карных акцыях, ці нават не паспелі, як хлопцы з Ракава, апрануць чорны паліцэйскі мундзір.

Як бы тое не было, гісторыю Другой сусветнай вайны трэба разглядаць з беларускага пункту гледжання і аналізаваць кожную чалавечую гісторыю не з савецкіх, ідэалагізаваных пазіцый, а з агульначалавечых. Толькі тады мы зможам зрабіць паўнавартасны аналіз таго, што адбывалася на беларускай зямлі падчас перыяду нацысцкай акупацыі.




Савецкая ўлётка

# БагатаДата

**Візіт Ніксана ў Мінск, 25-годдзе беларускага метро, а таксама іншыя круглыя даты і юбілеі ў нашым аглядзе.**

### 29 чэрвеня

**1984.** Запрацаваў Мінскі метрапалітэн. Больш «падземкі» нідзе ў Беларусі няма. Мінск стаў дзявятым горадам у былым СССР, дзе з'явілася метро. Яго будавалі толькі ў савецкіх гарадах-мільённіках. Мільён жыхароў стаў пражываць у сталіцы БССР у 1972 годзе, а ў 1974-м быў зацверджаны план будаўніцтва метро. Цягнікі запусцілі ад станцыі «Маскоўская» да станцыі «Інстытут культуры» ў гэты дзень 35 гадоў таму, але толькі для правадыроў рэспублікі. Для астатняга народа метрапалітэн адчыніўся на дзень пазней. Сёння Мінскі метрапалітэн складаецца з 29 станцыяў на дзвюх лініях. Будуецца трэцяя.

### 30 чэрвеня

**2014.** Памёр акцёр Купалаўскага тэатра Сяргей Краўчанка. Ролі: Данілка («Раскіданае гняздо»), Мядзведзенка («Чайка»), Тэзей («Сон у чарадзейную ноч пасярэдзіне лета»), Дункан («Макбет»).




### 1 ліпеня

**1974.** Мінск упершыню наведаў прэзідэнт ЗША — Рычард Ніксан. Гэта адбылося падчас турнэ ў Савецкі Саюз. Ніксан разам з Леанідам Брэжневым завітаў сюды пасля Крыму. Цікава, што ў Мінску Ніксан пабыў незадоўга да сваёй адстаўкі праз палітычны скандал «Уотэргейт». З нагоды 30-годдзя вызвалення Мінска і Беларусі ад фашыстаў амерыканскі прэзідэнт усклаў вянок на плошчы Перамогі і наведаў мемарыяльны комплекс «Хатынь».

### 2 ліпеня

**1909.** У горадзе Дальнерэчанск расійскага Прыморскага краю нарадзіўся Ціхан Бумажкоў. Стаў камісарам аднаго з першых партызанскіх атрадаў у Беларусі падчас Другой сусветнай вайны — «Чырвоны Кастрычнік». Ён і камандзір атрада сталі першымі Героямі Савецкага Саюза сярод партызанаў. Вуліца імя Бумажкова ёсць у Мінску ды іншых гарадах Беларусі.

### 3 ліпеня

**1944.** Вызваленне Мінска Чырвонай Арміяй ад фашыстаў. Баі за горад пачаліся раніцай гэтага дня, а ў другой палове ён быў ужо цалкам вызвалены. У 1995 годзе паводле афіцыйных вынікаў ініцыяванага Лукашэнкам рэферэндуму гэтая дата стала афіцыйным Днём незалежнасці.

**1949.** Нарадзіўся адзін з самых вядомых беларускіх шахматыстаў Віктар Купрэйчык. Грасмайстар Купрэйчык вядомы таксама тым, што ў 1997 годзе як дэлегат Алімпійскага сходу адзіны прагаласаваў супраць абрання Аляксандра Лукашэнкі прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэту. У 2013 годзе імя Віктара Купрэйчыка было занесенае ў Залу славы Міжнароднай шахматнай федэрацыі.

### 4 ліпеня

**1954.** Быў адкрыты манумент Перамогі на аднайменнай плошчы ў цэнтры Мінска. Першапачаткова яго хацелі ўсталяваць на Кастрычніцкай плошчы, зрабіць вышэйшым на 10 метраў і з белага мармуру. У 1961 годзе каля манумента запалілі Вечны агонь.

### 5 ліпеня

**1789.** У маёнтку Пырашава Уздзенскага раёна на Міншчыне нарадзіўся Фадзей (Тадэвуш) Булгарын, папулярны пры жыцці расійскі пісьменнік — заснавальнік жанру фантастычнага рамана, выдавец першага тэатральнага альманаха і першай прыватнай палітычнай і літаратурнай газеты ў Расіі «Паўночная пчала».

**1969.** У Лагойскім раёне на Міншчыне адкрыты мемарыяльны комплекс «Хатынь». Створаны на знак памяці аб ахвярах спаленай 22 сакавіка 1943 года нацыстамі аднайменнай вёскі, а таксама шматлікіх іншых населеных пунктаў, знішчаных разам з іх жыхарамі. Са спаленай Хатыні жывымі засталіся толькі двое дзяцей — іх, параненых ды абгарэлых, падабралі і вылечылі жыхары суседніх вёсак. Выжыў і адзін дарослы — Іосіф Камінскі, які сярод трупаў знайшоў цела свайго параненага сына: хлопчык памёр на яго руках. Гэты момант адлюстраваны ў знакамітай скульптурнай кампазіцыі ў мемарыяльным комплексе.

**1969.** Таксама ў гэты дзень і год быў адкрыты іншы мемарыяльны комплекс — «Курган Славы». Яго насыпалі ў гонар



вайскоўцаў, што бралі ўдзел у аперацыі «Багратыён», у выніку якой была вызваленая Беларусь. Вышыня пагорка разам абеліскам на ім — 70 метраў. Штыкі на абеліску сімвалізуюць 1-ы, 2-і, 3-і Беларускія і 1-ы Прыбалтыйскі франты, што вызвалялі Беларусь.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Дзесяць канцэртаў у пяці гарадах

**Кампанія velcom | A1 працягвае традыцыю правядзення гарадскіх канцэртаў класічнай музыкі пад адкрытым небам. З 29 чэрвеня па 31 жніўня пройдуць 10 канцэртаў фестывалю «Класіка ля Ратушы з velcom | A1».**




З нагоды таго, што гэты сезон фестывалю юбілейны, яго фармат у гэтым годзе значна пашырыцца. Канцэрты пятага сезона «Класіка ля Ратушы з velcom | A1» будуць праходзіць у 5 гарадах Беларусі, і першым з іх стане Віцебск.

Пра тое, якія сюрпрызы чакаюць гледачоў канцэртаў «Класіка ля Ратушы з velcom | A1», яго арганізатары — Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, кампанія velcom | A1 і ДУ «Мінсканцэрт» — распавялі цягам прэс-канферэнцыі. Яна прайшла 19 чэрвеня паралельна ва ўсіх гарадах Беларусі, дзе будуць арганізаваны канцэрты: у Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродна і Мінску. Іх звязаў інтэрактыўны музычны тэлемост: у якасці анонса будучых канцэртаў кожны горад прадставіў сваю музычную «візітку» ў жывым выкананні, а з Мінска ўсім кіраваў дырыжор Музычнай капэлы «Санорус» Аляксандр Хумала.

У гэтым годзе аматараў класічнай музыкі чакае насычаная канцэртная праграма з удзелам ужо знаёмых па папярэдніх сезонах «Класікі ля Ратушы з velcom | A1» калектываў (такіх, як Музычная капэла «Санорус», Дзяржаўны аркестр Рэспублікі Беларусь і Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь) і новых гасцей, у тым ліку з-за мяжы. 10 жніўня на плошчы Свабоды ў Мінску перад гледачамі «Класікі ля Ратушы з velcom | A1» выступіць Эстонскі духавы аркестр.

Першы канцэрт адбудзецца 29 чэрвеня ў Віцебску. Месцам яго правядзення стане плошча Перамогі, а на сцэну падымецца калектыў «Art Music Orchestra». Лаўрэаты і дыпламанты міжнародных конкурсаў, салісты і музыканты аркестра Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь выступяць перад віцебскай публікай з праграмай «Viva, Штраус!».

«На працягу апошніх чатырох гадоў кожная летняя субота была святам для мінчан і гасцей горада. Вельмі прыемна, што дзякуючы падтрымцы velcom | A1 у свой юбілейны сезон фестываль можа прадставіць такую магчымасць жыхарам адразу пяці буйнейшых гарадоў. Іх чакае шмат музычных сюрпрызаў, і я спадзяюся, класічныя канцэрты пад адкрытым небам у Брэсце, Віцебску, Гомелі і Гродна будуць не менш запатрабаванымі, чым гэта звычайна адбываецца ў Мінску, дзе выступленні ўдзельнікаў фестывалю збіраюць тысячы слухачоў», — адзначыла кіраўніца аддзела ўстаноў культуры праўлення культуры Мінгарвыканкама Ганна Шыманская.

Усе 10 канцэртаў «Класікі ля Ратушы» будуць трансліявацца ў прамым эфіры з дапамогай сэрвіса лічбавага тэлебачання VOKA. Акрамя таго, таксама будуць даступныя і запісы канцэртаў. Атрымаць асалоду ад класічнай музыкі можна праз мабільную праграму VOKA ў сетцы любога мабільнага апарата, на сайце voka.tv, а таксама па тэлевізары праз прыстаўку або SMART TV.

Традыцыйна ўваход на канцэрты ў рамках фестывалю «Класіка ля Ратушы з velcom | A1» будзе вольным для ўсіх жадаючых.

**Канцэртная праграма «Класікі ля Ратушы з velcom | A1» у 2019 годзе:**

**Віцебск** (сцэна на пл. Перамогі): 29 чэрвеня — «Art Music Orchestra».

**Гомель** (сцэна на пл. Леніна): 3 ліпеня — «Art Music Orchestra».

**Гродна** (сцэна ў парку Жылібера): 3 ліпеня — ансамбль «Мінск-Класік».

Брэст (сцэна на пл. Леніна): 28 ліпеня — «Art Music Orchestra».

**Мінск** (сцэна на пл. Свабоды):

20 ліпеня — Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь.

27 ліпеня — Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча.

3 жніўня — Музычная капэла «Санорус».

10 жніўня — Эстонскі духавы аркестр «Саксон».

17 жніўня — Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь.

31 жніўня — Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №997

Падпісана да друку 28.06.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.